Наша Гісторыя
10/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.



На першай старонцы вокладкі — Ларыса Геніюш. Фота зроблена ў Зэльве Сяргеем Панізнікам у 1968 годзе. Атрымана пры ласкавым спрыянні Міхася Скоблы.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 09.11.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0571/20.
Наклад 4903.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

15 сакавіка 1943 года ў акупаванай немцамі Вільні Міхал Ромэр, вядомы ў той час дзеяч-«краёвец», наведаў імпрэзу ў Віленскай беларускай гімназіі, прысвечаную 60-годдзю вядомага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча. А паколькі меў шматгадовую звычку весці асабісты дзённік, то тым жа вечарам пад уражаннем ад пачутага і пабачанага занатаваў у яго свае развагі пра беларусаў і іх парадаксальна жывучую нацыянальную ідэю: «Беларускі рух, які развіваецца ў нечувана цяжкіх палітычных умовах і перспектывах, яшчэ перажывае перыяд першапачатковага рамантызму. Ён пастаянна расколваецца, ламаецца, душыцца ў асобах найлепшых і найруплівейшых сваіх дзеячаў, топчацца саветамі і, на жаль, таксама Польшчай — аднак пастаянна адраджаецца і пры кожнай магчымасці, калі толькі ўмовы стануць хоць трошкі спрыяльнейшымі, зноў выплывае на паверхню і з кожным разам паглыбляецца і пашыраецца ў сваёй масавасці. Гэты рух — пакутніцкі. Амаль усе дзеячы, усе правадыры паўміралі маладымі, і амаль кожны тым ці іншым чынам замучаны... Бедная Беларусь! І цяпер перспектывы яе слабыя...»

Ромэр ведаў, пра што казаў. Ён з цікавасцю сачыў за беларускім рухам яшчэ з пачатку XX стагоддзя, з многімі нашымі дзеячамі быў знаёмы асабіста. Але з ягоных колішніх знаёмых жывымі і дзейнымі да таго часу заставаліся адзінкі, а большасць ці памерлі маладымі ад хвароб і іншых нягодаў, ці загінулі ў выніку войнаў і рэпрэсій, ці гібелі ў турмах ды лагерах.

Не памыляўся Ромэр і адносна невясёлых перспектыў беларускага руху. Пасля Другой сусветнай вайны ён, здавалася б, увогуле перастаў існаваць у сваёй нацыянальнай, несавецкай форме. Адныя дзеячы ў страху перад сталінскім тэрорам выправіліся ў эміграцыю на Захад, за «жалезную заслону», а тых, хто застаўся, энкавэдзісты павезлі на ўсход і поўнач, у ГУЛАГ. Ацалець і вярнуцца на бацькаўшчыну пасля смерці Сталіна пашчасціла далёка не ўсім. Многія ж з тых, хто вярнуўся, зламаліся, знясілелі і пасля вяртання ціха дажывалі свой век, стараючыся не надта звяртаць на сябе ўвагу. У іх душы навечна пасяліўся страх.

Але былі і такія, якіх не змаглі зламаць ніякія нягоды. Годна ператрываўшы ўсе выпрабаванні і вярнуўшыся на родную зямлю, да свайго народа, яны зноў браліся за, здавалася б, безнадзейную справу — новае ўрабляннe палетку,ператворанага амаль у дзірван. Гуртуючы і натхняючы сваім прыкладам не толькі амаль зняверанЫх аднагодкаў, але і новае пакаленне беларускіх патрыётаў, якое па традыцыі зноў прарастала там, дзе яго нібыта ніхто і не сеяў. Прарастала для таго, каб у спрыяльны момант стаць на чале новага беларускага адраджэння.

Найяскравейшай асобай такога тыпу ў пасляваеннай Беларусі была паэтка Ларыса Геніюш, якая здзіўляла сваім духоўным подзвігам сучаснікаў і працягвае здзіўляць нас. Пра тое, адкуль у гэтай не надта дужай фізічна жанчыны ўзяўся такі моцны маральны стрыжань, у гэтым нумары «Нашай гісторыі» пішуць Андрэй Скурко і Зміцер Дрозд **(старонкі 4–19)**.


4


32


42


50














55


60


42


78


29


22






78

# Ларыса Геніюш

## *Чаму яна не зламалася*



**Ларыса Геніюш стала прыкладам, як можна выжыць ва ўмовах бесчалавечнага рэжыму і не зламацца. Гэтая беларуска так і не прыняла савецкага грамадзянства. Вернасць ідэалам зрабіла яе маральным магнітам свайго часу. Адкуль узялася такая сіла ў звычайнай дзяўчыны з фальварка Жлобаўцы, што каля Ваўкавыска, піша Андрэй Скурко.**

Для пакалення Ларысы Геніюш Беларусь была краінай страчаных айчынаў. Сады іх маладосці згарэлі ў вайну, палі іх бацькоў забралі ў калгасы. Хутары і фальваркі проста зніклі.

Найлепшыя гады жыцця Геніюш прайшлі за межамі Беларусі. Але любіла яна па-над усё яе — забраную Бацькаўшчыну. І стала бясспрэчным прыкладам і аўтарытэтам для людзей, якія падзялялі з ёй гэтую любоў: Уладзіміра Караткевіча, Міхася Чарняўскага, Аляксея Карпюка, Васіля Быкава, студэнцкай моладзі 1980-х, якая стварыла першыя незалежніцкія суполкі.

«На чалавечае сумленне цаны няма! Такое не прадаецца, і няхай мне ніхто не кажа, што нельга ўстояць! Няма сумлення — і няма чалавека! Касцяк людскі — гэта людское сумленне», — так пісала яна. І ўсё жыццё жыла паводле гэтага прынцыпу сама і натхняла жыць іншых.

**Ларыса Геніюш і вядомая яшчэ з нашаніўскага перыяду пачатку XX стагоддзя беларуская дзяячка Паўліна Мядзёлка**, што хінецца да яе. Мядзёлка стварала легенды пра каханне Янкі Купалы да яе, але многія лічаць, што яе роля ў 1930-я была злавесная: яна была даносчыцай у коле беларускай інтэлігенцыі. Не давярала ёй, трэба сказаць, і Геніюш, пра што пісала ў сваіх лістах. І гэтае фота не мусіць уводзіць у зман: урэшце адносіны паміж гэтымі дзвюма жанчынамі былі па ініцыятыве Геніюш разарваныя.

### Жлобаўцы

Сіла Геніюш была, безумоўна, з сям'і і з юнацтва.

«Міклашы» — так называлі яе род у ваколіцах роднага

фальварка, ад дзявочага прозвішча Міклашэвіч.

Сталенне Ларысы прыпала на часы, калі Заходняя Беларусь была «ўсходнімі крэсамі» польскай дзяржавы. Яна без піетэту называла тагачасныя польскія ўлады «атупелымі ў сваім шавінізме», «папярэднікамі Гітлера».

Прыватная ўласнасць была тады ў пашане, працавіты зарабляў, разумны прабіваўся, але беларусы, украінцы, габрэі, літоўцы былі грамадзянамі другога гатунку, бо дзяржава была польская і аўтарытарная.

## Ларыса слуг не хацела: «кожны мае сам сябе абслугоўваць» — гэта быў яе прынцып

Ларыса расла, бачачы масавыя арышты пасля таго, як дзеці ў школах пазамазвалі сажай партрэты маршала Пілсудскага і напісалі на дошках патрабаванне беларускай школы. Яна бачыла збітых у паліцыі. Перад яе вачыма вялі з дэфензівы камсамольцаў — яны дыбалі на насках, бо пяты былі скалечаныя дубінкамі. Людзі ў турме рэзаліся, не змогшы стрываць пабояў.

Папулярная беларуская партыя «Грамада» была разгромленая, але нацыянальная свядомасць у сялянстве расла памалу і перамешвалася са шчодра трансляванай з СССР камуністычнай агітацыяй.

«Душылі падаткамі, ганьбілі мову, нават не прызнавалі нашай народнасці, быццам ідэі дэмакратыі й вольнасці людзям зусім не кранулі іх сэрцаў і розумаў... Побач з беларускай галечай высокія зарплаты найніжэйшыхураднікаў і страх іх з нашага існавання».

Беларусам забаронена было займацца палітыкай, ім заставалася толькі зямля. І яна, пісала Ларыса, нібыта гаварыла да іх.

Ваўкавышчына — стары, здаўна заселены край з балта-славянскай цераспалосіцай назваў. І зусім не ад выцця ваўкоў названы. Гэта «волак высокі» — месца, праз якое купцы перацягвалі караблі, дзе ў старажытнасці былі гандлёвыя факторыі. Тут яшчэ ў часы неаліту былі распрацаваныя крамянёвыя капальні. Побач Навагрудак — тут пачалося ВКЛ і жыў Адам Міцкевіч. Непадалёк Якушоўка і Свіслач, мясціны Кастуся Каліноўскага.

Але і тут не было справядлівасці. Нават працуючы дзень і ноч, Міклашэвічам цяжка было выбіцца з пазык і выплаціць банку крэдыт, узяты яшчэ за царом Мікалаем на набыццё фальварка.




**Ларыса Геніюш — вучаніца Ваўкавыскай польскай гімназіі.** 1928 год.

### Чаму ж не пяём?

«Жыццё нашае было працай, болем, але было й песняй, якой не было ў другіх народаў. Пяялі ўсюды, і пяялі ўсе. Пяялі — знача жылі! Цяпер у нас пяе толькі гарэлка ў застоллі, раве бяздумна ўголас, калі маўчыць душа нашая, і песня не кранае сэрца. Чаму ж не пяём? Чаму голас народу спаралізавала, чаго не было нават за лютае паншчыны? Некалі казаў муж нашай Валі-нявестачцы: “Ты яшчэ не заспявала ў нашай хаце, таму ты не нашая”. Ён вельмі чакаў, каб гэтая “дочка” нашая запяяла... Не мадэрныя, чужыя песні, а нешта з душы нашай, з душы народу...»

**Песня на словы Ларысы Геніюш «Запяі мне песню»** ў выкананні Вальжыны Цярэшчанка.



Ларыса, найстарэйшая з пяці дзяцей у сям'і, была і «старэйшым сынам» — яна вырашала дзелавыя пытанні, якімі бацька займацца не хацеў ці не меў сілы.

### Адзіночка

Змалада Ларыса была адзіночкай. Яна дзівіла сваёй глыбіннай беларускасцю бацькоў-фальваркоўцаў, якія імкнуліся даць дзецям асвету і далучыць да «вышэйшай культуры» каланізатара. Уяўленне пра культурнасць у «асяродку паўінтэлігентаў», дзе гадавалася Ларыса, не выходзіла за межы жадання мець дом са слугамі і гульні ў прэферанс вечарамі. Ларыса слуг не хацела: «кожны мае сам сябе абслугоўваць», гэта быў яе прынцып. Яна вобмацкам шукала межы сваёй беларускасці: «Многа дала добра пастаўленая гімназія ў Ваўкавыску і яшчэ болей кніжкі, розная класіка, якая няведама якімі шляхамі ▶

знаходзіць мяне ў нашых Жлобаўцах».

З заходнебеларускімі камсамольцамі-атэістамі і КПЗБ яна не сышлася ў пытанні веры: Бога Геніюш не выраклася і ў самыя цяжкія моманты жыцця.

### «Праграма Каліноўскага» міжваенных часоў

Ларыса і мужа сабе шукала блізкага па духу. Кавалераў была процьма — нават маладыя бацюшкі сваталіся, — але не было ў тых жаніхоў толькі аднаго: беларускасці. Муж абавязкова мусіў быць беларусам не толькі паводле паходжання, але і паводле ідэі. І такі знайшоўся: Янка Геніюш з недалёкай Зэльвы. Янка вучыўся ў Празе на медыка.

У міжваенны час урад Чэхаславакіі выдаткоўваў стыпендыі для навучання беларусаў ва ўніверсітэтах гэтай краіны. Траплялі туды выпускнікі беларускіх гімназій. Працэс каардынавалі беларускія арганізацыі ў Вільні. Яны бралі з кожнага абітурыента распіску, што па сканчэнні ўніверсітэта той выдасць кніжку па сваёй спецыяльнасці і за свае грошы дасць вышэйшую адукацыю яшчэ аднаму беларусу — такая была стратэгія фармавання нацыянальнай эліты. Нелегальнымі шляхамі, не маючы візаў, маладыя беларусы праз Вільню, Каўнас і Берлін траплялі ў Прагу.

Цяпер Геніюш скончаў навучанне і працаваў асістэнтам у чэшскага доктара. Янка быў элегантны, паводзіў сябе з Ларысай па-рыцарску, прывозіў ёй мастацкую літаратуру і кніжкі па беларускай гісторыі.

Яны пабраліся і пераехалі да мужавых бацькоў у Зэльву. Усе свае невялікія заробкі Янка выдаткоўваў на цукеркі


PAWET.NET

**Вяселле Янкі і Ларысы.**

і падарункі для маладой жонкі. Калі ж надышоў час ехаць здаваць фінальныя экзамены на атрыманне спецыяльнасці доктара, яго раптам не выпусцілі з краіны.

### «З меркаванняў дзяржаўнай бяспекі»

Напярэдадні праходзілі выбары ў польскі Сейм, «дзе кандыдатаў назначалі згары». І сям’я Геніюшаў, як і многія беларусы, іх байкатавала. Стаўленне да Янкі было дробнай помстай улады. «Ёсць у бацькі шэсць гектараў — вось і ары іх», — казала яму ў вочы надзьмутая чыноўніца.Ураднік у Ваўкавыску адзначыў, што студэнта не выпускаюць «з меркаванняў дзяржаўнай бяспекі». Але ўрэшце нават такія меркаванні былі бяссільныя перад карупцыяй: Геніюш звярнуўся да знаёмага памешчыка, а той вырашыў пытанне з дазволам праз знаёмага міністра. Праз год да Янкі ў Прагу паехала і Ларыса з малым сынам Юркам.

Ад’язджаючы ў 1937-м у Чэхаславакію, Геніюш не магла падумаць, што бачыць бацькоў і родны дом у Жлобаўцах апошні раз. У 1939-м у Заходнюю Беларусь прыйшла савецкая ўлада, а разам з ёй «агульнае азвярэнне»: сусед Міклашэвічаў Люцік, «набожны чалавек», якому яны і па гаспадарцы дапамагалі, і дзяцей жанілі, першы падпісаўся пад даносам на іх.

Бацьку замучылі ў Гродзенскай турме, маці і сясцёр выслалі ў паўночны Казахстан, на станцыю Кіялы, саму хату перавезлі ў недалёкія Гудзевічы. Як пачалася вайна, на бацькоўскую сялібу вярнуўся брат Расціслаў, што ў 1939-м уцёк ад бальшавікоў на нямецкую тэрыторыю. Ён вярнуў з Гудзевіч хату, каб маці было дзе прытуліцца, як прыедзе з высылкі. Расціслаў запрыязніўся з партызанамі, яны нават хацелі памагчы яму адпомсціць Люціку. Але хлопец аддаў таго на Боскі суд. У 1944-м Расціслаў пайшоў на фронт і загінуў пад Берлінам за два тыдні да канца вайны. Маці памерла ў Казахстане. Сёстры выехалі ў Польшчу. Яшчэ адзін


WIKIMEDIA COMMONS

**Дом 7 па вуліцы Германавай**, у якім Геніюшы жылі ў Празе.

брат Аляксей ваяваў у арміі Уладзіслава Андэрса і пасля вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі.

### Мацярынская віна

Віна перад сынам — яшчэ адно пачуццё, якое вадзіла рукой Геніюш, калі яна пісала «Споведзь». «Даруй, малы пакінуты юнак, даруй, мой сын... Хачу, каб некалі ты зразумеў мяне, каб дараваў свае мучэнні. Не было ў мяне выбару, сын,— Бацькаўшчына і яе інтарэсы важней за цябе, за мяне, за нашага тату...»

Віна, канечне, была без віны: сталася так, што Янку і Ларысу Геніюшаў арыштавалі ў адну ноч, а іх 12-гадовы Юрка застаўся адзін. Сувязь бацькоў і сына перарвалася на гады. А Юрка якраз быў у такім веку, калі фарміруюцца воля і характар. Яго перадалі куму, пасля — сёстрам Ларысы ў Польшчу, пасля ён трапіў у прытулак, пасля — у турму па хуліганцы... У памяці Ларысы застаўся разумны светлы хлопчык, яе радасць, а не дарослы «нелюдзь», які, напіўшыся ў гасцях у бацькоў, кідаўся душыць маці.

Але ў той жа час сын не зрокся бацькоўскіх ідэалаў. Жывучы пасля вайны ў Польшчы, ён быў актыўным дзеячам беларускай супольнасці на Беласточчыне, даволі вядомым беларускамоўным пісьменнікам. І перадаў сваю беларускасць дзецям.

### Ліст ці архівы?

У чым была віна Геніюшаў — доктара і хатняй гаспадыні — перад савецкай уладай? З пачаткам Другой сусветнай у Празе стварыўся беларускі Камітэт самапомачы, грамадская арганізацыя, у якой Ларыса была скарбнікам. Рэй там вёў Іван Ермачэнка, які і прапанаваў скласці ад імя камітэта вітальны ліст да Гітлера. Старшынёй таго сходу нечакана прызначылі доктара Геніюша. Ліст ніхто з прысутных не захацеў падпісаць, але пасля архіў камітэта дзіўным чынам трапіў у НКВД. І падчас следства Ларыса пабачыла подпісы, выведзеныя пад капірку, — і тых, хто на сходзе быў, і тых, хто не быў. Стаяў нават подпіс яўрэя Вольфсана, якога ў камітэце перахоўвалі ад нацыстаў пад выглядам беларуса.

У пачатку 1940-х некаторыя беларускія дзеячы, той жа Ермачэнка, бачылі ў немцах «меншае зло» ў параўнанні з саветамі і ішлі на супрацу з імі. Але Геніюш адразу ўсведамляла, што апроч знішчэння гітлераўцы нічога не прынясуць Беларусі.

Ермачэнка ўсяляк інтрыгаваў, спрабуючы залучыць Ларысу ў супрацу з немцамі, — пасылаў яе мужа працаваць у Беларусь, у Баранавічы і Слонім, прыходзіў з гестапаўцамі на кватэру патрабаваць, каб Ларыса таксама ехала на радзіму «прапаганда махен». Адбівацца дапамагалі іншыя немцы — напрыклад, яе добры знаёмы доктар Піпер, які быў накшталт міністра аховы здароўя ў акупаванай Чэхаславакіі.


Ларыса з Юркам у Празе.

Лініі несупрацоўніцтва з нацыстамі трымаўся і мудры Васіль Захарка, дзядзька Васіль, як называла яго Ларыса, прэзідэнт Беларускай Народнай Рэспублікі, адзін з творцаў Акта 25 сакавіка 1918 года. Ён дажываў у Празе на малую пенсію ад Чырвонага Крыжа.

Захарка ясна бачыў аднолькавасць Гітлера і Сталіна: першы хоча вынішчыць беларусаў фізічна, а другі, знішчыўшы эліту, русіфікаваць. Ён моцна паўплываў на Геніюш.

**Перакладаючы дзяржаўную пячатку БНР, яна пацалавала яе**

Канаючы ад сухотаў у шпіталі ў 1943-м, Захарка раіўся з Ларысай, каму перадаць прэзідэнцтва БНР. «Перадаў бы табе, але ты жанчына», — казаў ён. У Еўропе 1943-га жанчына яшчэ не магла быць прэзідэнтам. Геніюш парадзіла на прэзідэнта ▶

▶ Міколу Абрамчыка, а сама стала генеральным сакратаром. У Беларускай Народнай Рэспубліцы яна займала пасаду з той самай назвай, якую ў СССР займаў Сталін.

Апроч сімвалічнай, была і цалкам матэрыяльная частка спадчыны БНР — яе архівы. Абрамчык здолеў вывезці іх у Францыю і так ўратаваць. Калі пакавалі архівы, было дзіўнае, успамінала Геніюш. Перакладаючы дзяржаўную пячатку БНР, яна пацалавала яе. Бачылі гэта толькі Абрамчык і спявак Міхал Забэйда-Суміцкі, што якраз прыйшоў у кватэру і не было як яго не пусціць. А пасля ёй гэты эпізод успомніў у Мінску следчы НКВД.

Выглядае, што менавіта архівы БНР цікавілі савецкія органы, а «ліст да Гітлера» быў фальсіфікаваны для шантажу.

### Першая спроба выкрадання

Геніюш была далёкай і ад правых, і ад левых ідэй Еўропы 1940-х. Яе ідэалам была амерыканская канстытуцыя ды прынцыпы, прагалошаныя Французскай рэвалюцыяй, — словам, тое, на чым будуецца сённяшні дэмакратычны лад. Але такога выбару жыццёвая сітуацыя не прапаноўвала.

У тыя трывожныя часы трагічнае мяшалася са смешным: пасля выгнання немцаў на кватэру да Геніюшаў прыходзілі савецкія афіцэры, што падчас пераможнага шэсця па вызваленай Еўропе «нахваталі трыпяркоў» (Янка Геніюш тады спецыялізаваўся на венерычных хваробах), а да штатных венеролагаў звяртацца не хацелі, каб не было агалоскі. Раз прыйшоў славацкі партызан з аўтаматам і хацеў разабрацца з «фашысцкімі памагатымі»:




**Шчаслівая сям'я:** Ларыса і Янка Геніюшы з Юркам яшчэ жывуць у дэмакратычнай Чэхаславакіі.

малы Юрка пабег на вуліцу і прывёў знаёмага здаравеннага салдата-ўкраінца, які выкінуў таго ваяку вон.

Потым у Прагу падцягнуліся тылавыя часткі і савецкія карныя органы. Першы раз Геніюшаў хацелі выкрасці яшчэ ў 1945-м: ламалі дзверы, а пад вокнамі нацягнулі брызент, калі раптам надумаюцца скакаць. Геніюшы замкнуліся ў кватэры і сядзелі так тыдзень. Сабраўся натоўп абураных суседзяў, і нападнікі рэціраваліся.

### «Ваенныя злачынцы»

Першыя тры пасляваенныя гады ў Чэхаславакіі панавала адносная дэмакратыя: існавалі чатыры партыі, фактычна адкрытая мяжа. Ларыса пасля шкадавала, што, гуляючы ў ваколіцах памежнага Вімперка, дзе атрымаў работу Янка, яны ніколі не «заблукалі» і не ўцяклі праз Нямеччыну на Захад.

Але ў 1948 годзе на выбарах «перамаглі» камуністы, і Чэхаславакія пачала дрэйфаваць у бок сталінскага СССР. Прэзідэнт Эдвард Бенеш, паслядоўнік першага кіраўніка Чэхаславакіі Томаша Масарыка, сышоў з пасады, адмаўляючыся падпісаць новую канстытуцыю, распрацаваную камуністамі. І ў той жа самы год Геніюшаў выдалі ў СССР як «ваенных злачынцаў». Іх арыштавалі чэхаславацкія сілавікі, а пасля Прахаціцкі обэц (сельсавет), што побач з Вімперкам, пазбавіў іх грамадзянства. Бо грамадзян Чэхаславакіі выдаваць у СССР было незаконна.

## Была магчымасць ехаць у Францыю, але Янка ўпёрся

Ларыса амаль смяялася з гэтага: яны ж арганічна не прымалі гітлерызму. А сапраўдныя памагатыя

нацыстаў, былыя паліцаі, і тэрміны атрымалі меншыя, і яшчэ ў лагерах былі начальнікамі над «палітычнымі».

### «Нехрыст паганы»

Свайму Янку яна ўсё жыццё ўспамінала, што ён не паслухаў яе, не пагадзіўся ехаць на Захад пасля вайны. Была магчымасць ехаць у Францыю, але Янка ўпёрся: жонка хай едзе, калі хоча, а я не паеду і сына не аддам. Была магчымасць зрабіць англійскае грамадзянства, але Янка хацеў чэшскае. Казаў, што ён «сацыяліст» і што амерыканцы аднымі кансервамі харчуюцца, а ён іх не любіць. Успамінала Ларыса яму тыя кансервы і ў ГУЛАГу, і пасля...

«Нехрыст паганы» — у запале пісала Ларыса пра мужа, але і шкадавала яго, мякчэйшага і слабейшага за сябе чалавека.

Нечакана таксама заўпарціўся 10-гадовы Юрка. Сказаў бацькам, што чужое грамадзянства — здрада свайго народа. «Можа, якія агенты яго так навучылі?» — пісала Геніюш, перадумваючы гэты эпізод у «Споведзі». Падазраваць уласнага сына — вось да чаго чалавека можа давесці жыццё пад наглядам сексотаў.

...Каб не тое нежаданне Янкі Геніюша рухацца з месца, Ларыса Геніюш засталася б у гісторыі паэткай. Гераіняй яе зрабілі турма і жыццё ў СССР.

### Камера мела форму труны

У чэшскай турме яны яшчэ паспелі справіць Янкаў дзень нараджэння. У камеру даставілі замоўлены напярэдадні, яшчэ ў вольным жыцці, торт, віно — Чэхаславакія жыла яшчэ па дасавецкіх, гуманных законах. Селі за стол разам з канваірамі ды аднакамернікамі.

Следства адбывалася ўжо ў Мінску. Геніюшы да суда ▶

### Прававы дэфолт. Геніюшаў асудзілі за «здраду СССР», хоць яны ніколі не жылі ў СССР і не былі грамадзянамі СССР

Ларыса Геніюш і яе муж Янка былі арыштаваныя чэкістамі ў Чэхаславакіі 5 сакавіка 1948 года. На той момант яны з'яўляліся грамадзянамі Чэхаславакіі, але пад ціскам савецкіх уладаў Геніюшы былі грамадзянства пазбаўленыя і сталі асобамі без грамадзянства. Савецкага грамадзянства Ларыса Геніюш да канца жыцця так і не прыняла.

12 жніўня 1948 года Геніюшы былі выдадзеныя СССР, вывезеныя ў Мінск і 7 лютага 1949-га асуджаныя па артыкулах 58 і 4 Крымінальнага кодэкса СССР да 25 гадоў лагераў. Прымяненне артыкула 4 падкрэслівае той факт, што Геніюшы не былі грамадзянамі СССР:

*«4. Іншаземцы **за злачынствы, здзейсненыя на тэрыторыі Саюза** ССР, падлягаюць адказнасці па законах месца здзяйснення злачынства».*

Аднак відавочна, што ніякіх злачынстваў на тэрыторыі СССР Ларыса Геніюш не магла здзейсніць, бо ніколі не жыла ў СССР. Яна пастаянна жыла ў Празе. Нават на акупаванай тэрыторыі СССР яна была ўсяго некалькі дзён. Такім чынам, артыкул 4 не мог прымяняцца да Ларысы Геніюш, бо адсутны склад злачынства.

Больш за тое, падчас вайны сябры Беларускага камітэта самапомачы ў Празе, у ліку якіх былі Ларыса Геніюш, Янка Геніюш, Васіль Захарка, Васіль Русак і Пятро Бакач, рызыкуючы сваім жыццём, выратавалі трох членаў сям'і Вольфсанаў — яўрэяў, якія ў 1941–1945 гадах жылі ў Празе. Яны выдалі Вольфсанам дакумент, які сведчыў, што яны беларусы, праваслаўныя, хоць усім членам камітэта было вядома пра іх яўрэйства. Выдаючы падобны дакумент, усе члены камітэта рызыкавалі сваім жыццём. Дзякуючы гэтым дакументам сям'я Вольфсанаў перажыла акупацыю і засталася ў жывых.

Сам артыкул 58 «Здрада Радзіме» (як і аналагічны яму артыкул 63 у Крымінальным кодэксе БССР) мог прымяняцца выключна да грамадзян СССР, што адмыслова пазначана ў гэтым самым артыкуле: *«58-1а. Здрада радзіме, г. зн. дзеянні, здзейсненыя **грамадзянамі Саюза ССР** на шкоду ваеннай моцы Саюза ССР...»* Такім чынам, і артыкул 58 не мог прымяняцца да неграмадзян СССР, якімі былі Ларыса і Янка Геніюшы.

Відавочна, што ні Ларыса, ні яе муж Янка Геніюш не маглі здрадзіць СССР як радзіме — бо ніколі не былі яго грамадзянамі. Асновай для іх абвінавачвання стаў абсурдны палітычны артыкул 58-4 (арт. 66 КК БССР): «Аказанне якім бы ні было чынам дапамогі той частцы міжнароднай буржуазіі, якая, не прызнаючы раўнапраўя камуністычнай сістэмы, што прыходзіць на змену капіталістычнай сістэме, імкнецца да яе звяржэння, а таксама грамадскім групам і арганізацыям, якія знаходзяцца пад уплывам ці непасрэдна арганізаваныя гэтай буржуазіяй, у ажыццяўленні варожай супраць Саюза ССР дзейнасці цягне за сабой...»

Гэты палітычны артыкул быў выключаны з Крымінальнага Кодэкса БССР ужо ў 1960 годзе. Тым больш ён адсутнічае ў сучасным КК Рэспублікі Беларусь.

Але абсурдны прысуд у дачыненні да Ларысы Геніюш і яе мужа, тым не менш, ніколі не быў афіцыйна адменены. Ні ў СССР, ні ў незалежнай Беларусі. Гэты сімвалічны крок яшчэ наперадзе.

**Зміцер Дрозд**

сядзелі ў славутай «амерыканцы»: «Пхнулі ў камеру, якая мела форму гроба з прыкаваным сталом і такімі ж прыкаванымі й адложанымі нарамі з бакоў». Праседзеўшы там некалькі месяцаў, няўрымслівая Геніюш абдумвала, што трэба будзе зрабіць тут музей ці капліцу, дзе людзі ўспаміналі б замучаных хоць на Дзяды і Радаўніцу.

## Калі ты іх не баішся, яны нічога не могуць табе зрабіць

Яе дапытваў «хітры чакіст» Коган — агітаваў, расказваў пра сваіх бацькоў, бедных яўрэяў, шкадаваў, што вайной Ларыса не была ў Беларусі — дапамагла б партызанам... Уся яе «віна» была задакументаваная толькі тым падробленым лістом да Гітлера ад імя беларускага Камітэта самапомачы.

Следства не рухалася, Ларысу перавялі ў іншую камеру, «на акно якой прылятае птушачка», пасля — у падвал. Нары там былі адны і на іх спала штатная турэмная «наседка» Нэла. Геніюш давалі спаць на ноч нары — адзін канец клаўся на батарэю, другі на тумбачку. Нэла правакавала ўвесь час, то хаміла, то расказвала бздуры пра Заходнюю Беларусь. Адзінай радасцю было выйграць у яе ў даміно.

Пасля Ларыса сядзела з блатной Воляй з Оршы, якая біла яе па загадзе следчага, каб скарэй дабіцца нейкіх паказанняў.

Прыродны розум і жаночая інтуіцыя падказалі Ларысе Геніюш адзіны правільны шлях паводзін у савецкай турме: не вер, не бойся і не прасі. Яна не ведала гэтага зэкаўскага выразу, але інтуітыўна да яго прыйшла ў «амерыканцы». Гэта дапамагло ёй выстаяць. Калі ты іх не баішся, яны нічога не могуць табе зрабіць, гучыць між радкамі яе «Споведзі».

### Чым вымяраецца вартасць жыцця

Савецкіх людзей Геніюш спазнавала ў турме, многае ў іх яе шакавала.

Сукамерніцы зайздросцілі Ларысе, што яна пажыла на Захадзе, казалі: «Вы хоць пажылі, панасілі прыгожую вопратку, бачылі людзей, а мы што, бедавалі ды працавалі». «Мяне браў жах з іхніх слоў. Вартасць жыцця й яго цікавасць, у маім паняцці, не вымяраліся гэтым», — піша Геніюш.

Геніюш ехала ў БССР з меркаваннем, што яе вязуць хай у савецкую, але ў беларускую дзяржаву. Якое ж было яе здзіўленне, калі ў турме яе заяву, каб атрымаць з рэчаў нейкую



БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

**Ларыса Геніюш у 1937 годзе.**

драбніцу, не зразумелі, падумалі, што гэта напісана па-чэшску. «О мая Беларусь...» — у Геніюш міжволі вырваўся стогн.

Агіду выклікалі ў яе і метады савецкіх следчых. Каб вывесці жанчыну з маральнай раўнавагі, следчы Коган стаў ёй казаць, што ў яе мужа ў Слоніме, дзе ён працаваў падчас вайны, былі нейкія «прыяцёлкі». Геніюш лоўка яго абсекла: «Вось каб ён год жыў адзін і нікога не меў, гэта было б ненармальна, ён жа малады мужчына і, шчасце, ніякі не манах». Пасля той самы прыём ужо зусім без мэты, проста са шкоднасці, ужыў начальнік канвою ў глыбіні Расіі, за Горкім: «сказаў мне, што ўжо вёз сюдэмі маяго мужа, што ён трымаў на каленях нейкую немку... Гэты вечны трук усіх кагэбістаў, якія жуюць і пераважоўваюць гэтую тэму ў розных варыянтах».

## «У вязніцы ўжо не інстынкт, а выразныя сны вялі мяне, трымалі, папярэджвалі»

Мужа Ларыса шкадавала і ў турмах, разумела, што мужчынам там яшчэ цяжэй. І, калі ў перасыльнай турме ў Вене папрасілася дапамагаць мыць адзенне вязняў, з трымценнем углядалася ў кашулі, спадзявалася, што пазнае мужаву.

Больш за ўсё яе шакавала дэгуманізацыя чалавека, якая адбывалася ў Савецкім Саюзе і,

асабліва, за кратамі. Яна назірала маральна зламаных і абсалютна чэрствых людзей, і ўсе да аднаго турэмныя дактары былі такімі. У «Споведзі» яна з дзівоснай для чалавека, які не мог працаваць у архівах ці чытаць забароненую ў СССР літаратуру, праніклівасцю апісвае, як сістэма працавала на тое, каб абесчалавечваць людзей.

Яе ўласны рэцэпт, як захаваць сябе чалавекам у нечалавечых умовах, быў такі: «Народжаная ў полі, выгадаваная ў полі, часта чужая паміж людзьмі, я магла б зусім шчасліва жыць, калі б толькі слухала голасу свайго сэрца. Яно мне падказвала заўсёды непамыльную тактыку, а я часта пачынала думаць катэгорыямі другіх людзей, і гэта мяне вяло не туды, дзе трэба... У вязніцы я была сама, і ўжо не інстынкт, а выразныя сны вялі мяне, трымалі, папярэджвалі».




**Самаробная паштоўка, якой павіншаваў Ларысу Геніюш напрыканцы 1954 года вязень-беларус Васіль Супрун**, кіраўнік беларускай патрыятычнай падпольнай групы «Чайка», што існавала ў 1946–1947 гадах на Навагрaдчыне. Паштоўка была перасланая з Варкуты тайнай міжлагернай поштай.

RACYJA.COM

### Цанава і зялёныя дываны

Адзін раз дапытваў яе сам Лаўрэнцій Цанава — усёмагутны кіраўнік МГБ БССР. Ларыса запомніла безгустоўныя зялёныя дываны ў яго кабінеце, абабітым дрэвам. Цанава загадаў ёй зняць каптурык (капялюшык) — яна не зняла. Калі спытаўся, як з ёй гаварыць, па-руску ці па-чэшску (быў перакладчык), Ларыса адказала, што міністр беларускай дзяржавы мог бы і па-беларуску. Прысутныя на допыце высокія чыны МДБ ледзь не зарагаталі. «Аддай архіў БНР!» — прыступаўся Цанава. «У мяне яго няма», — адказвала Геніюш. Цанава загадаў біць яе кожны дзень.

**Ларыса адказала, што міністр беларускай дзяржавы мог бы і па-беларуску гаварыць**

Патрабаванне Цанавы паказвае, што архіў быў тым, што іх найбольш цікавіла ў Геніюш.

Нягледзячы на застрашванне Цанавы, следчыя яе не білі. Ціснулі псіхалагічна, але не білі.

Адзін страшыў, што сцягне з яе трусы, другі — што павесіць на мінскай вуліцы, трэці зневажаў: якая вы паэтка, у нас у дзясятым класе лепей пішуць. Але як два першыя следчыя выйшлі з кабінета, той трэці сказаў мірна: «Ну, кажыце, што хацелі расказаць, а я буду запісваць».

Урэшце Коган урачыста ёй абвясціў, што матэрыялаў «дастаткова для суда». З суда мала што запомнілася — хіба прозвішча старшыні: Шаўчэнка. Як у генія, адзначыла Ларыса. І яшчэ аднаго паэта яна ўспамінае ў «Споведзі»: Максім Танк — вершы яго ведала з маладосці, і гэта было «тое, што трэба».

На судзе Ларыса праз доўгі час пабачылася з Янкам. Ён быў вельмі худы, без пярэдняга зуба. Прамаўляючы апошняе слова, заплакаў. Ларыса ж сказала ▶

**«Споведзь»** Ларысы Геніюш можна як прачытаць, так і паслухаць у форме **аўдыякнігі «Птушкі без гнёздаў»** у выкананні народнай артысткі Беларусі Зінаіды Бандарэнка. Таксама ў 1996 годзе на яе аснове на кінастудыі «Беларусьфільм» быў зняты **фільм «Птушкі без гнёздаў»**.







жорстка і злосна: і пра замучаных бацькоў, і пра ўсю несправядлівасць, «але гаварыць там не было з кім».

Суд «удаліўся» выносіць рашэнне і адразу ж вярнуўся ды абвясціў па 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў кожнаму. Паўстагоддзя на дваіх.

«У Еўропе, нават камуністычнай, была нейкая логіка ў людзей, законы й паслядоўнасць, тут Сталін і мера пачуццяў да яго вырашалі людскія лёсы», — пісала Геніюш.

### «Кіп смайлінг»

Свой тэрмін Янка адбываў у Варкуце, а калі памёр Сталін, яго перавялі ў цяплейшыя мясціны, у Мардовію. Ларысу ж павезлі ў Комі АССР, у Інту.

У той час да многіх саставаў чаплялі турэмныя вагоны. Такі вагон меў тры аддзяленні, разгароджаныя калючым дротам. З аднаго боку былі мужчыны, з другога жанчыны, пасярэдзіне канвой. Залазіць у сваю палову зэкам трэба было на карачках праз невялікую дзірку ў калючым дроце. Калі цягнік меўся кранацца, дзірку наглуха заплятаталі «калючкай». Прыбіральняй была дзірка ў падлозе. Чым далей на ўсход, тым болей рабілася на рэйках тых турэмных вагонаў. А пасля і цэлыя эшалоны ішлі ды ішлі. Лес замяняўся лагернымі вышкамі — яны мільгалі і мільгалі абапал шляхоў.

У камерах, на перасылках, засвоіла Геніюш, не варта хандрыць, скардзіцца на долю. «Кіп смайлінг» («Працягвайце ўсміхацца» па-англійску), — паўтарала яна сабе ў цяжкія хвіліны.

«Не прывычная я ў жыцці да выгодаў, але адно — не магу на цвёрдым спаць. Пасцель мая мусяе быць мяккая, чыстая, найлепш на сетцы, а столькі гадоў давялося мучыцца на нарах!» — пісала Геніюш.

Спалі зэчкі без прасцін, падушка і матрац былі набітыя стружкамі і дробнымі калодачкамі. На коўдру этапная сяброўка-ўкраінка прыслала Ларысе вату.

Найболей яна сябравала з патрыёткамі-ўкраінкамі, забранымі ад сваіх гаспадарак, мужоў, дзяцей. І ў лагерах найболей гаварыла па-ўкраінску. Бывала, у навабранцаў-канваіраў пачыналася істэрыка ці прыступ садызму, і яны трымалі жанчын да ночы ў тундры, страляючы вакол іх. Украінкі стаялі сцяной



**Ларыса Геніюш моцна любіла ўнукаў**, аддавала ім тое, што недадала сыну, пакуль была ў лагеры. Яна высылала ім такія лісты з казкамі і малюнкамі.

## Унукам

Адарваная сілком ад выхавання сына, Ларыса Геніюш ужо пасля вяртання з лагераў аддавала сваю нерастрачаную мацярынскую пяшчоту ўнукам — ужо як бабуля. У Юркі было двое сыноў — Міхась і Алесь. Не ладзячы і пастаянна канфліктуючы з сынам і нявесткай, унукаў бабуля вельмі любіла, хоць у сябе ў Зэльве бачыла нячаста. Міхась і Алесь жылі разам з бацькамі ў польскім Беластоку, а тыя часы — не цяперашнія: проста так праз мяжу не паедзеш.

Сумуючы па ўнуках, бабуля Ларыса часта пісала ім цёплыя лісты, суправаджаючы іх прыгожымі ўласнымі малюнкамі — яна і мастачкай была някепскай. А таксама пісала для іх шмат цудоўных вершыкаў. Выдадзеныя ў 1970-я гады зборнікі з імі так і называліся: «Казкі для Міхаські» і «Добрай раніцы, Алесь!».

Праўда, у версіі, якая ішла ў друк, вершы часта калечыліся бяздарнымі рэдактарамі, як гэта адбылося, напрыклад, з вершам «Унучка». Ніжэй — ягоныя варыянты ў аўтарскай версіі і пасля правак рэдактара Авяр'яна Дзеружынскага. Адчуйце розніцу:

| *Аўтарскі варыянт* | *Варыянт пасля рэдакцыі* |
|---|---|
| Жыла бабка з унучанькай<br>Ля сяла,<br>Беленькая козачка<br>У іх была.<br>Плача рана козачка:<br>— Ме-ме-ме,<br>Хто ж мяне на пашаньку<br>Пагоне?<br>Устала ўнучка раннечкам<br>Па расе,<br>Разам з сонцам козачку<br>Ужо пасе.<br>А бабулька з сівенькай<br>Галавой<br>Смачненькую бульбачку<br>Варыць ёй. | Жыла бабуля з унучкай<br>Каля сяла.<br>Беленькая козачка<br>Ў іх была.<br>Брыкнецца козачка<br>Нагою:<br>— Хто мяне ў поле<br>Пагоніць?<br>Устане ўнучка рана,<br>Па расе<br>Разам з сонцам козачку<br>Напасе.<br>А бабуля з сівой<br>Галавой<br>Сопкай бульбы<br>Наварыць ёй. |

У 2018 годзе стараннямі журналіста Глеба Лабадзенкі і ўнука паэткі Міхася Геніюша была выдадзена шыкоўная кніга Ларысы Геніюш «…унукам: Вершы і лісты. Без цэнзуры». У ёй надрукавана каля сотні дзіцячых вершаў і 17 лістоў з малюнкамі. Вершы, скалечаныя цэнзурай і рэдактарамі, даюцца тут у розных версіях. Гэтую кнігу яшчэ можна набыць у кнігарнях і ў прыватных распаўсюднікаў.

і спявалі змагарныя песні на ўвесь голас.

Дапамагалі выстаяць таксама гумар і, як ні дзіўна, годнасць, адчуванне сваёй маральнай перавагі. Калі начальнік лагера Шапіра адабраў у Геніюш Біблію, якую яна цудам зберагла на этапах, яна пасля пабачыла, што ў старонкі з яе загортваюць аспірын для хворых. «Што ж, у бандытаў і зладзеяў ніколі нічога не было й не будзе, нават паперы на аспірын», — прыпячатала яна.

Зэчкам часам даводзілася вышываць за пайку для жонак лагерных начальнічкаў. «Як жа яны маглі глядзець на гэтыя рэчы з лагернай нядолі ў сваіх хатах, — не разумела Геніюш. — Дый хто такіх жанчын калі пакахаў бы, бяздушных…»




НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ ЧЭХІІ

**Фота Ларысы Геніюш**, якое захавалася ў дакументах, пададзеных у чэхаславацкія ўстановы, адказныя за рэгістрацыю іншаземцаў. Выявіў гісторык Андрэй Буча.

### Глюкоза

Мужчыны працавалі ў шахтах. Дарога з лагера была адна, і калі калоны разміналіся, была магчымасць перадаць запіскі, абмяняцца інфармацыяй, атрымаць порцыю «глюкозы». Гэтым умоўным словам зняволеныя-беларусы называлі вершы Ларысы Геніюш.

Беларускія «палітычныя» ведалі яе па вершах. Ларыса цягам усёй вайны друкавалася ў газеце «Раніца», што выходзіла ў Берліне для палонных-беларусаў — проста таму, што іншай газеты па-беларуску не было.

Яна пачала пісаць вершы з юнацтва, але паказвала хіба сёстрам. Пісанне было нечым накшталт медытацыі. Геніюш упершыню надрукавалася ►

▶ пасля трыццаці год — талент меў час саспець. Таму яе паэзію заўважылі, яна праймала ўзнёсласцю і сілай.

40-гадовая Ларыса была сталейшая за большасць землякоў, сустрэтых у ГУЛАГу. Тут было шмат учарашніх школьнікаў з Саюза беларускай моладзі. На выпадак, калі запіскі знойдуць канвайры, яны ўмовіліся пісаць замест «Беларусь» — «гаспадарка», землякоў называць «сыны і дочкі». Адсюль і пайшоў той лагерны зварот да Геніюш — «маці».



**За заслугі Геніюш перад Праваслаўнай царквой** (у зэльвенскі перыяд сваёй біяграфіі яна была адной з актыўных прыхаджанак мясцовага храма) ёй паставілі помнік на цвінтары каля зэльвенскай Траецкай царквы. Адзіны такі выпадак на ўсю Беларусь.

## Блатныя Геніюш не чапалі за смеласць

### «Унучкі Трумэна»

Блатныя Геніюш не чапалі за смеласць. Яны сядзелі ў асобных лагерах для «бытавікоў», але нічога не перашкаджала якой-небудзь зладзейцы выгукнуць пару лозунгаў і назвацца ўнучкай Гары Трумэна. І за «антысавецкую агітацыю» яна трапляла ў палітычны лагер. Адна такая зэчка падзялілася з Ларысай, што забіла шэсць чалавек, і яе, маўляў, паважае, бо яна такая ж. Геніюш жахнулася: яна чарвяка на дарозе абыходзіла, каб выпадкова не пазбавіць жыцця. Смеласць яе расла зусім з іншага карэння: з усведамлення сваёй праўды і глыбокай веры ў Бога. «Ніводзін волас з вашай волі з маёй галавы не ўпадзе!» — крычала яна следчым не раз.

Геніюш успамінала, як яе біў «толькі раз нейкі Іваноў» за тое, што не захацела мыць падлогу ў канваірскім бараку. Болей мучылі маральна: «Забіралі нам спакой, рвалі, як маглі толькі, нервы, ганялі, усяк прыніжалі. ... Нас жудасна апраналі, забіралі ўсе нашыя паперкі, забівалі нашыя радасці». Найбольш дратавала тое, што на кожнай праверцы трэба было казаць канец свайго тэрміну. У Геніюш гэтае свята прыпадала на 1973 год.

### «Ці паспела палюбіць савецкіх людзей»?

У дзень смерці Сталіна да Ларысы падышла вядомая стукачка Афанасьева і кажа: «Он был гений, как вы находите?»

Амаль адразу пачалася ў лагерах «лібералізацыя»: дазволілі спароць нумары з адзежы і пісаць дамоў па адным лісце на месяц замест двух на год.

Улада нібыта і шукала магчымасці выпусціць Геніюшаў, але зрабіць гэта трэба было так, каб не прызнацца, што пасадзілі іх без ніякай віны. Яе выклікалі і пыталіся, ці паспела яна палюбіць савецкіх людзей, лагерныя сяброўкі нашэптвалі, каб была хітрэйшай і напісала раскаянне, тое самае казаў нейкі прыязны канваір... Нічога яна не напісала.

Урэшце пасля XX з'езда КПСС з асуджэннем «культу асобы» адбыўся перасуд. Геніюшам зменшылі тэрміны да колькасці ўжо адседжаных год і выпусцілі. Яны паехалі ў Зэльву і тут з боем мусілі вяртаць Янкаву бацькоўскую хату. Паміраючы, бацька Янкі перадаў правы на сваю маёмасць суседу, каб той вярнуў усё сыну ці нявестцы, калі тыя будуць жывыя. Сусед, які пасяліў у Геніюшавай хаце кватарантаў, спрабаваў дабіцца, каб Янку і Ларысу выслалі назад на Поўнач як «антысавецкі элемент». Ларыса ж пісала ў пракуратуру, каб ім дазволілі ехаць у Чэхаславакію. Хату ім аддалі пасля суду, але рэчаў той сусед, «пабожны каталік», так і не вярнуў.

### «Каго з беларусаў нельга купіць?»

Доктару Янку Геніюшу знайшлася праца ў мясцовай бальніцы. Гэта дазваляла сям'і выжываць фізічна. Але жылі пад наглядам агентаў.

«Душу маю паранілі беларусы, — пісала Геніюш. — Мне бачыцца дацэнт Воўк, які розна празывае мяне перад сотнямі беларускіх студэнтаў, Еўдакія Лось, як паліць у СБП маю кніжку, зэльвенскае начальства, якое пасылае розных шпіёнаў да нас, а мы іх кормім абычаем бацькоў нашых. Пасылае такіх, якія прабіраюцца ў хату без нас, трасуць драбніцы нашыя, мае словы. Настаўнікі зэльвенскія, якія зоймуць увесь аўтобус і не ўступяць мне месца, і я падаю, калі аўтобус трасе на выбоінах, а яны хахочуць... Маіх землякоў, якія, прадаўшы ўвесь мой род, ганьбяць без довадаў бацькоў маіх, паганяць імя маё, толькі таму, што сяння новыя паны яго паганяць... Я ўжо не думаю, каго можна купіць, я горка думаю, каго ж нельга купіць з беларусаў? Я гляджу вокал, бачу найстрашнейшых суседзяў сваіх, якія падслухоўваюць кожнае нашае слова, падглядаюць кожны мой крок і даносяць ужо яўна, а да мяне прыходзяць пазычыць ім што ці памагчы. Мне ў вачох Кузняцоў — начальнік зэльвенскага іспалкома, як вечар з вокнаў музычнай школы, што насупраць нас, сочыць за намі, фатаграфуе нейкім апаратам праз фіранкі, калі мы, старыя, распранаемся нанач. Як ганяюць мужа з работы, як уніжаюць і яго, і мяне, як нацкоўваюць на нас роднага сына, і ён, вымучаны імі, споены й нацкаваны, глядзіць у нашыя вочы вачмі няшчаснымі й плача пасля разам з намі... Якія святыя былі бацькі, якія прачыстыя былі нашыя Жлобаўцы, якія адныя, здаецца, маглі б залячыць сяння гэтыя раны, але там страшна пуста, і толькі галасы замучаных стогнуць з вятрамі ноччу... За што? За што? Чаму так страшна азвярэлі людзі? Няўжо навечна?»




Помнік Геніюшам **на могілках у Зэльве.**

**«Няхай на маёй асобе спыняцца ўсе пакуты народу нашага. Ён заслужыў, каб быць вольным!»**




**Гэта было асаблівае пахаванне**: разам ішлі жыхары правінцыйнай Зэльвы і цвет сталічнай інтэлігенцыі. Як ні наракала Ларыса Геніюш пры жыцці на абыякавасць і нават варожасць беларусаў да яе справы, пахаванне нязломнай патрыёткі неспадзявана ператварылася ў нацыянальную дэманстрацыю. І гэта, як часта бывае, стала прадвеснікам будучых хуткіх зменаў.

У пачатку 1980-х, у глухі застойны час, калі пісаліся гэтыя словы, здавалася, што Савецкі Саюз будзе існаваць заўжды. Ніхто не думаў не гадаў, што ён разваліцца ўжо праз дзясятак гадоў. Не думаў, таму што ніхто не меў праўдзівай інфармацыі пра эканамічны, сацыяльны і тэхналагічны стан краіны.

Замоўчваць паэтку такога маштабу, як Ларыса Геніюш, было цяжка. Яе запрашалі на сустрэчы ў школы, да яе прыязджалі пісьменнікі, мастакі, моладзь... Максім Танк, старшыня Саюза пісьменнікаў БССР, сумленны камуніст і небанальны творца, паспрыяў Геніюш у выданні некалькіх кніг. Ён пераконваў Ларысу Геніюш прыняць савецкае грамадзянства, але яна так і не пагадзілася.

На схіле жыцця ёй пачала мроіцца чорная жанчына — вястунка смерці ў іх сям'і. Яна аддала свае ўспаміны гісторыку Міхасю Чарняўскаму, які перахаваў іх да часу, калі стала магчымай публікацыя. Яе «Споведзь» была надрукаваная на машынцы амаль без правак — нібыта адным выдыхам.

Геніюш не была чалавекам уплывовым у адміністрацыйным сэнсе — «вяршыцелем лёсаў». Але гэтая сціплая жанчына мела гіганцкі ўплыў на тых людзей, якія ў савецкі час вынасілі ідэю незалежнасці Беларусі.

На яе пахаванне з'ехаліся людзі з усёй краіны. І зусім нямнога часу мінула ад даўжэзнай працэсіі за яе труной у Зэльве да таго шэсця на Дзяды ў 1988-м, з якога пачалося новае беларускае адраджэнне. ◆

Шчыра дзякуем Андрэю Бучу, Віктару Жыбулю і Міхасю Скоблу за дапамогу пры падборы ілюстрацый да артыкула.

# Агент Шквал і агент Арэф’еў

## Як КГБ атачаў Ларысу Геніюш сексотамі, на якіх яна не магла і падумаць

**Архівы савецкага КГБ у Беларусі пакуль закрытыя. А ў краінах Балтыі, Польшчы, Чэхіі і ва Украіне іх рассакрэцілі. Як дзейнічалі савецкія спецслужбы, цяпер ужо дасканала вядома. А гісторык Зміцер Дрозд знайшоў нават справы з КГБ савецкай Літвы, якія раскрываюць імёны агентаў, якія даносілі на беларускую інтэлігенцыю.**

Чаму прозвішча Геніюш усплывае ў архівах КГБ Літвы? У Вільні жыў даўні знаёмы гэтай сям’і Адольф Клімовіч — сябар Янкі Геніюша па ўніверсітэце, са студэнцкіх часоў, а ў 1930-я гады — актывіст Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Сачэннем за ім і за Геніюшамі пасля вызвалення з лагера займаліся часам адны і тыя ж агенты.

Напрыклад, Шквал. Пад гэтым гучным псеўданімам хаваецца Аляксандр Кратовіч. Ён сядзеў у лагеры разам з Клімовічам і даносіў на яго. Пасля вызвалення таксама апынуўся ў Вільні, дзе ажаніўся з Зояй Коўш, дачкой праваслаўнага святара Аляксандра Каўша, які трагічна загінуў у вайну. Падобна, што гэты шлюб быў для Кратовіча часткай спецзадання па пранікненні ў беларускае кола.

Такія агенты, як Шквал, што прайшлі суровую лагерную школу і не былі выкрытыя і забітыя, асабліва цаніліся ў КГБ. Дый давер у сваіх ахвяр яны выклікалі большы. Дзякуючы аднаму з данясенняў Шквала мы можам у падрабязнасцях даведацца, як праходзіла пахаванне Адольфа Клімовіча восенню 1970-га, што казала на ім і пасля Ларыса Геніюш.

### Агентурное сообщение

Источник «Шквал»
24 декабря 1970 г.
Принял: Заянчкаускас

По просьбе жены Климовича источник дал телеграмму ряду лиц, чтобы приехали на похороны её мужа в т. ч. и Гениюш. Приехала жена Гениюш — Лариса Степановна *[так яе называў у дакуменце агент]* Гениюш на похороны. При выходе из автобуса — Гениюш спросила у Климович — кто это, указывая на жену источника. — «Это жена хорошего приятеля моего мужа», — ответила та.

Климовича хоронили на его родине — 80 км от Вильнюса. Во время дороги источник познакомился с Гениюш — на обратном пути она попросила его к себе. Вместе ужинали и на следующий день вместе провели, посещая магазины.

Когда хоронили, т. е. опускали в могилу гроб — Гениюш подошла к источнику и сказала, что же это такое, неужели никто не выступит? Неужели страх овладел всеми? Неужели он не заслужил хорошего слова? И после того, как уже могила была засыпана — Гениюш выступила, говорила она минут 10–15.

Она сказала: «Мы хороним примечательного человека. Он отдал белорусскому народу всю свою жизнь. Спасибо, спасибо тебе, Адольф Юстинович, за всё то хорошее, что ты сделал для белорусского народа. У каждого белоруса с болью сжимается сердце, узнав, что тебя нет. Низкий тебе поклон за всё то, что ты сделал для своего народа» и т. д. в таком же духе.

Речь была хорошая, и ксёндз спросил впоследствии у источника: «Кто эта женщина — она так убедительно говорила, что трогала за сердце её речь и всё-таки она смелая и умная».



БССР, в прошлом членом президиума "Белорусского национального комитета" и членом христиано-демократической партии, а также др[у]гими белорусскими националистами.

В отношении поведения КЛИМОВИЧА А.Ю. направляем копии донесений агента "Шквал" от 4 октября 1957 года. Упоминаемый Вами в запросе КРИПТОВИЧ нам неизвестен. Кротович А.М. является вышеуказанным агентом "Шквал", который в октябре т.г. КГБ при СМ Коми АССР направлялся в Вильнюс для разработки белор[ус]ских националистов.

Учитывая, что КЛИМОВИЧ располагает значительными связями на территории быв.Вильнюсского края, просим информировать нас о полученных на них материалах в части их связи с КЛИМОВИЧЕМ.

ПРИЛОЖЕНИЕ: копии двух донесений агента "Шквал" от 4 октября 1957 года на 4 листах.

АСОБЫ АРХІЎ ЛІТВЫ

Фрагмент дакумента КГБ Літоўскай ССР, у якім **раскрываецца асоба агента Шквала.**




**Фота віленскіх беларускіх дзеячаў, якое захавалася ў архіўнай справе КГБ Літвы.** Зроблена ў 1957 годзе. Злева направа: літоўская паэтка Она Міцюце, жонка беларускага дзеяча Янкі Шутовіча; былы беларускі дэпутат польскага Сейма трох скліканняў Фабіян Ярэміч; Аляксандр Кратовіч, ён жа агент Шквал; колішняя настаўніца Віленскай беларускай гімназіі Алена Сакалова-Лекант; Янка Шутовіч; жонка Кратовіча Зоя Коўш ці, як яе звычайна звалі, Каўшанка; Адольф Клімовіч; астатнія тры асобы не вызначаныя. Усе пералічаныя, апрача Оны Міцюце, толькі што вызваліліся з савецкіх лагераў.

Когда Гениюш узнала, кто жена источника — она сказала: «Вы стали как бы ближе ко мне. Ведь я знала родителей Вашей жены. Наш хутор находился вблизи работы отца, имел 90 (источник забыл количество десятин земли). Нас раскулачили и выслали меня и 2-х братьев. В дальнейшем одного брата убили на войне, второй был в армии, сражался на стороне англичан.

Помню, как в Праге я встречалась с консулом и работником посольства английского и последний предлагал мне принять английское подданство. В конце беседы он сказал, кто же вас будет охранять? Я ответила: “Бог”, а он нас охраняет».

«Знаете Лар. Ст. — ведь я кое-что знал о Вас — сказал источник. Адольф был мой товарищ и кое-чем делился. Вот вспомните: Вы спрашивали совета у Адольфа, ехать ли к Вам в Прагу? Это было лет 30–35 тому назад».

«Да», — ответила она. «Кроме того, Вы должны знать моего земляка Русака Василия — он жил в Праге».

После этих слов Гениюш сказала: «Я вижу, что Вы наш сябр (товарищ).

Русак погиб, погиб и его архив и библиотека. А ведь он так много помогал белорусам, он преуспевал. Его взяли за карту — он вместе с одним издали карту Белоруссии, где территория была чуть ли не до Смоленска. Он скрылся, но видя, что никого не трогают, вернулся, и его схватили».

Источник рассказал, что ему было известно о Русаке — он умер в одном из лагерей.

— Вы знаете, товарищ — я хочу оставить после себя след. Каждый человек должен оставить после себя, чтобы его помнили. А времени осталось немного, надо торопиться. Мне даже советуют друзья из-за границы. Однажды пришли и говорят: Вы из прессы, а я: Откуда Вы знаете? Они — по фото. Откуда оно у Вас, а из ваших изданий. Мне много пишут. И должна сказать, что за мной установлена слежка. В квартире был даже негласный обыск.

— Откуда вы знаете?

— Люди добрые всё же есть на свете... Ко мне из Минска даже подсылали. Однажды приехал для беседы и вызвал меня второй секретарь Гродненского обкома. Просил помочь им, а я просила уничтожить забегаловки.

Танк Максим — посоветовал вступить в члены Союза писателей, но ставил условие принять советское гражданство.

Послушайте, может, Вы тоже трус, ну не трус, но не хотите подвергнуть себя подозрениям. Вы тогда идите вперёд и будете показывать мне магазины, а я буду идти сзади.

«За кого Вы меня принимаете?» — ответил источник.

— Вы знаете, — продолжала Гениюш, — ведь Климович приезжал во время немецкой оккупации в Прагу. Он хотел спрятать архив хадеков. Но было поздно, т. к. в Праге готовились к эвакуации, и было не до него.

— Мы хотели приехать к Вам с Адольфом, — сказал источник.

— Напрасно не приехали. Ведь в этом году мне 60 лет, а он даже телеграммы не дал. Я спросила у его жены. Побоялся — так ответила она. Может, и Вы побоитесь иметь с ними связь.

— Я же не имел Вашего адреса, ведь телеграмму я дал на больницу.

Лариса Ст. дала адрес. Просила достать Руда право *[галоўная газета камуністычнай Чэхаславакіі]* и просила сделать очки.

— Приедете, будете желанным гостем.

Источник посоветовал всё же сдерживать себя.

— Что же я лишнее сказала?

— А вот за ужином Вы сказали, что в Белоруссии вы не хозяева, и что Белоруссия — это колония. А кто знает, кто был за столом, поверьте, надо быть осторожнее. Я пришлю Вам кодекс Белорусской ССР, чтобы Вы ознакомились с некоторыми статьями.

Дальше:

— А почему Вам, если хватит сил, не работать в журналах? Вас ▶



**Янка і Ларыса Геніюшы** пасля вяртання з лагераў.

БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ-МУЗЕЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА

не заставляли петь дифирамбы в КГБ, ведь жить немного осталось, много ли Вы знаете о Белорусской ССР, да и поехать, нужны деньги. А на марки вряд ли разгонишься. Подумайте, Лариса Степановна, над всем, что я сказал. Может и Вы не на все 100% правы.

— Вы заставили меня призадуматься, а я хочу Вам задать следующий вопрос. Вы как товарищ Климовича — он Вас ставил в известность, что им была опубликована статья… Как Вы относитесь к этому?

— Мне Адольф читал эту статью, но в ней абсолютно ничего нет. К тому же это он под давлением написал.

— Как ни говорите, а я бы не подписалась бы. Ведь Вы знаете, что я тоже ехала на (Белорусский) конгресс, но опоздала. Как жалко, что я не смогу побыть с Вами подольше. Верно, что мы бы нашли с Вами общих знакомых. Кого Вы знаете в Инте?

— Многих. В частности, Шишель о Вас отзывался очень хорошо. Кажется, Вы оставили ему? Он читал Ваши стихи?

— Да, я много читала тогда, и всё же стихи считаю, что оставили свой след. Люди читали их. А в них была реальность и душа. Но я не хочу заходить к ним — боягузы, трусишки — даже поздравить побоялись. А львовский журнал страничку посвятил мне и не забыл поздравить меня. И просил меня прислать воспоминание о Лесе Украинке. Ведь я с ними была знакома и встречалась за границей *[відаць, маецца на ўвазе сям'я сястры ўкраінскай паэтэсы Лесі Украінкі Аляксандры Косач-Шыманоўскай, з якой Ларыса Геніюш жыла ў Празе па суседстве. Сама Леся Украінка памерла ў 1913 годзе, таму Геніюш асабіста яе ведаць, адпаведна, і мець успамінаў не магла]*.

— А Вы напишите — вычеркните. Поверьте, и это напечатают…

Расстались как хорошие друзья. Источник просил приезжать и не забывать.

Она в свою очередь ответила, что встретила человека, который не знает своего языка — но душой наш.

«Шквал»

Справка: Климович — объект ДОН. Гениюш Л. А. разрабатывается Гродненским Управлением КГБ.

Мероприятие: По просьбе нач. отделения 2 отдела Гродненского УКГБ майора т. Горячева — аг. «Шквал» маршрутировать к Гениюш. Копию в УКГБ г. Гродно.

Задание: Агенту по Гениюш будет отработано письменно в связи с его маршртутированием к Гениюш.

Оперуполн. 5 отдела КГБ при СМ ЛИТ ССР ЗАЯНЧКАУСКАС

Справаздачы пра Янку і Ларысу Геніюшаў даваў і агент Арэф'еў, якога, наадварот, хацелі праз Геніюшаў падключыць да распрацоўкі Клімовіча:

«КГБ при СМ Белорусской ССР разрабатывается возвратившийся из заключения белорусский националист Гениуш Иван, работает в одной из больниц гор. Слонима, Гродненской области. Его жена Гениуш Лариса,

в прошлом известная белорусская поэтесса, также отбывала наказание за националистическую деятельность.

Климович и Гениуш с 1923 до 1928 гг. вместе учились в Пражском университете, где состояли в “Студенческой секции белорусской громады”. После разгрома гитлеровских войск в Белоруссии, в 1944 г. Климович бежал в Чехословакию, где некоторое время укрывался у Гениуш.

Разработку Гениуш И. и Гениуш Л. ведёт проверенный агент КГБ при СМ БССР “Арефьев”, который пользуется у них доверием.

“Арефьев” из Белоруссии, где он проживает, периодически приезжает в Вильнюс к своей матери, знаком с рядом белорусских националистов.

Исходя из этого, совместно с КГБ БССР продумать мероприятия по вводу агента “Арефьева” в разработку Климовича через Гениуш Ивана».

Паколькі агент карыстаўся даверам сям’і Геніюшаў, чэкістам не склала ніякай цяжкасці ўвесці яго ў распрацоўку, тым больш што сам Янка Геніюш прыязджаў да яго ў госці ў Баранавічы і спыняўся на начлег. Пра ўсе іх гутаркі мы можам даведацца падрабязна са справаздач сакрэтнага інфарматара Арэф’ева (асабовая справа № 1104). Вось агентурнае данясенне, адпраўленае 5 верасня 1960 года падпалкоўніку Лосеву:

«Летом с. г. в гости к источнику дважды приезжал И.П. Гениуш... Гениуш заявил, что в Бароновичи он приехал отдохнуть от домашних хлопот, так как его очень утомляют заботы о внуке. О своей жизни в Зельве Гениуш сказал, что живётся им материально неплохо, т. к. Лариса Антоновна работает сестрой-хозяйкой в больнице.

Однако морально Гениуш чувствует себя в Зельве плохо, не имеет друзей, не с кем поговорить откровенно...

О своих зельвенских товарищах по работе Гиниуш отзывается плохо, считает их малограмотными, некультурными, пьяницами. Он выражал большую обиду по поводу того, что местный комитет зельвенской больницы отказал ему в ходатайстве (или рекомендации) для поездки в качестве туриста в Чехословакию. Гениуш сказал источнику, что он не оставляет своей мечты: добиться разрешения уехать на постоянное жительство в Чехословакию...

Гениуш рассказывал, что его сын Юрий безуспешно добивается разрешения переехать погостить в Зельву (польские власти якобы отказали ему в разрешении, а жена Юрия безуспешно добивается разрешения съездить в Польшу). Источник высказал убеждение, что лучше всего было бы для Юрия, если бы он переехал в БССР на постоянное жительство, но Гениуш возразил, что он этого не желает, что ему не хотелось бы терять шансы на выезд всей семьи за границу...

Второй раз Гениуш гостил у источника три дня в конце июня (приблизительно)... Много говорили по разным вопросам, в том числе на медицинские темы. Гениуш жаловался, что Ларисе очень трудно работать в должности сестры-хозяйки. Источник советовал, что много разумнее было бы взяться за литературный труд, на что Иван Петрович возразил, что “Лариса не умеет писать так, как теперь требуется”».

З данясення асведаміцеля мы можам даведацца, якія пытанні хвалявалі Янку Геніюша ў гэты час: «Говоря о внутренней политике советского правительства, Гениуш выражал свое недовольство по следующим причинам: 1) белорусский язык только официально считается государственным, в действительности же господствует русский язык, 2) молодое поколение растет безыдейное, беспринципное, 3) нет свободы слова, 4) нет демократии и т.д.».

З вельмі вялікай верагоднасцю асобу Арэф’ева таксама можна вызначыць ужо цяпер. Калі меркаваць па фактах з біяграфіі інфарматара, што згадваюцца ў ягоных данясеннях (меў шырокія знаёмствы ў асяроддзі былых заходнебеларускіх дзеячаў, працаваў у сферы медыцыны, быў асуджаны і не рэабілітаваны), ім мог быў доктар з Баранавіч, актыўны дзеяч даваеннага беларускага студэнцкага руху ў Вільні, апошні старшыня Беларускага студэнцкага саюза Усевалад Кароль (1919–1984).

Паводле гісторыка Ігара Валахановіча, Кароль пасля пачатку нямецка-савецкай вайны ў 1941 годзе эвакуіраваўся з Вільні на ўсход, дзе скончыў школу Галоўнага разведвальнага ўпраўлення СССР. Пасля гэтага ён у якасці радыста закідаўся ў складзе савецкіх дыверсійных груп на акупаваную тэрыторыю. У 1942 годзе арыштаваны нямецкім СД у Вільні, завербаваны ім, а пасля таго жыў і працаваў у Менску і Баранавічах.

У 1944 годзе Усевалад Кароль быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі за сувязі з беларускімі нацыяналістамі, у 1946-м асуджаны на 10 гадоў зняволення, адбыў іх у Пячорскіх лагерах. Менавіта там з ім, хутчэй за ўсё, і пазнаёміўся Янка Геніюш, бо таксама частку свайго лагернага тэрміну адбываў у тых мясцінах. Нездарма пры ўзаемных сустрэчах агент Арэф’еў сярод іншага дзяліцца з Геніюшам і кантактамі колішніх лагерных знаёмых, якія жывуць у Баранавічах. ◆

Больш можна прачытаць тут:
**«Праверany агент Арэф’еў: знойдзеныя дакументы пра сексота, які сачыў за Ларысай Геніюш»**



# Яшчэ раз пра Маргелава

У папярэднім нумары «Нашай гісторыі» быў змешчаны ліст Альгерда Корсака з Віцебска з сумневамі наконт беларускага паходжання савецкага «дэсантніка №1» Васіля Маргелава.

Адказваю як аўтар артыкула «Базыль Маргелаў і Янка Якубоўскі: хто і што пісаў у беларускамоўную “Чырвонаармейскую праўду”» (№3/2018 «Нашай гісторыі»), дзе я змясціў некаторую інфармацыю пра Маргелава.

Адразу адзначу, што ў біяграфіі гэтага савецкага военачальніка існуюць пэўныя нестыкоўкі. І нацыянальнасць, і год нараджэння, і напісанне прозвішча выклікаюць пытанні. Але пры ўважлівым вывучэнні даступных крыніц некаторыя высновы можна зрабіць даволі проста. Паспрабую давесці да паважаных чытачоў тую інфармацыю, якой валодаю.

У 2008 годзе я рыхтаваў артыкулы да 100-годдзя з дня нараджэння славутага дэсантніка. З гэтай нагоды наведаў Цэнтральны архіў Міністэрства абароны Расійскай Федэрацыі, дзе мне пашчасціла зрабіць копію асабістай справы камандзіра Чырвонай арміі капітана Маргелава. Таксама я ўважліва прачытаў шэраг кніг і артыкулаў, прысвечаных ягонай асобе.

Дакументы дазваляюць лягчэй зразумець некалькі асабліва супярэчлівых момантаў біяграфіі дэсантніка Маргелава.

Па-першае, **нацыянальнасць**. Тое, што Васіль Маргелаў лічыў сябе беларусам, засведчана ў анкеце, якую ён асабіста падпісаў 5 лютага 1939 года, а таксама ў яго атэстацыі на пасадзе камандзіра батальёна ў снежні 1938 года (там за словамі «атэстацыю чытаў» стаіць яго подпіс). У партыйнай характарыстыцы, зацверджанай 14 жніўня 1937-га, нацыянальнасць Маргелава такая самая — беларус.

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што сустракаюцца дакументы (галоўным чынам гэта партыйныя (палітычныя) характарыстыкі), дзе яго нацыянальнасць пазначана як рускі або ўкраінец. Але гэтыя дакументы складзеныя вайсковымі канцылярыстамі, якія маглі аўтаматычна даваць нацыянальную прыналежнасць па месцы нараджэння альбо па гучанні прозвішча.




Герой артыкула Андрэя Дзмітранка «Гета, якое разбурыла муры» (№ 8/2020 «Нашай гісторыі»), **віцэ-прэзідэнт габрэйскай супольнасці Венецыі Рыкарда Калімані** перадае прывітанне чытачам часопіса. Сіньёр Калімані выгульвае «Нашу гісторыю» ў квартале Гета, пра які ішла гаворка ў артыкуле.



**Віталь Чырвінскі** на магіле героя свайго даследавання Васіля Маргелава на Новадзявочых могілках у Маскве.

Па ўспамінах сына генерала, Аляксандра, які напісаў кнігу «Генерал арміі Васіль Піліпавіч Маргелаў» (выйшла ў 1998 годзе ў Маскве), вайсковец спакойна ставіўся да вольнай трактоўкі сваёй нацыянальнай прыналежнасці: «Аднойчы адзін з высокапастаўленых партыйных кіраўнікоў, раззлаваны тым, з якой упартасцю Маргелаў адстойваў свой пункт гледжання, са злосцю адзначыў: “Вядомая справа — бульбаш!” На што баявы генерал адказаў: “Я і бульбаш, і хахол, і велікарос…”» (на маю думку,

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

Васіль Піліпавіч, які не шукаў словы па кішэнях, хутчэй за ўсё, прымяніў тут іншы сінонім слову «велікарос» (маскаль або кацап), але яго сын або карэктар змянілі слова на больш паліткарэктнае).

Па-другое, **дата нараджэння**. Па афіцыйнай версіі — 27 снежня 1908 года. Аднак у партыйнай і палітычнай характарыстыках Маргелава, ягонай асабістай справе годам нараджэння пазначаны 1906-ы. Аўтабіяграфія капітана Маргелава, якая знаходзіцца ў той самай асабістай справе, пачынаецца словамі: «Нарадзіўся ў 1906 годзе 27 снежня ў г. Днепрапятроўску...».

А вось у партыйна-палітычнай характарыстыцы, складзенай на капітана Маргелава 4 лютага 1939-га, годам нараджэння пазначаны ўжо 1908-ы, той самы, які і замацаваўся ў ягоных наступных асабістых дакументах, розных энцыклапедычных выданнях, а таксама на надмагільным помніку.

Існуюць і ўскосныя факты, што сведчаць пра недакладнасці з датай нараджэння. Калі браць за аснову афіцыйную дату нараджэння Маргелава, то атрымліваецца, што ў пачатковую школу ён пайшоў у няпоўныя 6 гадоў, а калі па камсамольскай пуцёўцы ў канцы 1924 года Васіль паехаў на Данбас, каб працаваць там у шахце, то яму споўнілася толькі 16 гадоў.

Лічу, што карані гэтых розначытанняў варта шукаць у падзеях снежня 1932 года, калі камандзір узвода Васіль Маргелаў стаў слухачом Арэнбургскай школы лётчыкаў і лётчыкаў-назіральнікаў, дзе ён, праўда, правучыўся толькі два месяцы. Узрост для абітурыентаў лётных школ у той час абмяжоўваўся 25 гадамі. Калі ж лічыць, што Маргелаў нарадзіўся 27 снежня 1906 года, то яму на момант паступлення было ўжо больш за 26 гадоў. Магчыма, тады Маргелаў і стаў па дакументах маладзейшым на два гады.

Па-трэцяе, **прозвішча**. Бацькі Васіля Піліпавіча па дакументах былі Маркелавымі. У Васіля ж змена літары «к» на «г» у прозвішчы адбылася праз памылку пісара, які ў 1929 годзе выпісваў яму партыйны білет.

І важны факт. Вайсковую прысягу Васіль (часам у прэсе пісалі Базыль) Маргелаў прымаў па-беларуску, і тут няма нічога дзіўнага. Час, калі пачыналася вайсковая кар'ера Маргелава ў Беларусі, прыпадаў на перыяд беларусізацыі. Пачынаючы з 1925 года курсанты Аб'яднанай беларускай вайсковай школы абавязаныя былі прымаць прысягу па-беларуску.

Прывядзенне маладых вайскоўцаў да прысягі звычайна праводзілася 1 траўня падчас святочнага парада на плошчы Свабоды ў Мінску. Тады прысягу прымалі хорам, паўтараючы словы за адным з курсантаў (камандзіраў), які стаяў перад строем або на трыбуне.

**Ваенны гісторык Віталь Чырвінскі**

## Не той герб

Хачу звярнуць вашую ўвагу на невялікую недакладнасць.

У «Нашай гісторыі» № 9/2020 заўважыў, што ў артыкуле пра Сярэднюю Літву дзіўна прыведзены яе герб, а менавіта — яго сучасны варыянт, з уключаным сучасным літоўскім гербам. Пры гэтым пра тое, што герб — сучасная рэканструкцыя, у подпісе да ілюстрацыі не згадваецца. Гэта можа прымусіць чытача лічыць, што менавіта ў такім выглядзе гэты геральдычны сімвал і выкарыстоўваўся ў той час.

Абраная вамі рэканструкцыя мне падаецца некарэктнай у гістарычных адносінах. Я не прыхільнік той думкі, што літоўцы да Віленшчыны і Вільні не маюць ніякага дачынення, але ўсё адно ілюстрацыя бянтэжыць. Быццам гісторыя Сярэдняй Літвы — гэта гісторыя сучасных палякаў ды літоўцаў, але толькі не беларусаў.



Прапаноўваю да друку варыянт герба, які больш пасуе да тэмы.

**З найлепшымі пажаданнямі,**
**Чытач**



**Чытач «Нашай гісторыі» Андрэй Бука спраўдзіў адзін з рэцэптаў рубрыкі «Наша страва» — яблычны сыр ад Алены Мікульчык (№ 5/2018 «Нашай гісторыі»).** Андрэй піша ў фэйсбуку: «Толькі прыбраліся зрабіць, бо той нумар выйшаў у снежні, а летась яблык не было зусім. Можа, не вельмі інстаграмна выглядае, але смачны».

Аўтарка пракаментавала выкладзенае ў сеціва фота, што сыр атрымаўся дастаткова прасушаны (што добра) і зусім малады. «У такім выглядзе яблычны сыр больш нагадвае мармелад або смокву, — піша Алена Мікульчык і дае параду, што будзе карысна ўсім, хто яшчэ толькі збіраецца гатаваць гэтую карысную слодыч: — Калі малады сыр пакласці на пергамент і на драўляную дошку, то праз тыдзень ён пацямнее і набудзе кансістэнцыю сыру».

А вы гатуеце нешта па рэцэптах, што рэкамендуюць нашы аўтары? Дзяліцеся ўражаннямі і здымкамі!

# Як пала дыктатура на Філіпінах

# *Удава* і генералы




**Прэзідэнт Карасон Акіна і генерал Фідэль Рамас.** 1987 год.

**Філіпінская Жоўтая рэвалюцыя стала магчымай, дзякуючы адданасці Карасон Акіна, выступу арміі і ціску замежнага спонсара дыктатуры, піша Андрэй Акушка.**

Рэспубліка Філіпіны — адзіная ў Азіі краіна з пераважна хрысціянскім, каталіцкім насельніцтвам таксама прайшла праз перыяд дыктатуры. Цяпер многія краіны Паўднёва-Усходняй Азіі развіваюцца як дэмакратыі. А на мяжы 70-х і 80-х гадоў XX стагоддзя ў гэтым рэгіёне амаль не было дэмакратычных краін — акрамя самай высокаразвітай, Японіі.

### Вяртанне эмігранта

У 1983-м знакавы праціўнік філіпінскай дыктатуры — былы сенатар, кіраўнік Ліберальнай партыі — Бенігна Акіна вярнуўся на радзіму з эміграцыі, з ЗША. Улады папярэдзілі Акіна: у выпадку вяртання ён будзе арыштаваны проста ў аэрапорце і адправіцца ў турму даседжваць тэрмін.

Трыма гадамі раней Акіна адпусцілі ў ЗША аднаўляцца пасля перанесенага ў турме інфаркту. Там ён і завіс. Чытаў лекцыі, гуртаваў дыяспару.

Акіна быў загартаваны палітычны баец. Перад эміграцыяй ён правёў у турме 8 гадоў, атрымаў смяротны прысуд, не зламаўся... Гэта былі жорсткія часы, цяпер палітычная барацьба нашмат больш траваедная ва ўсім свеце.

Акіна вырашыў: пара вяртацца. У эміграцыі яму было нудна, а дыктатура яўна дыхала на ладан: і эканоміка, і грамадства хісталіся.

На той момант дыктатар Фердынанд Маркас кіраваў Філіпінамі ўжо 18 гадоў.

У 1965 годзе, калі Маркас дэмакратычным шляхам прыйшоў да ўлады, эканоміка Філіпін хутка расла. Але сацыяльная сфера правісала, і новы прэзідэнт абяцаў гэта змяніць. У свой першы тэрмін ён зрабіў больш даступнымі адукацыю і медыцыну, распачаў вялікі праект па будаўніцтве дарог, каб з’яднаць асноўныя астравы Філіпінскага архіпелага — іх 7641.

У выніку Маркас стаў першым у гісторыі прэзідэнтам краіны, якому ўдалося пераабрацца на другі тэрмін. Але далей прыйшлося цяжка: ён набраў шмат крэдытаў, і эканоміка апынулася на краі прорвы, трымаючыся толькі дзякуючы замежнай падтрымцы — грашам Міжнароднага валютнага фонду і ЗША.

Масавыя пратэсты супраць інфляцыі, скарачэння

**Фердынанд Маркас**
(1917–1989) нарадзіўся ў заможнай сям'і палітыка і дачкі памешчыка, звязанай з каталіцкімі коламі. Атрымаў юрыдычную адукацыю, у юнацтве зацікавіўся палітыкай і стаў студэнцкім лідарам. У 1935-м абвінавачаны ў забойстве палітычнага праціўніка свайго бацькі і прыгавораны да смяротнага пакарання, але здолеў апраўдацца падчас апеляцыі.
Падчас Другой сусветнай вайны трапіў у японскі палон і быў адпушчаны праз некалькі месяцаў. Сцвярджаў, што стварыў буйны партызанскі атрад з 9 тысяч чалавек, хоць гэтыя лічбы не пацвердзіліся. У 1965-м перамог на прэзідэнцкіх выбарах. У гэтым Маркасу дапамагла папулісцкая праграма: ён абяцаў шырокую падтрымку бедным грамадзянам. Паступова стаў дыктатарам.
У 1986 годзе быў звергнуты пасля пратэстаў, нечакана падтрыманых арміяй. Яго палітычныя апекуны, амерыканцы, не далі народу пакараць дыктатара і забяспечылі яму палітычны прытулак. Памёр ён на Гаваях у 1989-м, перапахаваны на радзіме, у правінцыі Паўночны Ілокас на поўначы Філіпін, у 1993-м. У 2016-м перапахаваны яшчэ раз — на могілках герояў пад Манілай. Хоць частка грамадства была супраць перапахавання Маркаса ў такім прэстыжным месцы, лічачы яго дзяржаўным злачынцам.

сацыяльных праграм і дыктатарскіх замашак распачаліся ў 1970-м. Каб спыніць іх, у верасні 1972-га Маркас увёў ваеннае становішча. Тады пасадзілі і Акіна. Ваеннае становішча пратрымалася цэлых восем гадоў. За гэтыя часы замежны доўг краіны вырас у цэлых 11 разоў.

### Генералы самі

Тысяча спецназаўцаў і байцоў Унутраных войскаў чакалі сенатара Акіна ў аэрапорце, каб арыштаваць. Але ў турму Акіна не трапіў. Як толькі яго вывелі на трап самалёта, прагучалі стрэлы. Спачатку — адзін, пасля — чэргамі. Аэрапорт, Азія, чалавечы вулей, здавалася б, але вось жа, бывае, ніхто чужы — ні рэпарцёры, якія суправаджалі Акіна на борце рэйса з Тайбэя, ні супрацоўнікі аэрапортавых службаў — не бачыў, хто канкрэтна стрэліў у патыліцу Акіна, нібы прыводзячы ў выкананне смяротны прысуд.

Афіцыйная версія была такая: у Акіна выстраліў свой жа, апазіцыянер, але радыкал, камуніст, які хаваўся пад трапам. Гэтага апазіцыянера тут жа, на месцы, салдаты зрашэцілі з аўтаматаў — стралялі па ім некалькі хвілін.

Пазней будзе расследаванне, і яно выявіць, што ніякі не апазіцыянер, не радыкал, канечне ж, а самі сілавікі, вялікая іх група, арганізавалі забойства Акіна. Яны, у тым ліку генералы, сядуць у турму на 22 гады, прычым гэта здарыцца яшчэ пры кіраванні Маркаса. Дыктатар нібыта быў ні пры чым, увогуле, хварэў у той момант.

Доказаў таго, што загад аддаў менавіта Маркас, дагэтуль няма. Можа, ён і не аддаваў загаду. Генералы самі рашылі.

### Як яна засталася жывою?

Усе дзевяць дзён, пакуль людзі развітваліся з сенатарам Акіна, ён ляжаў у труне непрыхарошаны, з ненакрытай дзіркай ад кулі ў галаве. Гэта была воля яго мамы: «Хай усе бачаць, што вырабілі з маім сынам!»

Карасон Акіна, удава сенатара Бенігна, і пяцёра іх дзяцей прыляцелі на пахаванне з ЗША. Два мільёны чалавек сабраліся на развітанне, многія з жоўтымі стужкамі, сімвалам памяці. З гэтага пахавання, з гэтага паходу за труною і пачалася ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Абраны на другі тэрмін прэзідэнт Фердынанд Маркас** прысягае філіпінцам. 1969 год.

**Скайлайн сталіцы Філіпін Манілы.**
І побач — камфортныя катэджы.




SHUTTERSTOCK.COM BY HYOTOGRAPHICS

папулярнасць Карасон — па-іспанску «Карасон» значыць «сэрца» — Акіна.

Карасон застанецца на радзіме.

Карабель дыктатуры працягваў плаванне, але працёкаў рабілася ўсё больш.

Летам 1985-га, праз два гады пасля забойства Акіна, амерыканскія журналісты раскапалі, што Маркас і яго жонка Імельда валодаюць дарагой нерухомасцю ў ЗША. Быў скандал. Паралельна раскрылася, што філіпінскі дыктатар схлусіў пра свае геройствы падчас Другой сусветнай вайны,




## Рэспубліка Філіпіны

**Насельніцтва** 107 мільёнаў чалавек, і яно хутка расце.

**Тэрыторыя** 300 тыс. кв. км (у паўтара разу болей, чым у Беларусі). Найбуйнейшыя астравы — Лусон на поўначы і Мінданаа на поўдні. Клімат трапічны — вільготны і спякотны.

Розныя дзяржавы на **Філіпінскім архіпелагу** існавалі яшчэ ў I тысячагоддзі. У XIV стагоддзі тут з'явіліся арабы, а ў 1521-м — іспанцы на чале з арганізатарам першага кругасветнага падарожжа Фернанам Магеланам, які тут і быў забіты.

У канцы XIX стагоддзя філіпінцы здабылі незалежнасць, але ненадоўга — краіну акупавалі амерыканцы. Толькі ў 1946-м мясцовыя жыхары канчаткова сталі вольнымі. Ад іспанцаў ім засталася каталіцкая вера, формы імёнаў і прозвішчаў, ад амерыканцаў — адна з дзвюх дзяржаўных моў (англійская).

**Сталіца** — Маніла. А найбольшы горад краіны — Кесан-Сіці.

**Сярэдні заробак** складае каля 280 долараў — амаль удвая менш, чым у Беларусі.

а ягоны бацька супрацоўнічаў з японскімі акупантамі.

У такіх абставінах Карасон Акіна вылучыла сваю кандыдатуру на датэрміновыя выбары 1986 года.

Карасон Акіна не ўдзельнічала ў палітыцы, але варылася ў ёй. Яна вырасла ў сям'і палітыка, багатага землеўласніка і доўгі час жыла клопатамі і трывогамі мужа.

Дзяржаўныя СМІ высмейвалі яе як хатнюю гаспадыню без досведу кіравання. Але яе прамовы станавіліся ўсё больш змястоўнымі, а голас — упэўненым. Яна выгадна адрознівалася ад іншых лідараў апазіцыі, кожны з якіх спрабаваў цягнуць коўдру на сябе.

Чаму яе не забілі таксама? Ёсць гіпотэза, што ад гэтага Маркаса строга засцераглі амерыканцы, спонсары рэжыму, думку іх дыктатар не мог ігнараваць. Для ЗША і Бенігна, і Карасон Акіна былі прымальнай апазіцыяй, гарантыяй, што ў выпадку змены ўлады краінай не авалодаюць прыхільнікі СССР — тады ішла халодная вайна.

Яўка на выбарах была высокай — 79% выбаршчыкаў. Афіцыйна гэта менш, чым на выбарах 1981-га. Але назіральнікі заўважалі, што візуальна людзей на ўчастках было больш, чым у мінулыя гады.

### Афіцэры трох выпускаў

Выбары прайшлі 7 лютага 1986-га. 15 лютага Цэнтрвыбаркам абвясціў Маркаса пераможцам. У адказ Карасон сабрала вялікі мітынг. Сотні тысяч філіпінцаў выйшлі на манільскі аналаг мінскага другога кальца — *Epifanio de los Santos Avenue* (скарочана *EDSA*, таму падзеі часам клічуць «рэвалюцыяй *EDSA*»). У плане Акіна былі ▶


WIKIMEDIA COMMONS

**Сотні тысяч пратэстоўцаў на галоўнай дарозе Манілы** выступаюць супраць сфальсіфікаваных выбараў. Люты 1986-га.

▶ цалкам мірныя заклікі: не плаціць падаткі і не рабіць камунальныя плацяжы, не набываць тавары ў кампаній, звязаных з дыктатарам.

**Карасон Акіна** (1933–2009) нарадзілася ў сям'і палітыка і фармацэўта. Спачатку вучылася ў школе на Філіпінах, працягвала адукацыю ў ЗША. Там атрымала досвед палітычнай барацьбы: стала валанцёрам у камандзе Томаса Дзьюі, які ў 1948 годзе прайграў прэзідэнцкія выбары Гары Трумэну. У 1954-м кінула вучобу і выйшла замуж за філіпінскага палітыка Бенігна Акіна, які неўзабаве стаў лідарам Ліберальнай партыі, сенатарам і губернатарам адной з правінцый. У наступныя гады займалася дзецьмі і сям'ёй. Частку асабістых грошай ахвяравала мужу на палітычную барацьбу. У 1972-м Бенігна, апанент дыктатара Маркаса, быў арыштаваны і вызвалены толькі праз восем гадоў для лячэння ў ЗША. У 1983-м пасля вяртання на радзіму быў забіты, тады на радзіму вярнулася і ўдава, каб арганізаваць пахаванне. Праз тры гады хатняя гаспадыня і маці выйграла выбары як адзіны кандыдат ад апазіцыі.

На бок Акіна ўстаў Каталіцкі касцёл, вельмі паважаны на Філіпінах. Кардынал Рыкарда Відаль назваў вынікі выбараў «несправядлівымі». Ён сказаў, што кожны філіпінец павінен сам вырашыць, што рабіць далей. І дадаў, што Царква з рашэннем ужо вызначылася: яна будзе змагацца супраць хлусні.

Хто ведае, ці ўдалося б паваліць Маркаса такім «доўгім шляхам». Але ўсё пайшло інакш. У арміі на момант выбараў існавала група маладых афіцэраў, якія не прымалі рэалій дыктатуры і падумвалі пра рашучы метад перамен. У іх была задума штурму прэзідэнцкага палаца. Маладыя афіцэры называлі сябе «Рухам за рэформы сілавых структур», які нагадваў партугальскі «Рух капітанаў» (чытайце пра партугальскую рэвалюцыю гваздзікоў у №8/2020 «Нашай гісторыі»). Гэта было невялікае кола сяброў: у гэтыя групы аб'ядналіся афіцэры трох выпускаў Вайсковай акадэміі, на момант выбараў ім было па 37, 36 і 30 гадоў. Але ім нефармальна, з усёй генеральскай хітрасцю, спрыяў міністр абароны.

Паваротным момантам Жоўтай рэвалюцыі стала нечаканая заява 32 тэхнічных супрацоўнікаў, камп'ютарных адміністратараў Цэнтрвыбаркама Філіпін. Яны ў жывым эфіры заявілі пра тое, што выбары насамрэч былі нахабна сфальсіфікаваныя. Падбіла іх на такі ўчынак Лінда Капунан — жонка аднаго з маладых «афіцэраў за рэформы».

Маркас яшчэ паспеў арыштаваць частку афіцэраў-змоўшчыкаў. Але 22 лютага кіраўнік Унутраных войскаў Фідэль Рамас і міністр абароны Хуан Энрыле таксама заявілі, што вераць доказам фальсіфікацыі выбараў і лічаць пераможцай Карасон Акіна. ▶

## Мовы Філіпінаў

Афіцыйна ў Філіпінах дзве дзяржаўныя мовы: англійская як мова былых каланізатараў і мясцовая піліпіна (філіпіна). Да 1973 года афіцыйнай мовай лічылася і іспанская, але пасля яна гэты статус страціла, а ў 1987–2008 гадах нават была выключаная са школьных праграм як абавязковая для вывучэння.

Увогуле, насельніцтва астравоў Філіпінскага архіпелага гаворыць на сотнях моў і дыялектаў аўстранезійскай сям'і, вылучаецца ажно 13 галін розных філіпінскіх моў. Гэта адзін з найбольш шматмоўных рэгіёнаў свету.

Але ў 1930-я гады мясцовая аўтаномная Нацыянальная асамблея Філіпінаў прыняла рашэнне, што мясцоваму насельніцтву для пачуцця еднасці патрэбна адзіная нацыянальная мова. Каб яе распрацаваць, у 1937 годзе быў створаны Нацыянальны моўны інстытут, які рэкамендаваў прыняць у якасці базісу для нацыянальнай тагальскую мову.



**Вікіпедыя на тагальскай мове.**


SHUTTERSTOCK.COM, BY B.M. NUNES

**Тэрасныя рысавыя палі ў Батадзе**, Паўночны Лусон, уключаныя ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА.

Яна да таго часу была і найбольш пашыраная, і найбольш вывучаная ды літаратурна развітая. Да таго ж менавіта тагальская была мовай насельніцтва сталічнага рэгіёна.

Цягам наступных гадоў на аснове тагальскай мовы была распрацаваная новая мова — піліпіна (філіпіна). Фармальна піліпіна — асобная мова, але паколькі ад тагальскай яна розніцца не вельмі істотна, проста маючы ў сабе дамешкі як з іншых мясцовых моў, так і англійскай ды іспанскай, то лінгвісты часта схільныя трактаваць яе толькі разнавіднасцю тагальскай.

Роля піліпіна ў грамадскім жыцці краіны — не першасная, гэтая мова відавочна саступае англійскай. Апошняя з'яўляецца ў Філіпінах мовай міжнацыянальных зносін, у асноўным на ёй вядзецца справаводства, працуюць СМІ і ўстановы адукацыі. Насельніцтва ж працягвае ў побыце збольшага карыстацца ўласнымі мовамі і гаворкамі.

Філіпінскі падыход пераняла Інданезія. Там таксама стварылі штучную «інданезійскую мову», каб краіна мела сваю дзяржаўную. Але інданезійцы пайшлі ў моўным пытанні далей за філіпінцаў. Інданезійская мова сапраўды стала пашыранай, асноўнай, краіна адмовілася ад мовы былых каланізатараў — нідэрландскай, — і дзяржапарат працуе на інданезійскай. Тады як Філіпіны захавалі англійскую ў якасці працоўнай. Але інданезійцам было прасцей, бо яны сваю мову стваралі на аснове малайскай, якая і раней выкарыстоўвалася ў гэтым рэгіёне ў якасці *lingua franca*, а да таго ж мела даўнюю літаратурную традыцыю.

Па-за межамі Філіпін пра існаванне некаторых мясцовых моваў стала шырока вядома ў выніку з'яўлення і развіцця шматмоўнага міжнароднага анлайн-праекта «Вікіпедыя — вольная энцыклапедыя». На сённяшні дзень раздзел Вікіпедыі на себуанскай мове займае па колькасці артыкулаў другое (!) месца сярод усіх моваў свету, саступаючы толькі англійскай. Па стане на кастрычнік 2020 года на себуанскай мове (колькасць носьбітаў каля 16 000 000 чалавек) створана больш за 5 350 000 вікіпедыйных артыкулаў (на англійскай — каля 6 200 000, на рускай — каля 1 700 000, на беларускай афіцыйным правапісам — каля 200 000, тарашкевіцай — больш за 70 000).



**Вікіпедыя на себуанскай мове.**



**Вікіпедыя на варайскай мове.**

А на 11-м месцы з больш чым 1 250 000 артыкулаў месціцца раздзел Вікіпедыі на яшчэ адной з філіпінскіх моваў — варайскай (прытым што колькасць яе носьбітаў усяго каля 2 600 000 чалавек!).

Але не варта з такіх фантастычных лічбаў спяшацца рабіць выснову, што гэтыя філіпінскія мовы вельмі літаратурна развітыя, а іх носьбіты ледзь не пагалоўна сядзяць у інтэрнэце і актыўна ўдзельнічаюць у вікіпедыйным праекце. Такіх фенаменальных паказчыкаў абодвум раздзелам удалося дасягнуць выключна пры дапамозе т. зв. «ботазаліўкі», калі вялізная колькасць аднатыпных артыкулаў ствараецца аўтаматычна робатамі-ботамі. Такія артыкулы складаюцца, як правіла, толькі з 1–3 сказаў і шаблона-карткі. Практычная карысць ад такой энцыклапедыі зусім нязначная. Для параўнання, раздзел Вікіпедыі на тагальскай мове, які ствараецца больш сумленна, мае ўсяго каля 65 000 артыкулаў. Але выглядае пры гэтым куды больш салідна і прывабна нават чыста вонкава.





**Модны сярод еўрапейскіх мам слінг** на Філіпінах рэч традыцыйная.

SHUTTERSTOCK.COM, BY STANISLAVBELOGLAZOV



COSMOPOLITAN.COM

Філіпіны — сярод лідараў у свеце па колькасці пераможцаў сусветных конкурсаў прыгажосці. **На фота: Пія Вурцбах, дачка немца і філіпінкі, Міс Сусвет — 2015.** Крытыкі кажуць, што ажыятаж вакол конкурсаў прыгажосці падаграваў дыктатар Маркас. Краіне не было чым ганарыцца ў эканоміцы і культуры, тады ён пераводзіў увагу на прыгажосць дзяўчат.


**Лагуна на востраве Палаван.**


**Маскі-ўсмешкі — філіпінская традыцыя.**

SHUTTERSTOCK.COM, BY HUODEPONGGOL


WIKIMEDIA COMMONS

У філіпінскай міфалогіі **першамужчына і першажанчына з'явіліся з гіганцкага расшчэпленага бамбука.**


SHUTTERSTOCK.COM, BY ALENA OZEROVA


SHUTTERSTOCK.COM, BY NIVEDITH GAJAPATHY

**Філіпінскі тарсье** сустракаецца толькі на гэтым архіпелагу. Гэта, між іншым, малпа, самая маленькая з вядомых прыматаў.


SHUTTERSTOCK.COM, BY REYCHEL ANN DOMINGO

Незабыўная для еўрапейца і любая філіпінцам страва — **салёная рыба з шакаладным рысавым пудынгам** (можаце паспрабаваць з іншым шакаладным дэсертам).


SHUTTERSTOCK.COM, BY CRYSTAL EYE STUDIO

**На фота: дынугуан з путамі.** *Dinuguan* — гэта суп з крывёю. Аналаг нашай крывянкі, толькі ў форме супу. А *puto* — гэта салодкія рысавыя клёцкі.
Дынугуан вараць з вантробаў і дадаюць кроў. І перцу, часначку для вастрыні. Уявіце сабе нейкі беларускі суп, загушчаны крывёю і правараны, паэксперыментуйце.
Путы гатуюцца з салодкага рысавага цеста, якое выпрабляюць з намочанага для кароткай ферментацыі (з дражджамі ці без дрожджэй) рысу. Па-філіпінску такое цеста называюць *galapong* і гатуюць на пары. Тыповыя спалучэнні для пута — супы, мяса, яйкі накрута, сыр, масла.




**Інаўгурацыя Карасон Акіна**, 1986 год.

## Адзін тэрмін

Праз год на рэферэндуме будзе прынятая новая канстытуцыя.

За год да сканчэння свайго прэзідэнцкага тэрміну Акіна даб'ецца ад ЗША вывaду войскаў з Філіпін.

Ісці на другі тэрмін Акіна адмовілася, хоць магла скарыстацца прыняццем новай канстытуцыі. Замест гэтага яна падтрымала кандыдатуру таго, без каго б у 1986-м не перамагла — генерала Фідэля Рамаса. Далей у палітыцы не ўдзельнічала, аднак як маральны аўтарытэт выказвалася наконт падзей і дапамагла сыну, Бенігна-трэцяму (першым быў ягоны дзед, таксама палітык), стаць сенатарам. Дарэчы, Бенігна Акіна пасля стане і прэзідэнтам Філіпін — і будзе ім з 2010 па 2016 гады. ◆

## ▸ Дзве інаўгурацыі

Іншыя сілавікі на той момант працягвалі захоўваць вернасць Маркасу. Усё было яшчэ хістка. Калі з базы выйшла калона бранятэхнікі, тысячы людзей здолелі спыніць яе жывым шчытом, у першым шэрагу стаялі манашкі з ружанцамі.

Армейскія часткі пэцкацца разгонам людзей не хацелі і пачалі адна за адной прысягаць Карасон. Ці генералам Рамасу і Энрыле, што азначала тое самае. Спроба паслаць на незадаволеных верталёты скончылася няўдала — экіпажы перайшлі на бок Акіна, вярнуліся на базу ды атакавалі аэрадром, дзе засталася верная Маркасу авіяцыя.

У значнай ступені Маркас сам падштурхнуў вайскоўцаў да здрады яму, калі з-за ўласнай падазронасці знішчыў сацыяльныя ліфты ў арміі. З 60-ці генералаў 27 былі паводле ўзросту пенсіянерамі. Але дыктатар забараніў ім звальняцца, бо гэта былі лаяльныя яму людзі, а маладзейшым, менш правераным, ён не давяраў. Палкоўнікі ж, фактычна не маючы пры такой палітыцы дыктатара шанцаў на кар'ерны рост, пераходзілі на бок Карасон Акіна.

Маркас забараніў страляць па дэманстрантах баявымі патронамі, бо з Вашынгтона сказалі: пераход гэтай рысы будзе мецъ наступствы. Тым не менш у момант хаосу 25 лютага снайперы ўсё ж адкрылі агонь па людзях.

25 лютага 1986 года прайшлі дзве інаўгурацыі. Спачатку прыняла прысягу Акіна — у элітным клубе «Філіпіна». Пасля тое самае зрабіў і Маркас — у прэзідэнцкім палацы. Але гэта было ўжо проста акцёрства. На той момант на бок Акіна перайшлі прыкладна 90% вайскоўцаў.

26 лютага Маркас з сям'ёй быў ужо на амерыканскай вайсковай базе на Гаваях. А мільёны філіпінцаў выйшлі на вуліцы гарадоў, каб адсвяткаваць канец дыктатуры.




**Пахаванне жанчыны, што вярнула на Філіпіны дэмакратыю, 2009 год.** На развітанне прыйшло больш за 300 тысяч чалавек. Па-простаму Карасон называлі Коры. І гэтае скарочанае імя нават выбіта на мануменце ў яе гонар.


























## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт», Kniaz.by
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.



Апошняя здрада здарылася тут – у Мсціславе.

# Не зусім здраднікі

**У XV стагоддзі праваслаўная шляхта Вялікага Княства Літоўскага не лічыла нечым ганебным перайсці на бок Масквы. Але пройдзе зусім няшмат часу, і цэнтральнай уладзе ўдасца змяніць такую свядомасць, піша кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч.**

Насельніцтва ВКЛ у вачах яго жыхароў падзялялася на дзве асноўныя катэгорыі: шляхту і просты люд. У сваю чаргу, кожная з гэтых груп магла драбніцца паводле мноства крытэрыяў: веры, мовы, эканамічнай заможнасці. Але як адчувала і кім уяўляла сябе «маўклівая большасць», пазбаўленая ўдзелу ў палітычным жыцці і вайсковай справе, нікога асабліва не клапаціла, таму і ведаем мы пра гэта вельмі мала. Рэальную вагу мела толькі становішча шляхецкага саслоўя — палітычнай эліты таго часу.

## Узвышэнне літоўскіх нобіляў

Ад самага ўтварэння ВКЛ шляхта складалася з дзвюх асноўных частак: ліцвінаў і русінаў. Пазней гэтыя дзве групы зліюцца ў адзін «шляхецкі народ», за якім замацуецца агульнае імя «ліцвіны» (чытайце пра гэта ў артыкуле «Ліцвіны супраць русінаў» у № 9/2020 «Нашай гісторыі»). Але ў першых пакаленнях арыстакратыя ВКЛ выдатна


SHUTTERSTOCK.COM, BY KALYANBY

памятала, хто з іх адкуль паходзіць, і надавала гэтаму паходжанню пільную ўвагу.

Да таго ж практычна ўся русінская знаць доўгі час адрознівалася праваслаўным веравызнаннем, у той час як усе першапачатковыя ліцвіны былі язычнікамі. Да хрышчэння Літвы толькі невялікая частка з іх паспела прыняць праваслаўе. Астатнія ў 1386 годзе зрабіліся каталікамі, што па-ранейшаму адасабляла іх ад русінаў. Гэта было істотнай перашкодай для змяшаных шлюбаў і значна запавольвала працэс узаемнай інтэграцыі, у якім былі зацікаўленыя абодва бакі.

Пра тое, як вырашалася пры гэтым «моўнае пытанне», мы гаварылі ў мінулы раз. Але не менш важнымі былі і палітычныя адносіны. Прынцыповае значэнне было ў тым, што паноўная ў Вялікім Княстве да сярэдзіны XVI стагоддзя дынастыя Гедымінавічаў мела літоўскае паходжанне, і продкі найбольш старажытных ліцвінскіх родаў служылі яе продкам яшчэ ў працэсе ўтварэння ВКЛ. Вядома, без падтрымкі хаця б часткі рускага баярства гэтая дзяржава не магла паўстаць і ўтрымацца, таму праваслаўныя роды таксама былі дапушчаныя ў эліту. Але іх прадстаўніцтва там заўжды было вельмі сціплым.

Так, Валынскі летапіс называе ўсяго пару імёнаў рускага паходжання з блізкага кола Міндоўга: нейкі ваявода Хвал і дарадца з Разані Яўстафі Канстанцінавіч. Несумненная наяўнасць прынамсі аднаго мясцовага дарадцы і ў радзе князя Таўцівіла ў бытнасць апошняга полацкім князем.

У нейкай колькасці ўваходзілі русіны ў склад велікакняжацкай рады пры Віценю (пачатак XIV стагоддзя). Пра склад эліты ў часы Гедыміна (1316–1341) звестак амаль няма, але вядомая выключная роля, якую адыгрываў праваслаўны зяць вялікага князя, гарадзенскі намеснік Давыд. Хоць яго паходжанне дыскусійнае: ён мог быць як русінам, так і ахрышчаным ліцвінам (паводле адной з версій — сынам пскоўскага князя Даўмонта-Цімафея).

На часы вялікага князя Альгерда (1345–1377) прыходзіцца жорсткая эпідэмія чумы («чорнай смерці»). Магчыма, якраз тады, ва ўмовах высокай смяротнасці, склад эліты істотна абнавіўся — і не на карысць русінаў. Менавіта на гэты час прыпадае шмат згадак пра літоўскіх баяр, што атрымалі землі і далі пачатак магнацкім родам наступных стагоддзяў. Можна меркаваць, што склад ліцвінаў у элітах пры Альгердзе быў адназначна непрапарцыйна высокі, калі параўноўваць са складам насельніцтва княства.

Тэндэнцыя працягнулася і пры сыне Альгерда, князю Ягайле, калі склад эліты амаль цалкам вызначалі князі з роду Гедымінавічаў і літоўскія баяры. Сярод тых і другіх частка насіла хрысціянскія імёны, а большасць — язычніцкія.

## Падставы для канфлікту, якія выбухнуў пасля смерці Вітаўта, былі закладзеныя пры ім

Пасля таго, як каталіцтва стала дзяржаўнай рэлігіяй ВКЛ, прадстаўнікі этнічна літоўскага баярства сталі не менш уплывовымі асобамі, чым Гедымінавічы. Шэраг з іх Вітаўт, стаўшы вялікім князем у 1392 годзе, імкліва ўзвысіў і надаў ім новыя буйныя маёнткі, большасць з якіх прыйшлася на землі сучаснай Беларусі. Гэтае становішча было афіцыйна замацавана падчас Гарадзельскай уніі 1413 года, калі літоўскія роды атрымалі гербы ад польскіх арыстакратаў і іншыя прывілеі. Роды рускага паходжання, якія амаль цалкам захавалі вернасць праваслаўю, маглі адгэтуль разлічваць толькі на другасныя дзяржаўныя пасады і значна больш сціплыя наданні. ▶

▶ Так былі закладзеныя падставы для канфлікту, які выбухнуў пасля смерці Вітаўта, у 1430-я гады.

### Барацьба і саступкі

У гэтым канфлікце перапляліся і эканамічныя, і рэлігійныя, і палітычныя матывы. Мы не ведаем, як гэтае спалучэнне інтарэсаў асэнсоўвалася самімі ўдзельнікамі міжусобіцы — гэта не знайшло ўвасаблення ў наяўных крыніцах. Але мы ведаем, як яно было асэнсавана нашчадкамі і захавалася ў гістарычнай памяці.

Калі праз некалькі дзесяцігоддзяў ствараўся аповед пра гэтыя падзеі, што дайшоў да нас у беларуска-літоўскіх летапісах, яго аўтар рэтраспектыўна апісаў канфлікт 1430-х гадоў як супрацьстаянне двух этнічных масіваў — Літвы і Русі: «Літва ж пасадзіла вялікага князя Жыгімонта Кейстутавіча на вялікае княжанне ў Вільні і ў Троках. І пасадзіла князя Свідрыгайлу на вялікае княжанне Рускае. ... Вялікі князь Свідрыгайла сабраў шмат сіл рускіх і пайшоў на Літву ды заваяваў шмат літоўскіх земляў. ...Вялікі князь Жыгімонт, сабраўшы ўсю сваю літоўскую сілу, адправіў свайго сына князя Міхаіла на Русь» і г.д.

На той час Жыгімонту Кейстутавічу і яго прыхільнікам удалося перамагчы, але дзеля гэтага яны мусілі часткова адмовіцца ад сваёй сацыяльнай выключнасці. Троцкі прывілей 1434 года распаўсюдзіў на праваслаўных значную частку палітычных і эканамічных правоў, якімі раней валодалі толькі каталікі. У наступныя дзесяцігоддзі былі створаныя ці пашыраныя першыя рэдакцыі земскіх прывілеяў, якія надавалі русінскай знаці выключную ролю ў кіраванні Полацкай і Віцебскай землямі, але за кошт таго, што ёй быў па-ранейшаму закрыты доступ да ключавых пасад у Віленскім і Троцкім ваяводствах.

У час доўгага панавання Казіміра Ягайлавіча (1440–1492) мы не маем сведчанняў пра масавыя канфлікты, якім надавалася б выразная этнічная афарбоўка. Але большасць новых маёнткаў у гэты час даставалася альбо Гедымінавічам, альбо панам — нашчадкам узвышаных пры Вітаўце літоўскіх па паходжанні і каталіцкіх па веравызнанні родаў (Манівідаў, Гаштаўтаў, Кезгайлаў, Радзівілаў і іншых), якія мелі фактычную манаполію на месцы ў дзяржаўнай радзе. Яна нават афіцыйна так і называлася — «паны-рада».

Русінам заставалася групавацца вакол тых Гедымінавічаў, што мелі праваслаўнае веравызнанне і ўтваралі апазіцыю паноўнай каталіцкай групоўцы. Правадыром апазіцыі быў спярша кіеўскі князь Сямён Алелькавіч, які ганарліва тытулаваўся «з ласкі Божай вялікім князем Кіеўскім». Пасля яго смерці ў 1471 годзе Кіеўскае княства было скасавана, а створанае замест яго ваяводства (на кіраўніцтва ім быў пастаўлены Марцін Гаштаўт) атрымала такі ж земскі прывілей, як раней Полацкая і Віцебская землі — з відавочнай мэтай прыцягнуць да лаяльнасці хаця б частку тамашняй праваслаўнай шляхты.




У грамадзянскай вайне 1430-х **войска русінаў узначальваў ліцвін Свідрыгайла.**

**Падставай для прэтэнзій Масквы на землі ВКЛ быў факт існавання ў мінулым Рускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве**

Роля правадыра апазіцыі перайшла да Сямёнавага брата Міхаіла Алелькавіча, які абапіраўся на сваё Слуцка-Капыльскае княства. Разам з іншымі праваслаўнымі князямі літоўскага паходжання (Фёдарам Бельскім і Іванам Гальшанскім-Дубровіцкім) ён паспрабаваў у 1481-м здзейсніць дзяржаўны пераварот, звесткі пра які вельмі ўрыўкавыя і супярэчлівыя. Маскоўскія летапісы паведамляюць, што змоўшчыкі нібыта планавалі «па Беразыню раку адсесці на вялікага князя Літоўскай зямлі». Фактычна гэта азначае, што яны мелі (ці маскоўцы прыпісвалі ім) намер адарваць ад ВКЛ якраз тую тэрыторыю Русі, якая за паўстагоддзя да таго была апорай Свідрыгайлы.

### З вотчынамі і без вотчын

Маскоўская дзяржава выкарыстоўвала праявы

незадаволенасці на рускіх землях ВКЛ ва ўласных мэтах. Якраз тады вялікі князь маскоўскі Іван III выступіў з прэтэнзіямі на ўсю Русь. Падстава была той самай, на якую намякаў Сямён Алелькавіч, — факт існавання ў мінулым Рускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве. Існавала памяць пра яе, а насельніцтва ўсіх частак, на якія гэтая дзяржава распалася, называла сябе рускімі. Таму ўладар адной з такіх частак меў спакусу пазмагацца за астатнія.

Гэтая ж акалічнасць давала падставу вотчыннікам з рускай часткі ВКЛ пры сепаратысцкіх памкненнях і нават пры пераходзе на маскоўскі бок адчуваць сябе, хаця б ва ўласных вачах, «не зусім здраднікамі». Адзін з трох галоўных змоўшчыкаў 1481 года, Фёдар Бельскі, пасля пакарання смерцю двух астатніх уцёк менавіта ў Маскву.

Такая змена падданства здаўна лічылася законным правам пакрыўджанага арыстакрата. Але неўзабаве пачаўся масавы пераход у маскоўскае падданства памежных князёў разам з вотчынамі. Гэта было ўжо яўнай пагрозай дзяржаўнай бяспецы ВКЛ. З 1487 па 1493 год такі пераход здзейснілі князі Варатынскія, Бялеўскія, Мярэцкія, Вяземскія, продкі якіх прысягнулі некалі Альгерду. У канцы 1490-х на бок Масквы перайшлі са сваімі ўладаннямі Сямён Бельскі і трое князёў маскоўскага паходжання: Сямён і Іван Мажайскія і Васіль Шамячыч, бацькі якіх некалі за пераход у падданства ВКЛ атрымалі вялізныя вотчыны (Бранск, Чарнігаў, Старадуб, Ноўгарад-Северскі).

З'явай такога ж кшталту быў мяцеж братоў Міхаіла і Васіля Глінскіх у 1508 годзе.


**«Шляхта» сучаснай Беларусі** не ведае падзелу на літоўскую і рускую.

HOLIDAY.BY

Паводле хронікі Стрыйкоўскага, кіеўскі ваявода Васіль Глінскі спакушаў мясцовую шляхту праектам перанясення сталіцы на Русь і аднаўлення «Кіеўскай манархіі». Праўда, Глінскім і іх прыхільнікам давялося ўрэшце перайсці ў Маскву без вотчын. У адказ 9 лютага 1509 года паны-рада ўхвалілі пастанову («уставу»), якая ўпершыню ўводзіла ў пісаным заканадаўстве ВКЛ паняцце здрады, якая цягне пазбаўленне правоў на маёмасць.

## Пры пераходзе на маскоўскі бок сепаратысты адчувалі сябе «не зусім здраднікамі»

Гэтая мера аказалася дзейснай. Далей з буйных праваслаўных арыстакратаў на бок Масквы перайшоў у 1514 годзе толькі сын князя Міхаіла Мсціслаўскага. Лёс самога Міхаіла, які падчас аблогі здаў Мсціслаў непрыяцелю, разглядаўся дзяржаўнай радай. Князь прасіў дараваць яму вымушаную капітуляцыю, «каб надалей яго шанавалі і дзяцей яго тым не папіналі». Але дараванне ён атрымаў толькі дзякуючы паруцы гетмана Канстанціна Астрожскага і іншых радных паноў. З гэтага часу стаўленне да пераходаў знаці на бок Масквы стала катэгарычна нецярпімым, і выпадкі такія спыніліся.

Такім чынам, XV і пачатак XVI стагоддзя атрымаліся вельмі напружанымі для палітычнай эліты. Гэта дапамагае зразумець, чаму ў далейшым і ліцвінская, і русінская шляхта прыкладала актыўныя намаганні, каб дасягнуць кансалідацыі. На гэта спатрэбілася яшчэ каля стагоддзя. Прыкладна з першай паловы XVII стагоддзя неістотным зрабілася, якія карані меў той ці іншы шляхецкі род. Усе яны мелі аднолькавыя каштоўнасці, прытрымліваліся адной мадэлі паводзін, а калі і варагавалі паміж сабой, то зусім не на падставе этнічнага паходжання. ◆




# Правільны пармезан *слухаюць*

**Ёсць вырабы, якія ўвесь час удасканальваюцца: напрыклад, тэлефоны. А ёсць прадукты, якія дасягнулі дасканаласці даўно і дзе галоўнае — захоўваць тэхналогію іх вырабу нязменнай. Так — з добрым хлебам, віном. І таксама сырам. Крохкі, як хлеб, і салёны, нібы хвалі Міжземнага мора. Малады, ён пахне вяршкамі, а як саспее — спелымі арэхамі. Яго называюць каралём сыроў — сыр парміджана-рэджана. Андрэй Дзмітранок пабываў у месцы, дзе яго робяць таксама, як 600 гадоў таму.**

Ёсць два варыянты назвы гэтага сыру: пармезан і парміджана-рэджана. Першы — французскі скарочаны, другі — арыгінальны і ўрэшце правільны, бо літаральна сведчыць пра паходжанне: парміджана значыць «з Пармы», а рэджана — «з Рэджа-Эміліі». Толькі паміж гэтымі гарадамі паўночна-цэнтральнай часткі Італіі выпрабляецца сапраўдны парміджана-рэджана.

У 2004 годзе Еўрапейскі суд пастанавіў лічыць пармезанам толькі сыр, выраблены паміж Пармай і Рэджай, але за межамі ЕС дагэтуль існуюць сотні не аўтарызаваных вытворцаў пармезану, у тым ліку і ў Беларусі.

А абароненае геаграфічнае паходжанне — не проста маркетынг, гэта яшчэ і фіксацыя арыгінальнасці. Можна паўтарыць тэхналогію прыгатавання, але немагчыма скапіяваць клімат, траву і мікраарганізмы, што даюць патрэбны смак.

Гурманы адзначаюць, што парміджана-рэджана, як ніякі іншы сыр, здольны перадаваць пяты, характэрны некаторым высокабялковым рэчывам смак, — *умамі*. Яго выдзяляюць асобна ад чатырох асноўных смакаў, бо чалавечы язык мае асобныя рэцэптары, каб распазнаваць глутаматы, якія гэты смак утвараюць. Дыскусійная харчовая

**Умамі** — прысмак высокабялковых страў, які ў Японіі і Кітаі лічаць пятым смакам, у дадатак да салодкага, горкага, кіслага і салёнага.

дабаўка глутамат натрыю якраз і падманвае нашы рэцэптары, ствараючы ўражанне сапраўднага ўмамі.

### А прыдумалі манахі

*«Ёсць там гара, уся з цёртага пармезану,*
*на якой жывуць людзі і нічым не займаюцца,*
*а толькі гатуюць спагеці ды равіёлі ...»*
Джавані Бакача, «Дэкамерон»

Італія знакамітая сваёй жывёлагадоўляй, у тым ліку і экзатычнай. У Фларэнцыі можна пакаштаваць стэйк з к'яніны (ледзь не дагістарычны белы бык), на поўдні — далікатную мацарэлу з малака чорных буйваліц. Найлепшае ж каровіна малако спрадвеку паходзіць з маляўнічых абшараў паміж Апенінскімі гарамі і ракой По.

## Сапраўдны парміджана-рэджана вырабляецца толькі ў раёне італьянскіх гарадоў Парма і Рэджа-Эмілія

Тэхналогію вырабу парміджана-рэджана распрацавалі ў XIII стагоддзі манахі бенедыкцінскага і цыстэрцыянскага ордэнаў. Ім патрэбны быў прадукт, які можна было б захоўваць працяглы час, а самім засяродзіцца на малітвах. Задачу паспяхова выканалі і перавыканалі. Ужо ў XIV стагоддзі сыр прадавалі па ўсёй Італіі і далей — праз парты Міжземнага мора.

Манахі валодалі манаполіяй на парміджана-рэджана да XVI стагоддзя, пакуль рэцэпт не трапіў да сыравараў Францыі і Нямеччыны. З гэтага часу з пераменным поспехам і ідзе барацьба за спадчыну і імя. Самым дзейсным рашэннем стала стварэнне ў 1928 годзе сырнага кансорцыума (*Consorzio del Formaggio Parmigiano-Reggiano*), які абмежаваў колькасць вытворцаў, вызначыў нормы і стаў праводзіць кантроль якасці. Манахі больш не займаюцца сырам, цяпер гэта занятак прыкладна 350 сыраварняў, адну з якіх мы і наведаем.

### 16 літраў малака

*— Ты кажаш, ён марыць пра сыр?*
*— Так, сэр, — адказаў я.*
*— У мяне ў табакерцы ляжыць не тытунь, а кавалачак пармезану.*
*Гэты сыр мы аддамо Бэну Гану!*
Роберт Льюіс Стывенсан, «Востраў скарбаў»

Шаснаццаць літраў малака патрэбна, каб атрымаць адзін кілаграм італьянскага сыру. Паводле нормаў кансорцыума, каровы не могуць сілкавацца сіласам. Гэта важныя пані, іх рацыён складаецца выключна са свежай травы і абавязкова з мясцовых лугоў, што абмяжоўвае тэрмін вытворчасці ▶

### Беларускі «пармезан»

У апошняе дзесяцігоддзе многія айчынныя сыраробныя прадпрыемствы выпускаюць прадукт, які амбіцыйна завецца беларускім пармезанам. Самі па сабе гэтыя сыры могуць быць і неблагія, але з сапраўдным парміджана-рэджана не параўнаюцца.
Так, беларускія сыравары часта практыкуюць выраб прадукцыі пад назвай «пармезан» усяго толькі паўгадавой ці нават двух- або трохмесячнай вытрымкі, што для парміджана-рэджана недапушчальна. Таксама для вырабу такіх сыроў можа выкарыстоўвацца пастэрызаванае, а не свежае малако, што таксама груба супярэчыць тэхналогіі.
Тым не менш такі айчынны «пармезан» карыстаецца попытам у Беларусі і Расіі, бо ён таннейшы праз спрошчаную тэхналогію.


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Традыцыйная сыраварня ўсё яшчэ належыць карэннай сям'і,** але працуюць на ёй цяпер не карэнныя італьянцы.


ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

Добры сыр трэба трохі памяць ручкамі.

▶ сыру — з красавіка па лістапад. Калі маеш справу з сусветным брэндам, то кожная дробязь мае значэнне: малако не праходзіць тэрмаапрацоўку, строга падзяляюцца вячэрні і ранішні надоі. За ўсім сочаць інспектары.

Сыраварня сіньёра Матэа, куды мы завіталі сям'ёй, знаходзіцца каля муніцыпалітэта Бацана. Месца зусім не падобнае да прамысловай зоны, тут хутчэй пастараль, дзе сярод палёў з узнятымі дагары галовамі сланечнікаў важна стаіць гаспадарчы дом і некалькі вытворчых будынкаў.

З Матэа працуюць пяць чалавек. На цяжкіх працах італьянцы паступова саступаюць месца мігрантам. Толькі галоўным усё ж застаецца італьянец Матэа з дынастыі сыравараў. Сіньёр сустракае нас усмешкай, моцна паціскае рукі і паскараецца, бо вытворчасць чакаць не будзе. Мы праходзім у цэх і ледзь не адразу выходзім, бо ад паху сычужыны, што там пануе, дзяцей цягне ванітаваць. Матэа запэўнівае нас, што гэтым заканчваюцца амаль усе дзіцячыя экскурсіі, таму дзецям лепш пачакаць на свежым паветры. Дух сапраўды моцны, але дарослыя пераносяць яго без праблем, таму далей экскурсія ідзе ў фармацэ 18+.

Працэс вытворчасці пачынаюць увечары. Малако з вячэрняй дойкі змяшчаецца ў сталёвыя ванны і пакідаецца нанач. Раніцой Матэа з калегамі збіраюць вяршкі, а знятае малако пераліваюць у вялікія медныя чаны, куды дадаецца сыроватка, што засталася з учарашняй вытворчасці сыру, а таксама свежае ранішняе малако.

Далей сумесь награваюць да 36°C і кладуць цялячую сычужыну. Прыкладна праз 10 хвілін пачынаецца згортванне

## Цікавыя факты

- У банках Італіі ёсць ячэйкі для захоўвання сыроў парміджана-рэджана.
- Банкі выдаюць крэдыты пад заклад сыру парміджана-рэджана. У такім выпадку банк адсочвае, як сыр выспявае.
- Пры плаўленні парміджана-рэджана не цягнецца ніткамі, як іншыя сыры.
- 30 грам парміджана-рэджана забяспечваюць пятую частку сутачнай нормы бялку для чалавека.
- Сыр парміджана-рэджана не мае лактозы: на пачатковых этапах вырабу яе цалкам расшчапляюць карысныя бактэрыі.

малака, Матэа ўласнымі рукамі правярае сырную масу. Важна не ператрымаць і адсачыць дакладны момант для пачатку яе разбівання. Я звяртаю ўвагу, што пальцы ў Матэа незвычайна вялікія. Ён бянтэжыцца і тлумачыць, што гэта прыкмета сапраўднага сыравара — ведаць кожны сыр на ўласны дотык.

**Рацыён кароў, з малака якіх вырабляецца парміджана-рэджана, складаецца выключна са свежай травы, што абмяжоўвае тэрмін вытворчасці сыру — з красавіка па лістапад**

Разбіваецца сырная маса адмысловай прыладай, што нагадвае вялікі кулінарны венчык (раней выкарыстоўвалі калючыя галінкі глогу). Матэа абязводжвае тварожныя камячкі, павялічвае тэмпературу з 35°С да 55°С і варыць, пакуль не застаецца мінімум вільгаці, неабходнай, каб крупінкі зліпаліся. Варку спыняюць, з атрыманай масы спрытна выціскаюць сыроватку і фармуюць вялікі камяк. Сыроватка потым спатрэбіцца для рыкоты і новых сыроў, а камяк разразаюць напалову, каб сфармаваць дзве галоўкі сыру.

Надышоў час персаналізацыі. Сырная маса змяшчаецца ў формы, дзе на тонкай казеінавай пласціне матрыца-штамп адціскае інфармацыю пра паходжанне: «Парміджана-Рэджана», месяц, год вырабу, код сыраварні-вытворцы, надпіс *DOP* (гарантаванае і кантраляванае месца паходжання). Пакуль гэта толькі адбітак, але з цягам часу натуральны грыбок праступіць на кожным сімвале, надпіс стане чорным і чытэльным — як калісь у манахаў.

Непасрэдны этап вытворчасці на гэтым скончаны. Мы пераходзім у прахалоднае памяшканне, дзе сыры пагружаюцца на 20 дзён у басейны з насычаным растворам солі. Сыр яшчэ малады, галоўкі боўтаюцца ў растворы нібы дзіцячыя цацкі ў ванне — парміджана-рэджана насычаецца соллю, і так з яго выдаляецца лішняя вільгаць. ▶

### Карысць добрага сыру

– спрыяе фарміраванню чырвоных крывяных цельцаў;
– супакойвае нервы;
– наяўнасць вітаміну D спрыяе добраму засвойванню кальцыю;
– дзякуючы кальцыю, прадухіляе астэапароз і паляпшае выгляд скуры і зубоў;
– утрымлівае дзевяць незаменных амінакіслот, неабходных для будовы бялкоў у арганізме;
– з'яўляецца крыніцай многіх мінеральных элементаў і вітамінаў.



ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА

**Прылада для разбівання сырнай масы** падобная да хатняга венчыка.



**А зараз — ляжаць!** Год, а можа, і два.

ФОТА АНДРЭЯ ДЗМІТРАНКА




**Гук сыру мае быць аднолькавым паўсюль.** У добрым пармезане не павінна быць трэшчын і пустот.

▶ **Як гучыць смак**

Пасля гэтага парміджана-рэджана амаль гатовы, засталося даць яму выспець. Сыры пераносяць у склеп з кантраляванай тэмпературай ды вільготнасцю і пакідаюць. Мінімальны тэрмін выспявання — год. Але не кожны сыр стане парміджана-рэджана. Ёсць строгі стандарт: дыяметр 35–45 см, вышыня 18–25 см, вага 24–44 кг, таўшчыня скарынкі — 6 мм.

Але сапраўдны ён мусіць яшчэ і гучаць. Матэа малаточкам абстуквае ўсю паверхню і прыслухоўваецца, ці паўсюль аднолькавы гук. Акурат так інспектары кансорцыума прымаюць кожны сыр на дэфекты і праз гучанне знаходзяць нябачныя дзіркі, надломы ці іншае, што ў выніку вядзе да адхіленняў па смаку.

## Матэа малаточкам абстуквае ўсю паверхню галоўкі, ці паўсюль аднолькавы гук

Пасля экспертызы сыр дзеляць на катэгорыі:

1. парміджана-рэджана *DOP* — сыр без дэфектаў (выспявае 12—30 месяцаў), будзе маркіраваны авальным таўром;

2. парміджана-рэджана *DOP Mezzano* (сярэдні) — сыр

### Гатункі парміджана-рэджана паводле тэрміну вытрымкі

**12 месяцаў** — выдатна спалучаецца з садавіной, гароднінай і сухім белым віном. Смак салодкі і кіслы адначасова, водар не вельмі інтэнсіўны, суправаджаецца адценнямі раслін і фруктовых кветак.

**24 месяцы** — больш рассыпісты і крупчасты, можа спажывацца як самастойна, так і для гатавання. Мае адценні садавіны, цытрусавых і арэхаў. Выдатна стасуецца з чырвонымі вінамі і з традыцыйным бальзамічным воцатам.

**30 месяцаў** — ідэальны для гатавання. Структура сушэйшая і рассыпістая. Смак насычаны, часам востры. Мае адценні мускату, перцу і сухафруктаў.

з нязначнымі дэфектамі (выспявае 12–18 месяцаў), апроч авальнага таўра на яго нанясуць шэраг паралельных баразёнак.

Сыр, які не прайшоў атэстацыю, будзе лічыцца непрыдатным і не зможа звацца парміджана-рэджана. Ён нібы афіцэр, з якога сарвалі пагоны, бо з такога сыру выдаляць маркіроўку і ўсю інфармацыю пра паходжанне.

Матэа вучыць, як сыр трэба слухаць. Кажа, што некаторыя галоўкі яшчэ можна вылечыць, «перапаяўшы», і яны загучаць. Мне ж проста падабаецца глыбокі гук сыру і тое, што тут, у склепе, не адчуваецца ранейшага сычужнага паху, а толькі канцэнтраваны водар, які прыемна казыча ў носе.

### *Buon appetito*

Мы глядзелі, мы нюхалі, мы нават слухалі сыр, а вось каштаваць пакуль не каштавалі. На дэгустацыю мы праходзім у краму, дзе нас частуюць сырам рознага тэрміну вытрымкі: 12, 24 і 30 месяцаў. Гэта адзін і той жа сыр, але ён мае свае ўласцівасці спажывання.

У краме сыраварні купляць сыр выгадна, цэны прымальныя нават у параўнанні з беларускімі: з вытрымкай 12 месяцаў — 12 еўра, 24 месяцы — 16 еўра, 30 месяцаў — 18 еўра.

Сыр разразаюць не нажом, а нацягнутым дротам, запайваюць у вакуумную ўпакоўку. Так парміджана-рэджана можа захоўвацца цэлы год, калі ў вас, вядома, хопіць вытрымкі. ◆

**УВАГА!**
Злоўжыванне сырам парміджана-рэджана можа выклікаць мігрэні. Норма яго спажывання на дзень складае не больш за 70 грам.

## Рызота з грыбамі


SHUTTERSTOCK.COM, BY BARMALINI

- 300 г рысу *arborio* (круглы клейкі рыс)
- 300 г шампіньёнаў
- 4–6 шклянак булёну
- 0,5 шклянкі сухога белага віна
- 1 зубок часнаку
- 1 цыбуліна
- 1 ст. л. аліўкавага алею
- 2 ст. л. масла
- 4 ст. л. цёртага парміджана-рэджана
- соль, чорны перац, пятрушка

Спачатку зварыце курыны булён з цыбуляй і морквай. Чым смачнейшы будзе булён, тым лепшым атрымаецца ваша рызота. Прыгатаваны булён трымайце на маленькім агні, каб ён заставаўся цёплым.

Вазьміце вялікі рондаль і ў аліўкавым алеі абсмажце да залацістага колеру дробна накрышаную цыбулю. Затым пакладзіце туды нарэзаныя лустачкамі грыбы і дзве лыжкі масла, каб атрымаць сметанковы смак. Смажце некалькі хвілін, пакуль не выпарыцца вільгаць, і пасыпце накрышаным часнаком, пятрушкай, дадайце солі і перцу.

Наступным крокам дадайце рыс, трошкі падсмажце яго, уліце віно. Ідэя рызота — насыціць рыс смакам. Віно апроч смаку дае яшчэ і неабходную кіслотнасць. Як віно выпарылася, невялікімі порцыямі (палову апалоніка) пачынайце дадаваць булён і перамешваць. Трэба, каб рыс увабраў у сябе ўвесь булён. Паўтарайце гэта на працягу 15–20 хвілін: булён выпарыўся — падлілі, перамяшалі.

У выніку ў рысе мусіць застаецца крыху цвёрдасці, а тэкстура стравы мусіць быць крэмавай — рысавае аль-дэнтэ. З апошнім падлітым апалонікам дадайце парміджана-рэджана і перамяшайце. Усё. Здыміце рондаль з агню, накрыйце вечкам, дайце пастаяць некалькі хвілін і частуйце сваіх.


SHUTTERSTOCK.COM, BY NIKOLAEVA GALINA

# «Партыя рэфарматараў зайшла так далёка, што ўжо не магла спыніцца»

## «План Герцберга» мусіў выратаваць Рэч Паспалітую, але насамрэч яе загубіў

**Лічыцца, што падзелы Рэчы Паспалітай звязаныя ў першую чаргу з амбіцыямі расійскай імператрыцы Кацярыны II. Але калі паспрабаваць скласці топ самых важных асобаў, якія спрычыніліся да другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай у 1793 і 1795 гадах, то адно з першых месцаў зойме мала каму сёння ў нас вядомы прускі дзяржаўны дзеяч граф Эвальд Фрыдрых фон Герцберг. Піша Цімох Акудовіч.**

### Найбольшая перамога караля

У 1787 годзе Кацярына II планавала напад на Турцыю. Вайна абяцала быць цяжкай, а таму расійская імператрыца прыняла прапанову караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага заключыць ваенны саюз паміж ягонай краінай і Расіяй. Кацярыну не так цікавіла аслабленае войска суседняй дзяржавы, як яе памежныя з Турцыяй крэпасці, з якіх зручна было разгортваць наступленне.

А вось для Панятоўскага дамова стала вялікай замежнапалітычнай перамогай, ці не найбольшай за ўсю ягоную кар’еру. Па-першае, яна ставіла Рэч Паспалітую на ўзровень саюзніка, а не падапечнага Расіі. А па-другое — давала магчымасць павялічыць свае войска і, што істотна, адразу ж загартаваць яго ў справе. На той момант войска Рэчы Паспалітай ужо некалькі дзесяцігоддзяў не ўдзельнічала ні ў адной рэгулярнай ваеннай кампаніі, і ў дадзеным выпадку гэта было вынікам не сілы, а слабасці дзяржавы.

Якраз для павелічэння войска Кацярына II пагадзілася на адзін тэхнічны момант, які ў выніку і прывёў да вялікіх праблем. Справа ў тым, што пытанне такога ўзроўню мусіў узгадніць сойм. Але ў Рэчы Паспалітай дзейнічала знакамітае права *liberum veto*, паводле якога рашэнні маглі прымацца толькі аднагалосна. А паколькі гэта магло перашкодзіць задумам, то было прынята рашэнне аб правядзенні не звычайнага, а сканфедэраванага сойма. Сэнс яго быў у тым, што ўсе паслы аб’ядноўваліся ў дзве канфедэрацыі — польскую і літоўскую. Паколькі ў канфедэрацыях шляхты рашэнне прымалася простай большасцю галасоў, то гэты прынцып пераходзіў і на ўсе рашэнні сойма. Такім чынам і абыходзілі *liberum veto*.

### Канфедэрацыя

Так называўся часовы ўзброены палітычны саюз прадстаўнікоў аднаго ці некалькіх саслоўяў, створаны для дасягнення пэўнай мэты. У часы Рэчы Паспалітай яны ствараліся шляхтай тады, калі ў краіне ўзнікала палітычная нестабільнасць. Фактычна гэта было ці легальнае выступленне часткі падданых супраць дзяржаўнай улады, ці, наадварот, рух у яе падтрымку. Кіраўнічыя органы канфедэрацыі дзейнічалі паралельна з дзяржаўнымі або іх замянялі, ствараліся і адмысловыя канфедэрацкія суды. Звычайна канфедэрацыя ствaралася ў пэўным ваяводстве, а калі да яе далучалася шляхта і іншых ваяводстваў, а дзейнасць распаўсюджвалася на ўсю дзяржаву, то такая канфедэрацыя звалася генеральнай і магла выконваць функцыі найвышэйшага органа дзяржаўнай улады.
На канфедэрацкіх сойміках не дзейнічала права *liberum veto*, замест гэтага прымяняўся прынцып прыняцця рашэнняў большасцю галасоў. Гэты ж прынцып распаўсюджваўся і на сойм, які збіраўся пад эгідай канфедэрацыі. Магчымасць стварэння шляхецкіх канфедэрацый была праявай слабасці дзяржаўнай улады ў Рэчы Паспалітай. У XVIII стагоддзі прымаліся захады, скіраваныя на іх забарону, але яны былі беспаспяховымі.




**Падзелы Рэчы Паспалітай.** 1772–1795 гады.

ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ. Т. 2. МІНСК, 2013. АЎТАР — ВІКТАР ЦЕМУШАЎ

Папярэдні сканфедэраваны сойм адбыўся ў 1773–1775 гадах, і на ім было зацверджана рашэнне аб першым падзеле Рэчы Паспалітай. З таго часу пазіцыі Расіі ў краіне толькі ўзмацніліся: у 1775-м была створана Пастаянная Рада — найвышэйшы адміністрацыйны орган дзяржаўнага кіравання. Хоць прадстаўнікі ў Раду выбіраліся соймам, уплыў расійскай палітыкі быў там настолькі моцны, што ў яе заўсёды траплялі патрэбныя Расіі людзі. А таму ўсе палітычныя падзеі ў Рэчы Паспалітай у 1770-х і 1780-х гадах праходзілі пад поўным кантролем Пецярбурга.

### Грамадства ўжо іншае

Пагаджаючыся на сканфедэраваны сойм, Кацярына II і Станіслаў Аўгуст разлічвалі, што ўсё зноў пройдзе спакойна і ў адпаведнасці з іх жаданнямі. Але ні расійская імператрыца, ні кароль Рэчы Паспалітай не заўважылі глабальных зменаў у настроях грамадства. Да таго часу ў Рэчы Паспалітай падрасло цэлае пакаленне, выхаванае на ідэях французскага асветніцтва і гуманізму, якое ўжо зусім па-іншаму глядзела на свае правы і абавязкі перад дзяржавай. Маладыя шляхцічы прагнулі карэнных рэформаў у сваёй краіне.

Павятовыя соймікі прайшлі зусім не па плане Станіслава Аўгуста, усюды брала верх апазіцыя. У выніку з абраных на сойм 1788 года 46 паслоў (дэпутатаў) ВКЛ толькі 6 былі прыхільнікамі караля. Тая ж сітуацыя была і з польскімі пасламі.

**Перад канцом Рэчы Паспалітай падрасло пакаленне, якое па-новаму глядзела на свае правы і абавязкі перад дзяржавай**

Таму, калі 6 кастрычніка 1788 года адкрылася першае пасяджэнне сойма, у зале Каралеўскага палаца сядзелі паслы, гатовыя не толькі на павелічэнне войска, але і да значна глыбейшых рэформаў.

Аднак быць гатовым — не значыць мець магчымасць іх рабіць. Расійскі фактар — і ў выглядзе праплачаных паслоў, і ў выглядзе войскаў на мяжы — нікуды не знік. Зламаць сістэму палітычнага кантролю, якую Кацярына II выбудоўвала ў Рэчы Паспалітай некалькі дзясяцігоддзяў, падавалася амаль немагчымым. ▶

### У гульню ўступае Прусія

Але сталася нечаканае. У гульню на гэтым полі актыўна ўключыўся іншы сусед Рэчы Паспалітай — Прусія.

Прускім каралём у той час быў Фрыдрых Вільгельм II, пляменнік легендарнага Фрыдрыха II Вялікага. Замежнай палітыкай пры ім, як і пры ягоным дзядзьку, займаўся прадстаўнік старадаўняга памеранскага роду Эвальд Фрыдрых фон Герцберг. Герцберг верай і праўдай служыў Прусіі яшчэ з 1750-х гадоў: ягоны подпіс стаіць пад актам аб заканчэнні Сямігадовай вайны 1756—1763 гадоў. Вялікая роля гэтага палітыка была і ў правядзенні першага падзелу Рэчы Паспалітай.

У прускага дыпламата былі дзве палітычныя ідэі, якія ён бачыў найважнейшымі ў сваёй кар'еры. Па-першае, Герцберг лічыў галоўным ворагам Прусіі Аўстрыю і планамерна выступаў за любыя антыаўстрыйскія саюзы. Па-другое, ён марыў забраць у Рэчы Паспалітай Гданьск і Торунь.

### Геапалітычная шматхадоўка

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай вялікія тэрыторыі на ўзбярэжжы Балтыйскага мора адышлі да Прусіі, але Гданьск заставаўся ў складзе Рэчы Паспалітай, хоць і быў адрэзаны ад яе вялікай тэрыторыяй ужо нямецкай зямлі. Герцберг, як і Фрыдрых Вялікі, лічыў адсутнасць Гданьска, а разам з ім і Торуня ў складзе Прусіі найвялікшай ганьбай айчыннай дыпламатыі ў XVIII стагоддзі. Пры гэтым прускі дыпламат сам ускладняў задачу іх вяртання, выступаючы супраць вайны з Рэччу Паспалітай і ставячы мэтай захоўваць добрыя адносіны з усходняй суседкай.


WIKIMEDIA COMMONS

**Прускі кароль Фрыдрых Вільгельм II**, калега Кацярыны II па раздзеле Рэчы Паспалітай. Партрэт 1792 года.

Дзесьці ў канцы 1780-х у Герцберга выпрацаваўся хітры шматхадовы план, як рэалізаваць сваю задуму. У адпаведнасці з ім, Прусія прапаноўвала Асманскай імперыі дапамогу ў забеспячэнні міру з Расіяй. Турцыя за гэта мусіла аддаць Аўстрыі Малдову і частку Босніі. Аўстрыя, у сваю чаргу, у падзяку за новыя землі


WIKIMEDIA COMMONS

**Эвальд Фрыдрых фон Герцберг.** Выява 1798 года.

пагаджалася аддаць Рэчы Паспалітай Галіцыю. Урэшце Рэч Паспалітая за Галіцыю, па плане Герцберга, добраахвотна перадавала Прусіі свае гарады Торунь і Гданьск.

Гэтую складаную дыпламатычную канструкцыю, якую пазней назавуць «планам Герцберга», якраз і ламаў саюз Расіі і Рэчы Паспалітай, заключаны ў 1787 годзе. Берлін быў у роспачы, а таму наважыўся пайсці на прамую канфрантацыю з Пецярбургам.

### Прусія замест Расіі

13 кастрычніка 1788 года на пасяджэнні нядаўна скліканага сойма прускі прадстаўнік Людвіг Генрых Бухгольц зачытаў з трыбуны ноту, у якой абвінавачваў Кацярыну II і Станіслава Аўгуста ў заключэнні таемнай дамовы, якая несла пагрозу міру ва ўсёй Еўропе. Кароль сапраўды незадоўга да таго ездзіў ва ўкраінскія гарады Кіеў і Канеў на сустрэчу з расійскай імператрыцай без справаздачы перад шляхтай, што спарадзіла тады шмат чутак пра здраду Панятоўскага. У канцы ноты кароль Фрыдрых Вільгельм вуснамі свайго пасла прапанаваў Рэчы Паспалітай альянс і гарантаваў ёй цэласнасць межаў у выпадку канфлікту з любымі суседзямі.

Прамова Бухгольца адкрыла для паслоў сойма зусім іншыя гарызонты дзейнасці. Апазіцыя ехала ў Варшаву з марай аб рэформах, але з разуменнем, што кожную ідэю давядзецца прабіваць праз інтрыгі расійскіх дыпламатаў і з аглядкай на расійскія войскі на мяжы. І тут раптам у адно імгненне гэтыя бар'еры зніклі. Падтрымка прускага караля азначала, што можна не так баяцца Кацярыну II.

Атрымаўшы нечаканы карт-бланш, паслы сойма, які ўвайшоў у гісторыю як Вялікі, ці Чатырохгадовы, адразу ж пачалі рэалізоўваць сур'ёзныя рэформы: вельмі хутка была прынята пастанова аб павелічэнні войска да 100 тысяч жаўнераў, ліквідаваліся Пастаянная Рада і Вайсковы дэпартамент (асноўныя цэнтры прарасійскай палітыкі), створаныя новыя органы мясцовай адміністрацыі — цывільна-парадкавыя камісіі. Пачалі распрацоўвацца законы ад гарадах, аб яўрэях, запланаваны перапіс насельніцтва і шмат што яшчэ.

## Падтрымка прускага караля азначала, што можна не баяцца Кацярыну II

Рухалі ўсе гэтыя ініцыятывы прадстаўнікі «патрыятычнай партыі» пад кіраўніцтвам Ігнацыя Патоцкага і Гуга Калантая. Вялікую ролю ў партыі адыгрывалі паслы ад ВКЛ: брэсцкі — Тадэвуш Матусевіч і інфлянцкі — Юльян Нямцэвіч. Гэтую партыю часта называлі таксама прапрускай, бо яна абапіралася на абяцанне караля Фрыдрыха Вільгельма. Юльян Нямцэвіч нават напісаў байку «Сава, жаба і каршак», у якой ухваляў дзеянні Прусіі па абароне Рэчы Паспалітай ад Расіі.

### Цана пытання

Аднак на хвалі эмоцый шляхта не вельмі задумвалася, што ў палітыцы за любыя саюзы трэба плаціць. Калі пачаліся перамовы аб канкрэтным тэксце дамовы, то высветлілася, што Прусія патрабуе за свае паслугі Гданьск і Торунь.

Зразумела, што соймавым паслам гэта не спадабалася. Пасольскія дэпутацыі абедзвюх дзяржаў праводзілі бясконцыя перамовы, каб выйсці хоць на нейкі прымальны для ўсіх бакоў варыянт, але берлінскі двор быў у сваім жаданні атрымання двух гарадоў непахісны.

Праўда, Прусія і сама імкнулася быць максімальна шчодрай. У дадатак да Галіцыі, што мусіла перайсці да Рэчы Паспалітай паводле плана Герцберга, Фрыдрых Вільгельм прапаноўваў зменшыць для яе мыта правозу тавараў з мора па Вісле ў два разы. Аб'ектыўна такое паслабленне магло стаць сур'ёзным фінансавым уліваннем у слабую эканоміку дзяржавы абодвух народаў.

Была ў прускіх планаў і міжнародная падтрымка. Вядомы кампазітар, а адначасова палітычны дзеяч Міхал Клеафас Агінскі, які ў 1790 годзе быў у Англіі ў якасці афіцыйнага прадстаўніка Рэчы Паспалітай, узгадваў у сваіх мемуарах, што англійскі прэм'ер-міністр Уільям Піт настойліва раіў маладому Агінскаму прыняць прапанову Прусіі, бо яна, маўляў, сур'ёзна палепшыла б і палітычнае, і эканамічнае становішча Рэчы Паспалітай.

Тым не менш шляхецкая рэспубліка ніяк не жадала адмаўляцца ад сваіх тэрыторый. У выніку шматлікіх перамоў замежнай дэпутацыі ўсё ж атрымалася раздзяліць дамову на «палітычную», у якой гарантавалася ўзаемадапамога ў выпадку вайны з любым суседам, і «эканамічную», дзе прапісваліся ўмовы перадачы двух гарадоў і змяншэння мыта.

29 сакавіка 1790 года, у сітуацыі ўсеагульнай незадаволенасці, была падпісаная першая, «палітычная» частка дамовы, а другая адкладзена на далейшы разгляд. Такі варыянт, вядома, не задавальняў Прусію. Затое падпісанне палітычнай дамовы можна назваць поспехам варшаўскай дыпламатыі, бо ўпершыню за некалькі дзесяцігоддзяў замежнапалітычны вектар Рэчы ▶



SHUTTERSTOCK.COM, BY KAVALENKAU

У Прусіі былі свае апетыты: Гданьск і Торунь.




**У Пінску ў 1791 годзе сабралася праваслаўная кангрэгацыя**, якая, па сутнасці, утварыла аўтакефальную царкву на тэрыторыі Рэчы Паспалітай.

▸ Паспалітай павярнуўся ў іншы бок. Гэта прызнала і Расія, бо яе пасол Густаў Штакельберг быў адазваны з Варшавы разззлаванай Кацярынай II.

Але радавацца доўга не давялося. Дамова з Прусіяй аказалася нетрывалай.

## Рэйхенбах, які ўсё змяніў

Той жа самы Уільям Піт, які раіў Агінскаму аддаць Гданьск і Торунь, у пэўны момант зразумеў, што ад рэалізацыі плана Герцберга Прусія ўзмацніцца аж занадта. Таму ён выставіў ультыматум Фрыдрыху Вільгельму, што калі Прусія наважыцца напасці на Аўстрыю, то Англія, а разам з ёй і Нідэрланды разарвуць ваенны саюз з прусакамі, якім на той момант яны былі аб'яднаныя. А без Англіі і Нідэрландаў Прусія апынулася б у міжнароднай ізаляцыі.

На такую ахвяру Берлін пайсці не мог. Прыніжаны Фрыдрых Вільгельм вымушаны быў паддацца ціску. 27 ліпеня 1790 года ў невялікім гарадку Рэйхенбах (цяпер польскі горад Дзяржонеў) была падпісана Рэйхенбахская канвенцыя, паводле якой Аўстрыя абавязвалася выйсці з вайны з Турцыяй і не падтрымліваць Расію, а Прусія ўзялася дапамагчы Аўстрыі задушыць паўстанне ў Аўстрыйскіх Нідэрландах (прыблізна цяперашнія Бельгія і Люксембург), якое ўспыхнула пад уплывам Французскай рэвалюцыі.

Падпісанне гэтай дамовы моцна раззлавала паслоў Вялікага сойма ў Варшаве. Бо, нагадаем, адной з мэтаў саюзу з Прусіяй для «патрыётаў» была сумесная вайна супраць Аўстрыі і адабранне ў яе, на карысць Рэчы Паспалітай, Галіцыі. Таму інфармацыя пра тое, што здарылася ў Рэйхенбаху, цалкам падарвала давер да прускай палітыкі. 6 верасня 1790 года ў сойме быў ухвалены дакумент аб непадзельнасці тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Па сутнасці, гэта было абвяшчэнне Прусіі аб заканчэнні супрацоўніцтва з ёй.

## Разагнаны цягнік не спыніць

Расчараванне ў палітыцы Фрыдрыха Вільгельма, можа, і не было б вялікай праблемай, калі б не абставіны, у якіх праходзіў Вялікі сойм. Усе тыя рэформы, якія да таго часу запланавалі прадстаўнікі патрыятычнай партыі з улікам падтрымкі Прусіі, ужо проста немагчыма было спыніць.

3 мая 1791 года была прынята Канстытуцыя Рэчы Паспалітай, якая абвяшчала спадчынную манархію, адмяняла *liberum veto* і дэкларавала шэраг іншых рэформаў, якія відавочна ўмацоўвалі Рэч Паспалітую як самастойную дзяржаву. Расіі такое спадабацца не магло.

У ліпені 1791 года ў Пінску сабралася праваслаўная кангрэгацыя, якая ўтварыла «Нацыянальны сінод праваслаўных цэркваў Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага». У параўнанні з прыняццем Канстытуцыі 3 мая, якая стварала толькі далекасяжныя праблемы для кацярынінскай дыпламатыі, Пінская кангрэгацыя біла па асновах расійскай палітыкі ў рэгіёне, бо забірала ў яе «базу» — праваслаўнае насельніцтва.

Усе гэтыя радыкальныя дзеянні праводзіліся абсалютна без агляду на замежнапалітычную сітуацыю ў Еўропе — так, нібыта за спінай у паслоў усё яшчэ стаіць магутная Прусія. А ў рэальнасці Рэч Паспалітая ў пачатку 1791 года знаходзілася ў поўнай дыпламатычнай адзіноце. Рэфарматарская партыя выйшла на пік сваіх магчымасцяў, зблізіўшыся з каралём, і ўжо не магла спыніцца.

Агулам дзейнасць Вялікага сойма ў 1791 годзе разам з разгортваннем рэвалюцыйных падзей у Францыі і заканчэннем вайны ў Турцыі ўжо ў канцы года зрабіла непазбежнасцю ўвядзенне на тэрыторыю Рэчы Паспалітай расійскіх войскаў.

### Два планы Пецярбурга

У пачатку 1792 года ў Пецярбургу існавала два планы адносна Рэчы Паспалітай. Першы прадугледжваў з дапамогай магнацкай рэакцыі адкруціць усё назад: адмяніць канстытуцыю і іншыя радыкальныя пастановы сойма і зноўку зрабіць суседнюю дзяржаву «ручной». У адпаведнасці з другім варыянтам, у Рэчы Паспалітай зноў мусілі забраць тэрыторыі, каб у новых межах яна больш не змагла ствараць такіх праблем, якіх нарабіла для суседніх манархаў у 1791 годзе.

Базавым быў першы план. Незадаволеныя польскія магнаты, у якіх забралі іх вольніцу, самі звярнуліся да Кацярыны II з просьбай падтрымаць іх у вяртанні «справядлівасці» і ліквідацыі пастаноў «злачыннай канстытуцыі». 14 мая 1792 года ва ўкраінскім мястэчку Тарговіца на Падоллі (цяпер Кіравагradская вобласць) была ўтворана канфедэрацыя, на чале якой сталі магнаты Шчасны Патоцкі, Севярын Жавускі і Францішак Браніцкі. Для падтрымкі гэтай канфедэрацыі на тэрыторыю Рэчы Паспалітай увайшло статысячнае расійскае войска.

Большасць гісторыкаў пагаджаецца, што яшчэ ў сярэдзіне 1792 года, калі ўся тэрыторыя Рэчы Паспалітай была пад кантролем Пецярбурга, Кацярына II разлічвала на рэалізацыю першага плана. Канстытуцыя была адмененая, кароль далучыўся да канфедэрацыі, верагоднасць вяртання статус-кво мінулых дзесяцігоддзяў выглядала рэальнай.

Але тут зноўку выйшаў на паверхню план Герцберга. Разгортванне Французскай рэвалюцыі моцна зблізіла яшчэ зусім нядаўніх супернікаў — Прусію, Аўстрыю і Расію. У 1791 годзе актывізаваліся кулуарныя дыпламатычныя перамовы паміж гэтымі дзяржавамі, на якіх абмяркоўваліся праблемы двух рэвалюцыйных рэгіёнаў — Францыі і Рэчы Паспалітай.

У лістах Кацярыны II таго перыяду прасочваецца яе моцная незадаволенасць прускімі дыпламатамі, якія пры любых абмеркаваннях «польскага пытання» заўсёды настойліва выстаўлялі толькі адно патрабаванне — аддаць ім Гданьск і Торунь. Дапусціць тое, каб Прусія проста так атрымала новыя землі, Кацярына II не магла. Па-першае, гэта азначала б паражэнне Расіі і ўзмацненне Прусіі, а па-другое, у расійскай імператрыцы быў зуб на прусакоў за першы падзел, калі Аўстрыя па іх віне атрымала значна большыя тэрыторыі, чым разлічваў Пецярбург.

А вырашыць праблему Рэчы Паспалітай без Прусіі было ніяк нельга. У такой дыпламатычнай патавай сітуацыі, маючы фонам французскія падзеі, Пецярбург усё актыўней схіляўся да рэалізацыі другога варыянта. І вось 23 студзеня 1793 года, праз дзень пасля адсячэння галавы французскага караля Людовіка XVI, Прусія і Расія падпісалі дамову аб другім падзеле Рэчы Паспалітай.

Стары граф Эвальд Герцберг назіраў за гэтымі падзеямі ўжо збоку. Пасля ганебнага для Прусіі Рэйхенбахскага саюзу граф быў адпраўлены ў адстаўку. Іронія заключаецца ў тым, што, настойваючы на перадачы Гданьска і Торуня Прусіі, Герцберг заўсёды публічна выступаў за захаванне дзяржавы Рэчы Паспалітай і агулам прыязна ставіўся да ўсходняй суседкі, таксама як і ягоны патрон Фрыдрых Вільгельм II.

Найбольш жа катастрафічных вынікаў рэалізацыі свайго плана Герцберг не пабачыў: ён памёр 27 мая 1795 года, за паўгода да поўнай ліквідацыі Рэчы Паспалітай. ◆

З-пад балдахіна на караля глядзіць **Альжбета Грабоўская**, каханка Станіслава Аўгуста і маці яго дзяцей.

Яшчэ два расійскія кліенты. Брацлаўскі пасол **Антоні Станіслаў Чацвярцінскі-Чартарыйскі** пазней стане ўдзельнікам Таргавіцкай канфедэрацыі, а ў часе паўстання Касцюшкі яго павесяць без суда ў Варшаве.
Побач — **Антоні Златніцкі**, які з нянавісцю глядзіць на караля. У часе вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй у 1792 ён без бою здасць непрыяцелю новую фартэцыю Камянец-Падольскі. Падчас паўстання Касцюшкі Златніцкага прысудзілі да смяротнай кары, аднак, паколькі затрымаць яго не было магчымасці, павесілі на шыбеніцы яго партрэт.

Штан… над ц… **Тадэ**… ці то… з пры… акры… павяз… ў біт…

Наперадзе працэсіі ідзе **Станіслаў Аўгуст Панятоўскі** ў каранацыйнай мантыі, расставіўшы рукі для пацалункаў. Няма сведчанняў, што ён карыстаўся мантыяй пасля каранацыі. Відаць, пышны ўбор сімвалізуе ўзмацненне: згодна з Канстытуцыяй, кароль рабіўся кіраўніком выканаўчай улады.



**Канстытуцыя 3 мая** змяняла форму кіравання Рэчы Паспалітай з абмежаванай манархіі на канстытуцыйную манархію. Яна была першым у Еўропе і другім у свеце (пасля Канстытуцыі ЗША) асноўным законам, які ўводзіў падзел на тры галіны ўлады.

Канстытуцыя 3 мая стала легендарнай для сучаснікаў і нашчадкаў гісторыі і традыцый Рэчы Паспалітай, бо разглядалася як апошняя надзея выратаваць Рэч Паспалітую ад гібелі і сімвал справядлівасці, незалежнасці і кульмінацыі Асветніцтва ў айчыне.

Для палякаў тая канстытуцыя — прадмет гонару. У кожным горадзе Польшчы знойдзеце вуліцы 3 Мая.

Беларусы і літоўцы да яе ставіліся стрымана, бо яна цэнтралізавала дзяржаву і ліквідавала рэшткі самастойнасці Вялікага Княства.

На вялізнай (2,5x4,5 метра) карціне Яна Матэйкі паказанае шэсце паслоў сойма з каралеўскага замка ў Варшаве, дзе яны засядалі, у архікатэдру Яна Хрысціцеля — каб там замацаваць клятвай толькі што прынятую канстытуцыю. На карціне ёсць кароль, але не ён займае цэнтральнае месца.

**Ян Кілінскі** — прафесійны варшаўскі шавец, пад кіраўніцтвам якога ў 1794-м узброены народ за два дні ачысціў Варшаву ад расійскага войска. Наўрад ці ён сапраўды прысутнічаў на зацвярджэнні Канстытуцыі, але Матэйка звычайна змяшчаў на карціне ўсіх значных для эпохі і паказанай сітуацыі гістарычных асоб.

З незадаволеным тварам — каронны гетман **Францішак Ксаверы Браніцкі**, які праз некалькі месяцаў узначаліць антыканстытуцыйную Таргавіцкую канфедэрацыю. Рашэнне аб яе стварэнні было прынятае ў Пецярбургу, падчас таемнай сустрэчы з удзелам царыцы Кацярыны II. Там стала вядома, што Расія дасць войскі для ўварвання ў Рэч Паспалітую.

...ндар Рэчы Паспалітай уздымае ...шэсцем чалавек, **падобны да ...вуша Касцюшкі**. На галаве ў яго ... турбан, змаляваны з аднаго ...ыжыццёвых партрэтаў, ці то ...ваўленая бел-чырвона-белая ...зка — намёк мастака на раненне ...зе пад Мацяёвіцамі.

У цэнтры кампазіцыі — **Станіслаў Малахоўскі**, маршалак Вялікага сойма, які з трыумфам трымае ў руках тэкст Канстытуцыі.

Сапегу трымае на плячах **Юльян Урсын Нямцэвіч**, будучы ад'ютант Касцюшкі і ўласнік маёнтка Скокі пад Брэстам, дзе ў 1918-м, па Першай сусветнай вайне, адбудзецца новы геапалітычны падзел Усходняй Еўропы.

Другі, каго нясуць на руках, — **Казімір Нестар Сапега**, кіраўнік дэлегацыі ВКЛ на сойме. Актыўны прыхільнік Канстытуцыі, ён возьме ўдзел у паўстанні Касцюшкі і памрэ ў Вене на эміграцыі.



**Юзаф Панятоўскі**, камандзір варшаўскага гарнізона і сваяк караля. Будучы ўдзельнік паўстання Касцюшкі і напалеонаўскага паходу. Пасля гібелі на полі бою стаў увасабленнем барацьбы за незалежнасць Рэчы Паспалітай.

**Селянін**. Яго трымае за руку Андрэй Геронім Замойскі, каронны канцлер, рэфарматар, які спрабаваў адмяняць паншчыну, замяніўшы яе грашовымі выплатамі.

Сухажэўскага стрымлівае ротмістр літоўскі **Станіслаў Кубліцкі**, пасол — прыхільнік рэформаў і абаронца правоў мяшчанства і сялян у Рэчы Паспалітай.

Упоперак дарогі ляжыць **Ян Сухажэўскі** — пасол-праціўнік Канстытуцыі. Ён, наследуючы жэст Тадэвуша Рэйтана з сойма 1773–1775 гадоў, кідаўся пад ногі паслам і крычаў, што зарэжа свайго шасцігадовага сына, «каб той не жыў у няволі». Малюючы карты, якія выпадаюць з кішэні Сухажэўскага, Матэйка намякаў, што прычынай паводзін Сухажэўскага была не столькі любоў да «залатой шляхецкай вольнасці», колькі прадажнасць. Напярэдадні Сухажэўскі пачаў выйграваць вялікія сумы грошай, а пасля ён эміграваў у Пецярбург, браў удзел у Таргавіцкай канфедэрацыі і быў уключаны расійскім паслом у спіс «надзейных» асоб.

**Адам Чартарыйскі**, прадстаўнік магутнага магнацкага клана і стрыечны брат Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Адмовіўся на яго карысць ад каралеўскай кароны, хоць і сам быў адным з кандыдатаў. Прыхільнік і рэалізатар рэформаў у Рэчы Паспалітай, кіраўнік Адукацыйнай камісіі і «Рыцарскай школы», у якой вучыўся Касцюшка. На карціне стаіць побач з Ігнацыем Патоцкім, маршалкам ВКЛ і адным з аўтараў Канстытуцыі.

**Малы сын Сухажэўскага**, што вырываецца з рук бацькі, — кансерватара і замежнага агента — цэнтральны вобраз карціны. Над хлопчыкам ахоўным жэстам уздымае руку Гуга Калантай, архітэктар запозненых рэформаў Рэчы Паспалітай і адзін з ідэолагаў паўстання 1794 года.

# Ведаў 20 моў, а даследаваў беларускую

**Пятро Бузук, паліглот з малдаўска-яўрэйска-украінска-сербскімі каранямі, стаў класікам беларускага мовазнаўства — усяго за 9 гадоў ад запрашэння працаваць у БДУ да арышту. Яго ўнучку распытваў пра дзеда Васіль Герасімчык.**

Яго працы паўплывалі на развіццё нашай літаратурнай мовы, а створаны ім дыялектычны атлас беларускіх гаворак стаў першым сярод славянскіх народаў і прынёс аўтару сусветную вядомасць. Нягледзячы на тое, што з-за трагічных абставін выйшла толькі адна частка гэтага атласа.

### Знішчаны ружовы чамадан

Некалькі фотаздымкаў і восем старонак тэксту, дасланых з Волагды, — вось і ўсё, што мае ад дзеда Кацярына Шашытайшвілі, унучка Пятра Бузука.

Усю рукапісную спадчыну дзеда пасля яго арышту родныя сабралі ў ружовую валізу і закапалі ў двары сваёй хаты, якая стаяла на месцы сённяшняга цырка. Чамадан згінуў падчас вайны.

Восем старонак тэксту, што ацалелі, — гэта аўтабіяграфія і спіс навуковых прац з 60 пунктаў, кожны з якіх варты ўвагі.

Кацярына Віктараўна, якая доўга працавала ў дзіцячай рэдакцыі Беларускага тэлебачання, прымае нас у кватэры з высокай столлю на вуліцы Змітрака Бядулі ў Мінску. На сцяне побач з фотаздымкамі вісіць карціна, створаная мужам Кацярыны Віктараўны Уладзімірам. На ёй — чырвоны дом на рагу Кірава і Валадарскага, дзе выраслі дзеці Пятра Бузука. Па-добраму, тут павінна з'явіцца шыльда ў яго гонар.

### Лінгвістычны геній

Бацькі, аддаючы сына ў рэальнае вучылішча ў Цiраспалі, чакалі, што ён дасягне поспехаў у тэхнічных навуках, за якімі быў прыярытэт у такога тыпу вучэбных установах. Але Пятро аказаўся моцным зусім у іншым. Лёгка, проста неверагодна лёгка яму даваліся мовы. «Паліглот расце», — напэўна, з гонарам маглі абмяркоўваць сына Апанас і Неаніла Бузукі, пакуль той без прымусу, быццам гуляючы, практыкаваўся ў лаціне і грэчаскай, французскай і нямецкай мовах.

У раннім узросце сюды таксама дадалася яшчэ старaславянская, якая пацягнула за сабой, для лепшага яе разумення, польскую, сербскую і чэшскую.



**Чырвоны дом на рагу Кірава і Валадарскага**, дзе выраслі дзеці Пятра Бузука. Карціна мужа Кацярына Шашытайшвілі Уладзіміра.

Пасля гэтага хлопец зацікавіўся славянскімі запазычаннямі ў іншых мовах і таму засвоіў балгарскую, італьянскую і англійскую. Калі ж Пятро Бузук заняўся навуковай дзейнасцю і пачаў распрацоўваць пытанні гісторыі праславянскай мовы і яе прарадзімы, то вывучыў яшчэ і літоўскую. Да таго ж з самага дзяцінства ён ведаў румынскую, рускую і ўкраінскую, а перад пераездам у Мінск вывучыў і беларускую, якой авалодаў настолькі дасканала, што нават пісаў на ёй вершы.

**Беларускай мовай паліглот-лінгвіст авалодаў настолькі дасканала, што нават пісаў на ёй вершы**

Працуючы ў Мінску, ён у адзін навучальны год чытаў лекцыі па-беларуску, па-руску і па-ўкраінску, а таксама вывучыў старажытную і сучасную яўрэйскія мовы (іўрыт і ідыш), каб мець магчымасць выкладаць курс агульнага мовазнаўства для яўрэйскай секцыі Мінскага педагагічнага інстытута на іх роднай мове. Падчас ссылкі, якую адбываў у Волагдзе, Пятро


ФОТА НАДЗЕІ БУЖАН

**Кацярына Шашытайшвілі, унучка Пятра Бузука**, беражэ памяць пра вялікага дзеда. На сценах у яе дома — фоты продкаў.

Бузук зацікавіўся мовай народа комі, а вынікам знаёмства з «палітычным» Міхаілам Чанішвілі стала вывучаная грузінская мова.

Але галоўную сваю навуковую працу ён прысвяціў менавіта нашай мове, беларускай.

## З крыві чатырох народаў

Пятро Бузук нарадзіўся ў 1891 годзе ў вёсцы Шарпены Бесарабскай губерні (цяпер Бендэрскі раён Малдовы) у сям'і народнага настаўніка Апанаса Бузука і яго жонкі Неанілы, у якіх усяго было сямёра дзяцей. Па бацьку, які паходзіў з сялян, але здолеў выбіцца ў людзі, у жылах Пятра цякла малдаўская і яўрэйская кроў, а па маці, якая паходзіла з дваранскага роду Росічаў, — яшчэ ўкраінская і сербская.

Пасля заканчэння рэальнага вучылішча юнак паўтара года займаўся самастойна, каб паступіць на гісторыка-філалагічны факультэт Новарасійскага ўніверсітэта ў Адэсе. Там на здольнасці маладога Пятра звярнуў увагу прафесар Барыс Ляпуноў, які чытаў некалькі курсаў славянскага мовазнаўства і быў прыхільнікам канцэпцыі праславянскай мовы як кантынууму дыялектаў. Ён шырока выкарыстоўваў прынцыпы лінгвістычнай геаграфіі, веданне якой перадаў і свайму вучню. Значна паўплываў на яго таксама прафесар Аляксандр Томсан, які займаўся параўнальным мовазнаўствам і стварыў кабінет эксперыментальнай фанетыкі, дзе займаліся найбольш здольныя студэнты.

Калі ў 1924 годзе ва Украіне ўвялі навуковыя ступені, Бузук хутка падрыхтаваў і абараніў дысертацыю, стаўшы адным з першых дактароў філалагічных навук у СССР. У тым жа годзе пабачыла свет яго кніга «Асноўныя пытанні мовазнаўства», якая трапіла на вочы рэктару Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзіміру Пічэту. І ўразіла ▸

настолькі, што той запрасіў маладога навукоўца ў Беларусь.

### Мінск

У лістападзе 1925 года Пятро Бузук уладкаваўся ў БДУ і педагагічны інстытут, у якіх вёў пяць асноўных дысцыплін. Пры гэтым ён працягваў працаваць і ў Адэсе. Каб канчаткова перацягнуць таленавітага навукоўца ў Беларусь, яму ў 1926 годзе прапанавалі месца навуковага супрацоўніка ў Інстытуце беларускай культуры. Аднак не менш важкім фактарам, каб пусціць карані на новым месцы, стала каханне.


Пятро Бузук з жонкай Ганнай.

З СЯМЕЙНАГА АРХІВА БУЗУКОЎ

## У Мінску Бузук застаўся яшчэ і таму, што закахаўся

Бузук з дзяцінства любіў жывёл, і таму, апынуўшыся ў новым горадзе, вырашыў завесці ката. Знаёмыя параілі з гэтай мэтай завітаць да сям'і Тарасікаў, якія жылі ў доме на месцы сённяшняга цырка. Але акрамя ката, навуковец сустрэў у гэтым доме і будучую жонку. Ужо праз некалькі месяцаў Пятро Бузук пабраўся шлюбам з Ганнай Тарасік, якая была ў два разы маладзейшая за яго: яму 35, ёй — 17. У 1927 годзе ў іх нарадзілася першая дачка.

Усяго ў Пятра і Ганны Бузукоў было чацвёра дзяцей. Старэйшая дачка Галіна стала мастачкай, Кацярына — артысткай тэатра, сын Уладзімір — дыктарам Беларускага тэлебачання, малодшая Аксана — лекарам.

Сам выхаваны ў вялікай і дружнай сям'і, Пятро любіў бавіць час і з уласнымі дзецьмі. Дачка Галіна распавядала: «З татаю мы былі больш чым сябры. Я яго абагаўляла. Баюся, што, калі б мяне тады спыталі, каго я люблю больш, магчыма, назвала б менавіта яго, а не маму... Ён спяваў мне калыханку Моцарта на нямецкай мове, арыю Жэрмона з "Травіяты" на італьянскай мове. Яшчэ памятаю, як бацька павёў мяне на "Атэла" Уільяма Шэкспіра без ведама мамы, а яна яго потым лаяла: "Няўжо можна дзіцяці такое глядзець?!"»

### Навука

Праца ў Інбелкульце — найбольш плённы перыяд дзейнасці Пятра Бузука: за 8 гадоў ён надрукаваў больш за 60 грунтоўных даследаванняў, прысвечаных беларускай мове і яе дыялектам.

Каб атрымаць поўнае ўяўленне пра моўныя з'явы беларускіх гаворак, ён штогод выпраўляўся ў экспедыцыі. Прычым як уласна па Беларусі, так і па беларускіх вёсках на Пскоўшчыне, Смаленшчыне і Чарнігаўшчыне.

### Навука перамагла мастацтва

З успамінаў жонкі, Ганны Бузук: «Пятро быў горача ўлюбёны ў навуку, але гэта не перашкаджала яму любіць мастацтва, тэатр, музыку. Асабліва любіў ён оперу. У яго самога быў вельмі прыгожы барытон, і ён любіў спяваць. Спяваў дома для дзяцей і на вечарах адпачынку, быў нязменным кіраўніком і актыўным удзельнікам студэнцкай самадзейнасці, выступаў у драматычных спектаклях. У час летніх канікул часта збіраў сваіх сяброў, а пазней і вучняў, і вёз іх у вёску, да бацькоў. А там — вогнішчы на беразе, плыты на Дняпры, песні пад зорным небам…».

Да таго ж навуковец удзельнічаў у працы тэрміналагічнай камісіі, спрычыніўся да ўсіх вялікіх канферэнцый тыпу канферэнцыі па рэформе правапісу.

У 1928 годзе пабачыла свет капітальная праца Пятра Бузука — «Спроба лінгвістычнай геаграфіі Беларусі, ч. 1. Фанетыка і марфалогія. Вып. 1. Гаворкі Цэнтральнай і Усходняй Беларусі і суседніх мясцовасцей Украіны і Велікарусі ў першай чвэрці XX стагоддзя». Гэта быў першы ў СССР, ды ўвогуле

сярод славянскіх народаў, дыялектычны атлас, які складаўся з 20 лінгвістычных картаў і 111 старонак каментароў да іх. І ён меўся быць пачаткам вялікай працы.

У той час, калі Савецкі Саюз перажываў «год карэннага пералому», 1929-ы, Бузук, не прадчуваючы блізкай бяды, працаваў над даследаваннем гаворак Беларускага Палесся і рыхтаваў да друку слоўнік Палесся, актыўна ўдзельнічаў у навуковых мерапрыемствах як у СССР, так і за яго межамі. Ён чытаў лекцыі ў Маскве для студэнтаў Камуністычнай акадэміі, Інстытуце мовы і мыслення Акадэміі навук СССР, выступаў на першым кангрэсе славянскіх філолагаў у Празе з дакладам «Лінгвістычная геаграфія як дапаможны метад пры вывучэнні гісторыі мовы». На канферэнцыі пастанавілі стварыць адзіны лінгвістычны атлас усіх славянскіх моў, і Пятро Бузук меўся быць там у аўтарах.

### Абліў сябе дэнатуратам і спрабаваў падпаліць

Міжнародная вядомасць і актыўнасць Пятра Бузука прывялі да таго, што яго асоба трапіла ў поле зроку НКВД. 6 жніўня 1930 года ён быў арыштаваны па сфальсіфікаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі».

Той раз яго адпусцілі, праз месяц. Але шок ад зняволення быў магутным. Жонка ўспамінала: «Узрушэнне ад незаконнага арышту, надуманых абвінавачванняў, усяго таго, што прыйшлося пабачыць, пачуць і адчуць у НКВД, было настолькі вялізным, што, вярнуўшыся дахаты, ён зайшоў на кухню, абліў сябе дэнатуратам і спрабаваў падпаліць».

Але тым разам, здавалася, усё абышлося і наладзілася. Навуковец нават яшчэ паспеў стаць у 1931 годзе дырэктарам Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР і пакіраваць кафедрай мовазнаўства Мінскага педінстытута. Але спакойнага жыцця ў сям'і больш не было. Штоноч чакалі новага арышту, які адбыўся 9 лютага 1934 года. Дачка Кацярына ўзгадвала: «Арышт таты, нягледзячы на тое, што была зусім маленькай, памятаю як цяпер. Прачнуліся ўначы. Чую, нехта ходзіць па хаце, расплюшчваю вочы — у кватэры чужыя людзі, усё перавернута».

## Міхаіл Суднік: «Прыходзіць новы выкладчык і кажа, што Бузук, аказваецца, вораг»

Пра арышт свайго настаўніка ўзгадваў і навуковец Міхаіл Суднік, які пазней 26 гадоў узначальваў Інстытут мовазнаўства АН БССР: «Бузук чытаў у нас у Мінскім педагагічным інстытуце курс мовазнаўства. Слухалі яго з захапленнем, чытаў ён выдатна. Проста цяжка патлумачыць, як за лекцыю ён мог распавесці так шмат, прычым вобразамі, так, што адразу было зразумела і лёгка запаміналася. Студэнты яго абагаўлялі. Раптам навіна — пасадзілі. Прыходзіць новы выкладчык і кажа, што Бузук, аказваецца, вораг, і цяпер ён нам будзе чытаць лекцыі па мовазнаўстве. Прайшло ўсяго два месяцы, гэты педагог не паспеў яшчэ як след развярнуцца — пасадзілі і яго. Прыходзіць новы — і зноў усё паўтараецца спачатку: "Ваш папярэдні лектар быў ворагам народа, ён атрымаў па заслугах, яго курс буду чытаць я". Прайшло некалькі месяцаў — пасадзілі і яго. Ішоў 1934 год».

Рашэннем «тройкі» ад 3 красавіка 1934 года Пятро Бузук быў сасланы ў Волагду тэрмінам на 3 гады.

### У 28 гадоў адна з чатырма дзецьмі

Падчас пераезду ў Волагду «згубіліся» дакументы Пятра Бузука, якія пацвярджалі яго навуковую кваліфікацыю. Таму замест уладкавання ва ўніверсітэт ён у маі 1934 года пайшоў працаваць бібліятэкарам. Зрэшты, праз год з-за недахопу выкладчыка нямецкай мовы яму ўсё-такі прапанавалі месца ў Валагодскім педінстытуце. На той час ён адзін меў больш навуковых публікацый і выдадзеных кніг, чым усе выкладчыкі валагодскага філалагічнага факультэта разам узятыя. У прыватнасці, скончыў апошнюю сваю працу «Паходжанне моў».

Тры гады неўзабаве прайшлі, і ў лютым 1937-га Пятро Бузук адправіў жонку з дзецьмі, якія прыехалі былі ўслед за ім, у Ленінград, каб пазней да іх далучыцца і разам выправіцца ў Мінск. Сам Пятро затрымаўся, бо не мог кінуць пасярод навучальнага года студэнтаў-завочнікаў, якіх чакалі выпускныя экзамены.

А 15 ліпеня 1937 года Валагодскае гарадское аддзяленне НКВД арыштавала яго як «актыўнага ўдзельніка нелегальнай кантррэвалюцыйнай фашысцкай арганізацыі, які праводзіў сярод насельніцтва актыўную контррэвалюцыйную ▸

фашысцкую агітацыю». З таго часу Бузука больш ніхто не бачыў.

Ганна Бузук, якая ў 28 гадоў засталася адна з чатырма дзецьмі, прадчувала нядобрае, асабліва пасля таго, як атрымала тэлеграму ад суседкі ў Волагдзе: «Неадкладна вяртайцеся!». Яна інтуітыўна прыняла правільнае рашэнне і замест Волагды паехала да родных у Мінск. Гэта яе ўратавала.

У пошуках мужа Ганна пісала ў разнастайныя інстанцыі. А апошнія спадзяванні на тое, што ён яшчэ жывы, былі разбураныя адказам, які яна атрымала ў 1956 годзе. З мінскага ЗАГСа прыйшло пасведчанне аб смерці: «Бузук Пятро Апанасавіч памёр 7 кастрычніка 1943 года. Прычына смерці: брушны тыф». У той час гэта было распаўсюджанай практыкай — прыкрываць забітых падчас сталінскіх рэпрэсій у 1937–1938 гадах стратамі часоў Другой сусветнай вайны.

### Самагубства ці расстрэл?

Услед за пасведчаннем аб смерці прыйшло паведамленне ад Вайсковага трыбунала Беламорскай вайсковай акругі.

## Паспрачацца і пагуляць у шахматы

Вечарамі на кватэру да Бузука (ён жыў з сям'ёй недалёка ад вакзала, у мураваным доме, што стаіць цяпер на рагу вуліц Кірава і Валадарскага) прыходзілі, каб параіцца, паспрачацца, пагуляць у шахматы. Вершы і апавяданні Бузук публікаваў у «Маладняку» і «Полымі» пад дзявочым прозвішчам маці — Росіч. А Янку Купалу, як свайму сябру, прысвяціў верш. У вершах жа прызнаваўся, што любіць Беларусь, нягледзячы на тое, што па начах яму працягвае сніцца родны поўдзень.

Там згадвалася, што 7 снежня 1937 года Пятро Бузук быў прыгавораны да расстрэлу. Толькі ў 1956 годзе найвышэйшая мера была адменена «за недаказанасцю выстаўленага абвінавачвання», але нічога выправіць гэта, натуральна, ужо не магло. Адмена ранейшага прысуду азначала толькі пасмяротнае зняцце з забітага навукоўца судзімасці.

У 1963 годзе з сынам навукоўца Уладзімірам, які на той час працаваў дыктарам Беларускага тэлебачання, звязаўся нехта «Юргелевіч», які прадставіўся вучоным сакратаром Інстытута мовазнаўства АН БССР. Ён распавёў, што ў 1930-я таксама быў несправядліва рэпрэсаваны, адсядзеў «прызначанае» і затым працаваў у педагагічным інстытуце. «Юргелевіч пазнаёміўся са сталай жанчынай за кратамі, якая папрасіла яго перадаць дзецям Бузука, што іх бацька не вытрымаў допытаў і разбіў галаву аб сцяну ў камеры», — пераказваў пасля гэтую размову сам Уладзімір.

Выявілася, што сярод падначаленых Пятра Бузука сапраўды быў старшы супрацоўнік па прозвішчы Юргелевіч. Ён быў арыштаваны ў лістападзе 1935 года і 5 гадоў правёў у Вяцкіх лагерах НКВД. Сям'я працягвала жыць у невядомасці, якая спараджала шмат версій, што ж адбылося на самай справе.

Праўда адкрылася толькі пры канцы 1990 года, ужо пасля канчатковай рэабілітацыі Пятра Бузука (несправядліва асуджаным яго прызналі ў 1988-м). Рэдакцыя газеты «Звязда» на свой запыт атрымала ліст з КГБ СССР, упраўлення па Валагодскай вобласці, дзе паведамлялася, што Пятро Бузук быў усё ж расстраляны 7 лютага 1938 года згодна з прысудам «тройкі», які адмянілі ўжо пасля выканання.




З СЯМЕЙНАГА АРХІВА БУЗУКОЎ

**Пятро Бузук пасля трэцяга арышту.**

Падчас нечалавечых допытаў Пятро Бузук не падпісаў ніводнага пратакола, не абылгаў ніводнага чалавека. Калі б ён не быў пахаваны недзе ў агульнай магіле і невядомым месцы, гэта варта было б напісаць на ягоным помніку, як сведчанне, што тут пахаваны не толькі выбітны лінгвіст, але і не абы-які чалавек.

### «Я на гэтым вырасла»

Сям'я беражэ памяць пра Пятра Бузука. Успаміны яго жонкі Ганны Рыгораўны запісала праўнучка Марыя, выпускніца Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Кацярына Віктараўна пераказвае тое, што сама чула ад мамы і дадае: «Мама расказвала з крыўдай, са слязамі, з гонарам. У нас у сям'і ненавідзелі савецкую ўладу і ў адкрытую казалі пра тое. Я на гэтым вырасла. І ўсе мае браты стрыечныя, траюрадныя на гэтым выраслі. Сярод нас не было ніводнага камуніста. Тату прымушалі, ён адмовіўся і з-за гэтага кар'еры не зрабіў».

# Бізнэс-геній XVIII стагоддзя

**Сіротка Ганна Сангушка выйшла замуж па чужой хітрасці. Але, стаўшы Ганнай Радзівіл, яна займела шанец самарэалізавацца. Піша Яна Макоўская.**

Калі б існаваў Фонд падтрымкі маладых прадпрымальніц, было б справядліва, каб ён насіў імя Ганны Радзівіл.

Кім павінна была быць шляхцянка XVIII стагоддзя ў вачах грамадства, добра тлумачыць вядомая ў той час паэтка і драматург Францішка Уршуля Радзівіл. У сваіх «Перасцярогах збавенных...», адрасаваных дачцэ Ганне, яна малюе партрэт ідэальнай шляхцянкі, пералічваючы ўсе неабходныя тагачаснай жанчыне якасці. Якасці гэтыя выходзяць з таго, што найгалоўнейшае прызначэнне жанчыны — сям'я і дзеці, таму і большасць station... 

У той жа час свякроўка Францішкі Уршулі змагла рэалізаваць сябе не толькі ў сямейным, але і ў эканамічным жыцці краіны.

## З мястэчка Ракаў

Мястэчка Ракаў у другой палове XVII стагоддзя пачувалася някепска. Ужо ў пачатку стагоддзя яно было значным гандлёвым цэнтрам, а з пераходам пад уладу шляхецкага роду Сангушак набыло статус цэнтра графства. Геранім з Канстанцыяй Сангушкі (Канстанцыя паходзіла з Сапегаў) умацавалі камерцыйнае духоўным: заснавалі друкарню і паспрыялі з'яўленню ў Ракаве дамініканскага і базыльянскага кляштараў. У такім асяродку 23 верасня 1676 года і нарадзілася старэйшая дачка Сангушкаў Ганна Кацярына.



WIKIMEDIA COMMONS

**Партрэт Ганны** з Нацыянальнага музея ў Варшаве. 1730-я.

Але пасталець у атмасферы сямейнай любові ёй не давялося. Дзяўчынка рана стала сіратой, таму вымушана была атрымліваць веды і выхаванне ў пансіянатах пры манастырах. Калі Ганна вучылася ў пансіянаце сакраментак у Варшаве, яе, прыгожую, маладую і адукаваную, заўважыла жонка караля Рэчы Паспалітай Яна Сабескага Марыя Казіміра, якую ў народзе звалі Марысенькай. Яна запрасіла Ганну да двара. А там дзяўчына да добрай адукацыі дадала яшчэ вытанчанасць і карысныя знаёмствы.

## Толькі ў касцёле зразумела, што выходзіць замуж

У 1692 годзе Ганна Кацярына едзе ў Нясвіж, куды яе запрасіла далёкая сваячка па бабулі Кацярына Радзівіл. Багатыя сваякі сустрэлі дзяўчыну прыязна. Кацярына ставілася да яе як да роднай унучкі, Ганна адказвала тым жа.

Але нечаканае запрашэнне прыйшло не проста так. Для нясвіжскай галіны дынастыі Радзівілаў гэта быў складаны час: Кацярына — удава, большасць яе дзяцей памерлі, так і не дасягнуўшы сталага ўзросту. Уся надзея на апошняга дарослага мужчынскага прадстаўніка роду Караля Станіслава, але ў Нясвіжы ходзяць плёткі пра яго ▸

адносіны з простай дзяўчынай Ганусяй. Княжна Радзівіл вырашае разабрацца з гэтай праблемай раз і назаўсёды — для гэтага ёй і спатрэбілася маладая Ганна Сангушка.

Паводле сямейнай легенды, аднойчы Кацярына Радзівіл прыйшла да Ганны і папрасіла, каб тая заўтра прыбрала валасы і апранула самую прыгожую са сваіх сукенак, бо раніцай яны павінны прысутнічаць на вянчанні. Толькі ўжо ў кляштары Ганна зразумела, што гэта яе асабістае вяселле. Караль Станіслаў і Ганна Кацярына падпарадкаваліся лёсу, каб не абразіць адно аднаго адмовай перад усімі прысутнымі.

Здавалася б, з такога старту ў сямейнае жыццё не варта чакаць далей чагосьці добрага. Аднак шлюб аказаўся не такім і кепскім. Маладыя хоць і не кахалі, але паважалі адно аднаго, прычым на працягу ўсяго жыцця. А для Ганны саюз з Каралем Станіславам — прадстаўніком аднаго з найбагацейшых і найвядомейшых радоў краіны, падканцлерам, а пасля і канцлерам Вялікага Княства — быў яшчэ і шчаслівым білетам у будучыню.

## Гаспадыня

Спакойнае сямейнае жыццё скончылася ў багатым на выпрабаванні 1719 годзе. Дзеці пахварэлі на воспу — нават ужо амаль дарослы спадкаемца роду Міхал Казімір (будучы Рыбанька). Будучыня дынастыі так непакоіла Караля Станіслава, што неўзабаве захварэў і ён. Спачатку лекары знайшлі ў яго жаўтуху, а потым злаякасную пухліну. Выратаваць яго не змаглі, і ён хутка памёр, пакінуўшы ўсе ўладанні і справы Ганне Кацярыне да моманту паўналецця 17-гадовага Міхала Казіміра.

Удава Радзівіл вымушана была займацца не толькі чыста сямейным клопатам (выхаванне малодшых дзяцей, арганізацыя шлюбаў старэйшых дачок, падрыхтоўка Міхала Казіміра да «пасады» галавы роду), але і кіраваннем вялізнай радзівілаўскай ардынацыяй. А ў апошняй, як аказалася, справы ішлі не вельмі. Ганна сутыкнулася з вялікімі запазычанасцямі мужа, а да таго ж трэба было неяк наладжваць гаспадарку, заняпалую пасля спусташальнай Паўночнай вайны.




**Групавы партрэт Караля Станіслава Радзівіла, яго жонкі Ганны Сангушкі, а таксама іх дзяцей.** XVIII стагоддзе, касцёл Перамянення Пана ў мястэчку Новая Мыш.

## Па кім плача сава

У шлюбе Ганны Кацярыны і Караля Станіслава Радзівілаў нарадзілася 18 дзяцей, але да сталага ўзросту дажылі толькі сямёра з іх. А сын Мікалай памёр незадоўга да свайго паўналецця. Ганну Кацярыну пачалі пазнаваць па чорным адзенні, бо яна амаль не здымала жалобу. Захавалася легенда, што няшчасная маці нават ноччу не магла знайсці спакою. Яе душа ператваралася ў саву і ў гэтым абліччы прылятала да кляштара, дзе былі пахаваныя яе дзеці. Таму ноччу побач з ім можна пачуць сумныя савіныя стогны.

Тут Ганна Кацярына і праявіла сваю прадпрымальнасць. Найперш пазбавілася ад несумленных арандатараў, замяніўшы іх больш надзейнымі і адказнымі людзьмі. Наладзіла пабудову неабходнай інфраструктуры ў сваіх уладаннях: мастоў, грэбляў, млыноў, корчмаў. Выкупіла закладзеныя сямейныя маёнткі, у тым ліку так званыя «нойбургскія» з цэнтрам у Слуцку, што раней як пасаг адышлі нямецкім князям і пастаянна выклікалі судовыя спрэчкі.

Але галоўнае, што Ганна зрабіла на часовай пасадзе галавы роду, — гэта заснавала на сваіх

землях новую для тагачасных беларускіх земляў мануфактуру. Ідэю яе стварэння яна падгледзела ў сваіх еўрапейскіх падарожжах.

Пра Радзівілаў і цяпер ведаюць, якія пышныя прыёмы яны давалі. Балі з удзелам каралеўскага двара суправаджаліся вялізнымі выдаткамі, не апошнім з якіх быў посуд. Таму не дзіўна, што выбар мадам Радзівіл прыпаў на вытворчасць папулярнага тады, але і дарагога шклянога посуду. Такому выбару садзейнічалі і багатыя мясцовыя радовішчы сыравіны, неабходнай для вытворчасці шкла: пяску, вапны.

Княгіня мусіла моцна сумнявацца перад пачаткам рэалізацыі радыкальнай бізнэс-ідэі: усё-такі няўдача магла яшчэ больш падкасіць ардынацыю. Аднак эканамічныя складанасці ў сям'і былі такія вялікія, а патэнцыйныя выгады ад новай дзейнасці такія заманлівыя, што Ганна Кацярына адважылася.

## Праект стагоддзя

Першае шкларобнае прадпрыемства паўстала ўжо ў 1720-я гады ў вёсцы Налібакі (сучасны Стаўбцоўскі раён). Вытворчасць зрабілі па ўзоры Дрэздэнскай каралеўскай мануфактуры, першымі майстрамі сталі таксама еўрапейскія спецыялісты. Але з часам, калі мясцовыя рабочыя засвоілі працэс, іншаземцаў імі замянілі, каб сэканоміць. Гэта не толькі не знізіла якасці вырабаў, але і надало ім унікальныя беларускія рысы, якія праяўляліся як у форме прадметаў, так і ў іх аздабленні.

На Налібоцкай мануфактуры рабілі літаральна ўсё неабходнае для арыстакратычных сямей: кубкі, келіхі, кілішкі, шклянкі, салатніцы, талеркі, а таксама цэлыя сталовыя камплекты і «пуздэркі» — дарожныя куфэркі, у якіх змяшчаліся розныя наборы посуду. Тут жа адлівалі бутэлькі, графіны, чарнільніцы, пясочныя гадзіннікі, шкло для акуляраў і шмат іншых рэчаў.

Справы на Налібоцкай шкляной мануфактуры ішлі добра, і хутка Ганна Радзівіл заклала яшчэ адну такую вытворчасць у мястэчку Урэчча (сучасны Любанскі раён). Тут ужо ўзорам для пераймання была Саксонская каралеўская мануфактура. Рабілі тут не толькі шкляны посуд, але і любыя прадметы інтэр'еру, якія ўтрымліваюць шкло. Урэцкая мануфактура была адзінай на тэрыторыі Беларусі, дзе выраблялі люстэркі і прадметы для асвятлення: люстры, жырандолі, падсвечнікі, таршэры, бра.




Рабіць шкло ў XVIII стагоддзі аказалася вельмі выгаднай справай: мець дома сталовыя шкляныя вырабы марыла ўся больш-менш заможная шляхта. **Келіх з налібоцкай гуты ў калекцыі Каралеўскага замка на Вавелі.**




**Пляшка з налібоцкай гуты.** З фондаў Каралеўскага замка на Вавелі ў Кракаве.

Першачаргова шкляныя мануфактуры задавальнялі патрэбы двара Радзівілаў, але вельмі хутка іх вырабы набылі вядомасць і па-за ягонымі межамі. Радзівілы пачалі будаваць крамы і склады на ажыўленых трактах і гасцінцах (такіх як Мінск — Варшава, Мінск — Вільня), а таксама ў Вільні, Гродне, Беластоку, Слуцку, Нясвіжы. Ішло радзівілаўскае шкло і на экспарт.

Пра тое, што шкляныя мануфактуры ў Налібаках і Урэччы аказаліся ўдалым бізнэс-праектам, сведчыць і тэрмін іх існавання. Абодва прадпрыемствы функцыянавалі больш за 100 гадоў і зніклі толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Гэтаму віной быў цэлы шэраг прычын, пачынаючы ад напалеонаўскіх войнаў і распаўсюду фабрычнай вытворчасці, дзе замест ручной працы выкарыстоўваліся машыны, да аслаблення роду ўласнікаў. У кожным разе мануфактуры, заснаваныя Ганнай Радзівіл, сталі добрым прыкладам для іншых беларускіх прадпрымальнікаў XVIII стагоддзя: Міхала і Гераніма Радзівілаў, графаў Салагуба, Храптовіча, Сапегі. ▶

### «Другі Нясвіж»

Наладзіўшы справы ў ардынацыі Радзівілаў, Ганна Кацярына занялася ўласнай рэзідэнцыяй у Белай Падляскай. Цяпер гэты горад аддзелены мяжой Беларусі і Польшчы, а раней Берасцейшчына і Падляшша ўтваралі фактычна адзін рэгіён.

У Белай Ганна Кацярына праводзіла шмат часу, а пасля таго, як сын Міхал Казімір змог паўнавартасна пераняць кіраванне ардынацыяй, пераехала туды ўвогуле. Вяла яна справы з уласцівым ёй размахам і смеласцю. Цалкам перабудавала палац у модным тады стылі ракако з прэтэнзіяй зрабіць з яго «другі Нясвіж». Садзейнічала развіццю рамёстваў і адкрыццю новых майстэрняў, дзякуючы чаму Белая ператварылася ў своеасаблівы прамысловы гарадок. Заснавала шпіталь, дом для сірот і шэраг кляштараў.

А яшчэ Ганна захаплялася кнігамі. Штогод княгіня Радзівіл выдзяляла значныя сумы на набыццё рознага кшталту літаратуры: ад мастацкай да навуковай. Яе хатняя бібліятэка, перавезеная з Белай, склала асобны раздзел Нясвіжскага збору і ўтрымлівала кнігі па эканоміцы, гістарычнай і палітычнай геаграфіі, гісторыі Царквы, юрыспрудэнцыі. Удава дбайна сачыла за парадкам на паліцах і шафах, таму пры яе жыцці неаднаразова складаліся вопісы і каталогі як яе ўласнай бібліятэкі, так і нясвіжскай.

Любоў да кніг Ганна перадала і свайму сыну — Міхалу Казіміру Рыбаньку, які разам са сваёй жонкай Францішкай Уршуляй адкрыў друкарню і настолькі




**Так выглядаў палац Радзівілаў у Белай Падляскай.** Замак быў разбураны, але цяпер вядуцца работы па яго аднаўленні.

## Адкуль Курашы ў Налібаках

Працоўны дзень доўжыўся ад 4-й раніцы да 19-й вечара з перапынкам на абед ад 11 да 13. Да суботы гутнікі рыхтавалі печы, матэрыялы і шкляную масу. Галоўнымі складнікамі шкла былі пясок, паташ, вапна, адбельвальнікі і фарбавальнікі. Пясок сушылі ў печы і прасейвалі праз густое сіта. Паташ атрымлівалі з попелу ліставых дрэваў. Рабочыя, што адказвалі за яго якасць, называліся «курашы». Як можна здагадацца, назва паходзіла ад слова «курэць» што значыла «дыміцца». І сёння ў Налібаках жывуць людзі з прозвішчам Кураш.

У суботу ўвечары ў спецыяльныя місы ў печы засыпалася шкляная маса. Там яна плавілася да вечара нядзелі. За працэсам сачылі два гутнікі. У нядзелю ператопленае шкло кідалі ў ваду.

Пасля яго драбнілі, сушылі, засыпалі ў місы і зноў ставілі ў печ. Ля напаленай печы працавала восем чалавек. Пасля 10-й гадзіны раніцы ў панядзелак з гатовага шкла пачыналі рабіць куфлі, кілішкі, келіхі, графіны. А каб атрымаць найлепшае шкло, яго трымалі ў печы і да аўторка. Пасля гутнікі пачыналі рыхтаваць сыравіну да наступнай суботы...

...Яе шкло было самым папулярным сярод ліцвінскай шляхты. У XVIII стагоддзі магнаты будавалі мануфактуры дзеля шыку. Прыбытак яны прыносілі рэдка. Налібоцкая гута была выключэннем.

Шкло масава купляла сярэдняя шляхта. Самыя сціплыя вырабы каштавалі 1 злоты 15 грошаў. Аздобленыя шклянкі і келіхі прадавалі па 2 злотыя. Эксклюзіўнае шкло каштавала не менш за 5 злотых.

«Залатым часам» гуты былі першыя 40 гадоў існавання. Напрыклад, у 1747-м у Налібаках было выраблена 1800 кілішкаў, 1200 шклянак, 700 бутэлечак. На гуце не паспявалі выконваць замовы. У найлепшыя гады яна штогод прыносіла 13 тысяч злотых.

*Дзмітрый Гурневіч.*
*«Налібоцкія келіхі для Еўропы»*

павялічыў колькасць тамоў, што бібліятэка займела ўласны будынак.

## Апошняе падарожжа

Ганна Радзівіл памерла ў сваім палацы ў Белай у снежні 1746 года ва ўзросце 70 гадоў. Урачыстасці, прымеркаваныя да гэтай сумнай нагоды, адпавядалі статусу памерлай — прадстаўніцы двух велікакняскіх родаў, маці спадчынніка Радзівілаў і мецэнатцы. Яны доўжыліся аж 9 месяцаў! Цела Ганны Радзівіл правезлі па ўсіх мястэчках радзівілаўскіх уладанняў, якія ляжалі на шляху да Нясвіжа. Увесь шлях нябожчыцы суправаджаўся набажэнствамі і прамовамі знакамітых дзеячаў Каталіцкай царквы.

Вясной цела Ганны Радзівіл прывезлі ў Мір, які быў спецыяльна для гэтага ўбраны. Францішка Уршуля Радзівіл, нявестка Ганны Кацярыны, нават пабудавала ў мястэчку з гэтай нагоды дзве трыумфальныя аркі: адну перад уязной брамай, другую перад кляштарам, дзе мусіла ўсё лета ляжаць цела Ганны.

Восенню падарожжа ўзнавілася, і 10 верасня 1747 года працэсія з'явілася ў Нясвіжы. Апошнім пунктам гэтага шляху стаў нясвіжскі касцёл Божага Цела, дзе спецыяльна для цела Ганны Кацярыны Радзівіл быў пабудаваны *castrum doloris*, «замак смутку», багата ўпрыгожаны золатам і аксамітам, увенчаны родавым гербам. Рабіў яго італьянскі архітэктар Маўрыцыё Педэцы.

Усе гэтыя пахавальныя ўрачыстасці каштавалі Радзівілам касмічных грошай. Зрэшты, пры жыцці іх Ганна Сангушка Радзівіл дакладна сваёй дзейнасцю зарабіла. ◆



SHUTTERSTOCK.COM, BY HENRYK SADURA

**Заснаваны Ганнай Радзівіл кляштар Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі.** Бяла Падляска.

# Манашка манашкай, *але гэта толькі першае ўражанне*

**Пра што расказвае нам урачысты партрэт самай прадпрымальнай жанчыны Рэчы Паспалітай XVIII стагоддзя і ці можна гэтаму партрэту верыць, тлумачыць мастацтвазнаўца Надзея Вусава.**

Зайдзіце ў Нацыянальны мастацкі або Нацыянальны гістарычны музеі ці ў парадную залу Мірскага замка — і ўсюды вы ўбачыце партрэт гэтай жанчыны, Ганны Кацярыны Радзівіл з Сангушак. На вас будзе глядзець немаладая асоба ў чорным адзенні. Першае ўражанне: манашка. Але гэта княгіня Ганна Радзівіл, удава па канцлеру ВКЛ Каралю Станіславу Радзівілу.

## «Хай будзе ад сэрца»

Партрэт напісаны паміж 1722–1725 гадамі, калі княгіня пачала актыўна перабудоўваць і рамантаваць свае мураваныя палацы ў Гданьску, Белай на Падляшшы, Нясвіжы, Карэлічах і драўляны — у Менску. У кожным з іх былі партрэтныя галерэі, для якіх маляваліся партрэты гаспадароў. Таму і копій гэтага партрэта так шмат.

Гэты партрэт не тыповы для стылю пышнага параднага партрэта барока. Апошні заўсёды панегірык мадэлі, выява дасканалага чалавека і канструкт іміджу замоўніка. Але сама княгіня не любіла ніякіх канцэптаў ды выкрунтасаў ні ў літаратуры, ні ў мастацтве — прызнавала простыя і выразныя дэталі. І ад мастака патрабавала: «Хай будзе ад сэрца, хоць і крыва». Зрэшты, гэтае «ад сэрца» зусім не значыла, што мадэль хоча бачыць сябе такой, як у жыцці, — немаладой, са страчанай ад шматлікіх цяжарнасцяў і дзіцячых смерцяў жаночай прывабнасцю, з пабітым воспаю тварам і шматлікімі зморшчынамі.

Ды і простасць асобы на партрэце яўна ўдаваная — жанчына, што пазірае на нас з рамы, зусім не манаскага ладу жыцця, яна любіла і практыкавала раскошу ва ўсім — ад абедзеннага меню да фундаваных ёю касцёлаў. Напрыклад, двор Ганны Кацярыны нават напрыканцы яе жыцця налічваў 347 чалавек, сярод якіх былі і немцы, якіх яна асабліва цаніла за педантызм і акуратнасць.

Аднак кампраміс мастака з паноўным стылем і густамі мадэлі, відаць, апошнюю цалкам задаволіў, бо партрэт быў зацверджаны і стаў капіравацца для розных замкаў радзівілаўскай ардынацыі.

## Таямнічы «мастак гданьскі»

Хто быў аўтарам гэтага партрэта? Ганна Радзівіл утрымлівала свой архіў ідэальна. Дзякуючы яе акуратнасці мы ведаем 70 мастакоў, якіх яна наймала для працы ў сваіх сядзібах. Але толькі адзін з іх пазначаны як запрошаны для партрэтавання самой Ганны і яе сям'і ў 1722–1724 гадах. Імя яго чамусьці не пазначана, толькі безасабовае «мастак гданьскі».

Даследчыца з Польшчы Ванда Каркуцінская мяркуе, што ім мог быць **Ёган Бенедыкт Гофман (1667–1745)** ці ягоны сын **Ёган Бенедыкт Гофман-малодшы (1700–1765 ці 1777)**. Гданьская

Княгіні Ганне Радзівіл з Сангушак на партрэце каля 55 гадоў. Двайны падбародак, але даволі **выразны твар і жывы энергічны позірк**. У маладосці, відаць, была прывабнай і прыгожай. Сангушкі-дзяўчаты заўсёды лічыліся прыгажунямі, гэта было фамільнае. Нездарма, відаць, яна вельмі любіла люстраныя галерэі ў сваіх палацах і люстэркі пры свечках, якіх шмат замаўляла для сваіх пакояў. Больш за ўсіх з дзяцей да яе быў падобны Міхал Казімір, а ён лічыўся прыгожым мужчынам.

**Усмешка** пажаданая на жаночым партрэце часоў барока. Яна разбаўляе сухі і безэмацыйны вобраз гераіні.

**Нейтральны фон** стварае ўражанне стрыманасці, ён быў характэрны для сармацкага партрэта. Аднак на ім няма ні надпісаў, ні подпісу майстра. На першым з напісаных партрэтаў, які знаходзіцца ў Луцку, Ганна сядзіць **у крэсле з чырвонай абіўкай**. Але ў пазнейшых копіях яркая дэталь паступова знікае. Партрэт набывае лаканічнасць колеравай гармоніі — чорны, белы, чырвоны, вішнёвы.




**Нумар** падказвае, што партрэт, які цяпер знаходзіцца ў зборах Нацыянальнага мастацкага музея, вісеў у Нясвіжскім замку, гэта яго інвентарны нумар за 1834 год.

Круглы твар ды **абрыс чапца і пакрывала на галаве** надаюць Ганне Радзівіл падабенства з савой — драпежнай начной птушкай. Што, у прынцыпе, адпавядала яе моцнаму і прадпрымальнаму характару. Але мастак калі і ствараў гэтае падабенства наўмысна, то яўна дзеля іншай асацыяцыі, характэрнай для XVIII стагоддзя. Сава тады была намёкам на Мінеўру — багіню мудрасці. І цікавае супадзенне арыстакратычнага з народным: жыхары Нясвіжа верылі, што Ганна Кацярына па начах ператвараецца ў саву, каб ляцець да трунаў сваіх памерлых дзяцей.

Калі памёр Караль Станіслаў Радзівіл, Ганне было 44 гады. Яна апранула жалобу, якую ўжо ніколі не здымала. Хоць да гэтага мастакі малявалі яе ў прыгожых сукенках са смелым дэкальтэ. Здалёк **чорная жалобная сукенка** выглядае пляскатай плямай. Але калі прыгледзецца, то можна заўважыць прыгожыя фалды жабо, якія мастак у гэтай версіі партрэта «прыгасіў». А гравёр і ювелір Гірш Ляйбовіч, які рабіў гравюру з гэтага партрэта ў 1756 годзе, паказаў усе дэталі адзення, у тым ліку нават шнуроўку на сукенцы Ганны Кацярыны.

Гданьскі мастак выбірае складаную кампазіцыю **жэстаў рук**: адну руку хавае, другую паказвае на падушцы. Усё гэта ў азбуцы жэстаў мае значэнне. Схаваная рука адлюстроўвае гонар, адукаванасць, абранасць Богам і добрыя манеры. Такім чынам, гэта падказка гледачу: перад вамі чалавек з найвышэйшага саслоўя. Пра арыстакратычнасць гераіні гаворыць і падушачка, на якой ляжыць дагледжаная левая рука Ганны. На такіх падушках звычайна малявалі карону ці дзяржаву — сімвалы ўлады. Тут можна прачытаць і іншы сэнс: дабілася ўсяго сваімі рукамі.

школа славілася партрэтным майстэрствам, а Гофман-старэйшы быў самым паважаным мастаком гэтага горада, чвэрць стагоддзя ўзначальваў гільдыю мастакоў Гданьска. Магчыма, менавіта ён адгадаў, якой сама сабе спадабаецца на партрэце пані Радзівіл. ◆




**Маркс і Энгельс у «Рэйнскай газеце».** Адзін рэдактар, другі — яго намеснік. Карціна рэвалюцыйнага для Нямеччыны 1849 года, адсюль адпаведная стылістыка.

# Энгельс і Маркс

## Гісторыя вялікага сяброўства

**Жонак у яго было некалькі, але жаніўся ён з імі толькі перад іх сконам. А вось найлепшы сябар у яго быў адзін на ўсё жыццё. Кім быў Фрыдрых Энгельс для аўтара «Капіталу», сям'і і самога сябе, напярэдадні ягонага 200-годдзя піша Анатоль Сідарэвіч.**

### Выдатны хлопчык

Бармена — роднага горада Фрыдрыха Энгельса — цяпер на карце Нямеччыны няма. Ёсць раён у горадзе Вуперталі, які сам з'яўляецца раёнам у адміністрацыйнай акрузе Дзюсельдорф зямлі Паўночны Райн-Вестфалія. Рурскі вугальны басейн — гэтае вядомае вызначэнне акурат пра тыя мясціны.

Фрыдрых нарадзіўся 28 лістапада 1820 года ў сям'і патомных бюргераў-гараджан. Фрыдрых Энгельс-старэйшы быў мо не такі ўплывовы чалавек, як ягоны брат Аўгуст, сябар прускай Палаты паноў (*Herrenhaus*), але што ён быў чалавек паважаны — сумненняў няма. Царкоўным старастам і наглядчыкам царкоўнай школы абы-каго не ставяць.

Фрыдрых-старэйшы ажаніўся з Элізабэт ван Гар, якая паходзіла з сям'і філолагаў і сама была адукаванай жанчынай, знаўцай паэзіі. З мужам яе зблізіла, пэўна, любоў да музыкі, бо

**Фрыдрых Энгельс** (1820–1895) нямецкі гісторык, філосаф, прадпрымальнік, грамадска-палітычны дзеяч. Сябар і аднадумца Карла Маркса, сааўтар ягоных прац, адзін з ідэолагаў марксізму. У савецкія часы ў афіцыйнай камуністычнай ідэалогіі была замацаваная і ўсяляк прапагандавалася неразрыўная трыяда класікаў марксізму-ленінізму: Маркс – Энгельс – Ленін (у 1930–1950-я гады да іх далучаўся і Сталін), таму гэта прозвішча добра вядома любому чалавеку, які жыў у СССР у той час.

Энгельс разам з Марксам напісаў і выдаў у 1848 годзе «Маніфест Камуністычнай партыі» і некаторыя іншыя працы, а пасля смерці сябра ў 1883 годзе рэдагаваў, дапрацоўваў і рыхтаваў да друку не даведзеныя да канца другі і трэці тамы ягонага славутага «Капіталу».

Пісаў Энгельс і свае ўласныя працы, якія таксама зрабілі вялікі ўплыў на фармаванне тэорыі марксізму, ідэі гістарычнага матэрыялізму. Перш за ўсё гэта «Праблемы сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы» (1884 год), «Людвіг Феербах і канец нямецкай класічнай філасофіі» (1886), «Сялянскае пытанне ў Францыі і Германіі» (1894).

Заслуга Энгельса была ў тым, што ён, сістэматызаваўшы ўласныя і Марксавы напрацоўкі, выклаў марксізм у сваіх працах як цэльны светапогляд. З імем Энгельса звязваюцца такія паняцці, як «позні марксізм» і «заходні марксізм». Яго можна лічыць айцом еўрапейскай сацыял-дэмакратыі XX і XXI стагоддзяў.

фабрыкант Энгельс іграў на фагоце і віяланчэлі, ладзіў вечары камернай музыкі. І ўсё ж галоўным клопатам фрау Элізабэт было выхаванне дзяцей, а іх у яе і Фрыдрыха нарадзілася дзевяць: пяцёра сыноў і чатыры дачкі.

Першынца Фрыдрыха спачатку аддалі ў пачатковую рэальную школу ў родным Бармене, а потым адправілі ў гімназію ў суседні Эльберфельд (цяпер таксама частка Вупerталя). Калі Нямеччына дала свету ўзор класічнай адукацыі, то Эльберфельдская гімназія была ўзорнай у Прускім каралеўстве. Вядома, што сталы Энгельс ведаў 12 моваў, а чытаў дык і на дваццаці. Дык вось, акрамя роднай нямецкай, чатыры мовы (старажытнагабрэйскую, старажытнагрэцкую, лацінскую і французскую) ён вывучыў у гімназіі. Рэлігію, гісторыю, матэматыку, фізіку, натуральную гісторыю (мінералогію, батаніку і заалогію) і ўводзіны ў філасофію ў гімназіі вывучалі таксама. А яшчэ вучыліся спяваць па нотах і маляваць.

Юны Фрыдрых быў не надта паслухмяным, на што скардзіўся ягоны бацька. Вучобу часам пакідаў убаку, асабліва калі ў рукі трапляў чарговы рыцарскі раман. Але ўсё ж бацька, нават наракаючы на сына, ганарыўся: «А наогул Фрыдрых — выдатны хлопчык».

## Лёс першынца

Гімназіст Энгельс марыў паступіць ва ўніверсітэт і вывучаць палітычную эканомію, але ў бацькі былі свае планы. Яму патрабаваўся памочнік, якому можна цалкам давяраць, таму ён забраў 16-гадовага Фрыдрыха з гімназіі. Спачатку ён прызначыў сына канторшчыкам у сваёй гандлёвай фірме, а потым адправіў на стажыроўку ў Брэмен. Справа ў тым, што Энгельс-старэйшы пашыраў свой бізнэс і стаў саўладальнікам фабрыкі «Петэр Эрмен і К$^{o}$» у англійскім Манчэстэры. Былі планы адкрыць фабрыку з тымі ж партнёрамі і бліжэй да дому. Таму ад старэйшага сына патрабавалася веданне не палітычнай эканоміі, а канкрэтнай эканомікі. І сякі-такі досвед.

Калі Фрыдрыху споўнілася 19, ён, як і многія спадкаемцы заможных людзей таго часу, накіраваўся паглядзець, як жывуць людзі ў іншых ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Які арыстакратычны дамок быў у бацькоў Энгельса!** Сучасны Вупэрталь.

WIKIMEDIA COMMONS

**Нават маладым Фрыдрых насіў бараду.** У 1840-м галоўнаму паплечніку Маркса ўсяго 19–20 гадоў.

▶ краінах. Улетку 1840-га ён пабываў у Галандыі і Англіі. Праз год наведаў Швейцарыю і Ламбардыю. Гэтая паездка спатрэбілася, пэўна, і таму, што рамантычны юнак, аматар Зігфрыда і Вільгельма Тэля, увесну выклікаў свайго крыўдзіцеля на двубой (праціўнік атрымаў лёгкую драпіну).

Да 1840 года сыны багатых падданых прускай кароны маглі адкупіцца ад вайсковай службы, але пазней гэта стала немагчыма — яны мусілі адбыць прынамсі год вайсковых збораў. І ў верасні 1841-га, адразу пасля падарожжа, Фрыдрых падаецца ў вольнапісаныя, то-бок у вайскоўцы, якія пайшлі на службу добраахвотна і мелі пэўныя палёгкі ў параўнанні са звычайнымі жаўнерамі.

У войску Энгельс вывучаў не толькі мастацтва артылерыі. Служыў ён у Берліне, а там — універсітэт. І малады вайсковец хадзіў на лекцыі класіка нямецкай філасофіі Фрыдрыха Вільгельма Шэлінга, на семінары па гісторыі рэлігіі, вёў дзённік вольнага слухача, сябраваў з паслядоўнікамі Гегеля і чытаў апошняга прадстаўніка класічнай нямецкай філасофіі Людвіга Феербаха.

Праз год, аддаўшы належнае фатэрлянду, Фрыдрых вярнуўся ў Бармен, але доўга ў родным горадзе не затрымаўся: у другой палове лістапада мусіў выправіцца ў Англію вывучаць камерцыйную справу на фабрыцы «Эрмен і Энгельс» (так стала называцца фірма партнёраў у Манчэстэры).

## Жанчыны і сябры

У Англіі высокі малады чалавек з тварам амаль па-хлапчукоўску юным і з бездакорнай англійскай мовай (так яго характарызаваў адзін з дзеячаў англійскага рабочага руху) пазнаёміўся з сапраўднай пралетаркай Мэры Бёрнс (1821–1863), якая да таго ж была дачкой прыгнечанага ірландскага народа. Сацыяльныя абставіны не пазбавілі яе прыроджанага добрага пачуцця гумару, і менавіта гэта, відаць, прыцягнула маладога фабрыканта. Лічаць, што дзякуючы Мэры ён зацікавіўся і жыццём пралетарыяту.

Яшчэ раней, едучы ў Англію, Энгельс зрабіў кола і заехаў у Кёльн, дзе выходзіла «Рэйнская газета» (*Rheinische Zeitung*). У ёй ён змяшчаў свае артыкулы, і яму хацелася пазнаёміцца з рэдактарам Карлам Марксам. І сапраўды, два дзеячы, імёны якіх пасля сталі многімі ўспрымацца выключна ў звязцы, тады пазнаёміліся, але не больш за тое — сустрэча прайшла холадна-афіцыйна.

Другая сустрэча з Марксам адбылася ў жніўні-верасні, калі Энгельс вяртаўся з Англіі на радзіму. Сустрэліся ў Парыжы, і на гэты раз размовы былі цёплыя, чаму спрыяла і віно таксама. З тых дзён і пачалося сяброўства Энгельса і Маркса.

А Мэры Бёрнс? Яна стала афіцыйнай Энгельсавай жонкай перад самай смерцю, бо тагачаснае

**Свабодныя. Скетч Фрыдрыха Энгельса.** Тут ён намаляваў нямецкіх філасофаў і грамадскіх дзеячаў свайго атачэння. Прыкладна 1842 год.

WIKIMEDIA COMMONS

грамадства асуджала мезальянс нават больш, чым вольныя адносіны. Жэні фон Вестфален (яна ж фраў Маркс) з асцярогай глядзела на мужавага сябра: ці не возьме раптам і ейны Карл прыклад з Фрэда? І такі не абышлося без здарэння.

Загадкавая гісторыя здарылася ў 1851 годзе. Служанка Ленхен, а дакладней Гэлена Дэмут, якую бацькі фраў Маркс накіравалі дапамагаць сваёй дачцэ, нарадзіла хлопчыка. Татам абвясціў сябе Энгельс. Але хлопчыку далі падазронае двайное імя: Генры Фрэдэрык. З Фрэдэрыкам ясна: гэта Фрыдрых. А вось Генры... Гэта ці не адно з імёнаў доктара Карла Генрыха Маркса? Хлопчыка аддалі ў добры прытулак, ён стаў прафсаюзным дзеячам і лейбарыстам, сябраваў з сям'ёю Марксавай дачкі Элеаноры.

Сам жа Энгельс пасля смерці Мэры Бёрнс не застаўся адзінокім мужчынам. Да яго перабралася жыць Лізі Бёрнс (1827–1878), сястра Мэры. З Лізі ён таксама абвянчаўся толькі перад самай яе смерцю. Калі памруць фраў Маркс (1881) і яе муж (1883), да адзінокага Энгельса перабярэцца і Ленхен Дэмут і будзе весці яго гаспадарку. Пахавалі яе ў адной магіле з Марксамі. Энгельс жа перад смерцю прызнаўся, што Генры Фрэдэрык Дэмут не ягоны сын.


Сябры Энгельс і Маркс і тры Марксавы дачкі.

WIKIMEDIA COMMONS

## Нешчаслівы паўстанец, вымушаны камерсант

У 1845 годзе Энгельс, ужо аўтар заўважных прац пра становішча рабочага класа ў Англіі і «Накідаў да крытыкі палітычнай эканоміі», заявіў бацьку, што не хоча займацца камерцыяй. Яго ўсё больш і больш уцягваў вір грамадскіх падзей. Асабліва пасля таго, як у кантынентальнай Еўропе, у тым ліку ў Нямеччыне, у 1848-м выбухнула рэвалюцыя.

Маркс і Энгельс змагаліся з нямецкай рэакцыяй зброяй крытыкі (першы рэдагаваў «Новую Рэйнскую газету» (*Neue Rheinische Zeitung*), а другі быў яго намеснікам). Калі ж настаў час, зброю крытыкі Энгельс памяняў на крытыку зброяй. Увесну 1849-га ён браў чынны ўдзел у паўстанні рабочых і дробнай буржуазіі ў горадзе Эльберфельд у Рэйнскай правінцыі, а пасля яго паразы перабраўся ў Пфальц і далучыўся да пфальц-бадэнскіх паўстанцаў.

Паўстанцы і тут пацярпелі паразу, і ў ліпені 1849-га Энгельс мусіў падацца ў выгнанне. Праз Швейцарыю, Італію, Гібралтар ён прыехаў на радзіму сямейнага бізнэсу — у Англію. Кароткі час пажыў у Лондане, а пасля мусіў капітуляваць і, нягледзячы на былое абяцанне бацьку не займацца больш камерцыяй, пераехаў у Манчэстэр. Там ён 13 год служыў ў фірме «Эрмен і Энгельс», а ў 1864 годзе стаў яе саўладальнікам. Фірма ягоная была бавоўнапрадзільнай фабрыкай, якая купляла сыравіну, ткала з яе ніткі і прадавала гатовую прадукцыю ткацкім прадпрыемствам.

Нягледзячы на нежаданне Энгельса займацца камерцыяй, прадпрымальнікам ён быў, ▸

► калі мусіў гэтым заняцца праз неабходнасць, спраўным і паспяховым. Матэрыяльна ў яго было ўсё вельмі добра. Грошай хапала і на ўтрыманне дома (з кухаркай і ахмістрыняй), і на вопратку ды абутак, і на курорты, і на памочнікаў, і на дабрачыннасць. 20 гадоў адпрацаваўшы на фабрыцы, ён пайшоў на «заслужаны адпачынак», і пасля да канца жыцця «адпачываў» яшчэ 25 гадоў. Ды і пасля сябе пакінуў на рахунку ў банку кругленькую суму.

А частку сваіх асабістых даходаў ён аддаваў Марксу, які, будучы геніяльным мысляром, у побыце быў вельмі непрактычны. Як сапраўдны ўнук габрэйскага рабіна, Маркс быў чалавекам кніжным. Паводле свайго інтэлектуальнага патэнцыялу ён мог стаць адвакатам, выкладчыкам ва ўніверсітэце, але яго вабілі толькі кнігі, жаданне вывучыць механізм капіталістычнай гаспадаркі. Гэтаму ён ахвотна аддаваў амаль увесь свой час, але не меў магчымасці і ўмення прадаць гэта за грошы. Пры гэтым меў сям'ю, у якой за 11 гадоў (1844–1855) нарадзілася шасцёра дзяцей (праўда, трое, у тым ліку абодва сыны, памерлі малымі). Таму бескарыслівая дапамога з боку заможнага сябра-аднадумца была вельмі дарэчнай. Ленін пісаў, што Маркс без фінансавай падтрымкі з боку Энгельса «не толькі не мог бы скончыць "Капітал", але і немінуча загінуў бы пад ціскам беднасці».




**На гэтым фотаздымку Энгельсу 71 год.**

**Маркс без фінансавай падтрымкі з боку Энгельса «не толькі не мог бы скончыць "Капітал", але і немінуча загінуў бы пад ціскам беднасці»**

### У Лондане

Амаль праз 20 год Энгельс пераехаў у Лондан. У ягоным доме на *Regent's Park Road* пабывалі дзясяткі дзеячаў еўрапейскага сацыялістычнага і рабочага руху, пра што сёння нагадвае мемарыяльны знак. У Лондане і на курортах быў напісаны вядомы твор «Анты-Дзюрынг», на аснове якога пасля паўстала праца «Развіццё сацыялізму ад утопіі да навукі» — Маркс назаве яе ўводзінамі ў навуковы сацыялізм.

З-пад пяра Энгельса ў той час выйшлі таксама «Паходжанне сям'і, прыватнай уласнасці і дзяржавы», «Людвіг Феербах і канец класічнай нямецкай філасофіі», «Замежная палітыка рускага царызму», «Да крытыкі сацыял-дэмакратычнай праграмы 1891 года», «Сацыялізм у Нямеччыне», «Да гісторыі першапачатковага хрысціянства» ды іншыя працы. Для тых, хто вывучае тэорыю сацыялізму, не менш каштоўнымі з'яўляюцца і яго шматлікія лісты.




**Лізі Бёрнс**, другая жонка Энгельса.

У 1883 годзе, пасля смерці Маркса, Энгельс узяў на сябе абавязак адрэдагаваць першы том «Капіталу» па-англійску (выйшаў у 1887-м), расчытаць і падрыхтаваць да друку наступныя тамы гэтай фундаментальнай сябравай працы. Яго памочнікамі сталі нямецкія сацыял-дэмакраты Эдуард Бернштайн і Карл Каўцкі. У 1885 годзе выйшаў другі том «Капіталу», а ў 1894-м — трэці. Чацвёрты том — «Тэорыі дадатковай вартасці» — рыхтаваў да друку ўжо адзін Каўцкі.

Энгельс разам з Бернштайнам прыклаў нямала намаганняў, каб у сотыя ўгодкі Вялікай французскай рэвалюцыі,

у 1889 годзе, у Парыжы быў праведзены міжнародны сацыялістычны кангрэс. Так фактычна быў заснаваны Сацыялістычны (Другі) Інтэрнацыянал. Аднак самому Энгельсу ўдалося ўдзельнічаць толькі ў Цюрыхскім кангрэсе ў 1893 годзе, які быў ужо трэцім па ліку. Прысутнічаць на папярэдніх яму не дазволілі як бягучыя неадкладныя справы, якія не лічыў магчымым кінуць (перадусім праца над дапрацоўкай «Капіталу»), так і праблемы са здароўем.

Па мерках таго часу, калі жыццё сярэднестатыстычнага мужчыны доўжылася каля 50 гадоў, Энгельс быў ужо вельмі пажылым чалавекам. Яму было за 70, і сілы пакідалі яго. З'явілася пухліна шыйных залозаў. Спадзеючыся на добрае ўздзеянне марскога паветра, палову чэрвеня і амаль увесь ліпень 1895 года ён правёў у Істбарне на ўзбярэжжы праліва Ла-Манш, але 24 ліпеня ў суправаджэнні аўстрыйскага сацыял-дэмакрата і лекара Віктара Адлера вярнуўся ў Лондан. Неўзабаве ў яго прапаў голас, а есці ён мог толькі вадкую ежу. З жніўня Энгельс страціў прытомнасць, а 5-га адышоў у вечнасць.

Сваім распарадчыкам яшчэ 14 лістапада 1894 года ён наказаў, каб цела яго «было крэміравана, а прах... быў апушчаны ў мора пры першай магчымасці».

Ён любіў мора. Марское паветра бадзёрыла яго. У 67-гадовым узросце ён двойчы пераплыў на параходзе Атлантычны акіян і пісаў: «Я адчуваю сябе памаладзелым прынамсі гадоў на пяць». Ягоны прах апусцілі ў мора ў Істбарне за пяць міляў ад берага. ◆

## Яго тастаменты

Энгельс склаў чатыры тастаменты. Першы — ідэйны. Для сацыял-дэмакратыі XX і XXI стагоддзяў вялікае значэнне мае яго палітычнае завяшчанне, яго апошнія працы. З імем Энгельса звязваюцца такія паняцці, як «позні марксізм» і «заходні марксізм».

Тры тастаменты тычыліся матэрыяльнай спадчыны Энгельса. Паводле першага, яго адзіным спадкаемцам меўся быць Карл Маркс. Але пасля смерці Маркса, якога Энгельс перажыў на 12 гадоў, ён напісаў новы тастамент (а затым падкарэктаваў і яго, таму лічыцца, што ўсяго завяшчанняў было чатыры), у якім прызначыў сваімі спадкаемцамі Марксавых дачок Лауру і Элеанору, дзяцей памерлай Марксавай дачкі Жэні і Ленхен Дэмут.

З тастамента можна даведацца, што ў лонданскім Юніён-банку на рахунку Энгельса заставалася каля 4 тысяч фунтаў стэрлінгаў, або звыш 300 тысяч фунтаў па сучасных мерках. Меліся ў яго таксама дзяржаўныя каштоўныя паперы і акцыі. Энгельс быў чалавекам заможным.

750 фунтаў ён пакінуў сваім тром распарадчыкам: адвакату Сэмюэлу Муру, Эдуарду Бернштайну і Луізе Каўцкай, першай жонцы Карла, якая пасля Ленхен вяла яго гаспадарку. Луізе адыходзіла ўся рухомая маёмасць у доме, акрамя грошай і каштоўных папер.

210 фунтаў Энгельс завяшчаў свайму лекару Людвігу Фрайбергеру (другому мужу Луізы), сядзелцы і кухарцы. 1 000 фунтаў ахвяраваў нямецкім сацыял-дэмакратам на правядзенне выбарчых кампаній. Нямецкай сацыял-дэмакратыі ён аддаваў усе кнігі, якія будуць у доме на момант смерці, і аўтарскія правы на свае працы. Самую вялікую суму — 2 230 фунтаў — Энгельс адпісаў Элен Рошэр, пляменніцы Мэры і Лізі Бёрнс.

Асобна Энгельс агаварыў: калі ў яго паперах знойдуцца запісы пра грошы, якія ён даваў Элен Рошэр і яе мужу, а таксама дочкам Маркса, то гэтыя грошы трэба лічыць добраахвотнымі дарамі з яго, Энгельса, боку; вяртанню такія грошы не падлягаюць.




**Сяброўскія пасядзелкі ў 1893-м, за два гады да смерці Энгельса.** Злева ад пазнавальна барадатага Фрыдрыха сядзіць Клара Цэткін.




**Познегэдээраўскі (1986 год) помнік Карлу Марксу і Фрыдрыху Энгельсу адрозніваўся ад тыпова савецкіх сваёй неартадаксальнай эстэтыкай.** Пасля падзення ГДР немцы пакінулі помнікі Марксу і Энгельсу і некаторыя назвы вуліц у іх гонар. У адрозненне ад Леніна, Дзяржынскага і да тых падобных, у Нямеччыне іх не адносяць да таталітарнай спадчыны. Праўда, у камуністычныя часы гэты помнік стаяў на адной з цэнтральных плошчаў, а пасля яго перанеслі ў бліжэйшы сквер.

# Энгельс і позні марксізм

**Фрыдрыха Энгельса называюць класікам марксізму. Але сам Энгельс слова «марксізм» браў у іранічнае двукоссе. І нагадваў словы Карла Маркса: «Я ведаю толькі тое, што *сам* я не марксіст». Піша Анатоль Сідарэвіч.**

Нягледзячы на адмахванне Энгельса ад марксізму, ён, несумненна, і быў сапраўдным бацькам гэтай ідэалогіі. Трапіўшы ў 1842 годзе другі раз у Англію, ён пачаў пільна прыглядацца да эканамічнага і грамадскага жыцця краіны. Вынікам сталі класічныя працы: «Становішча рабочага класа ў Англіі» і «Накіды да крытыкі палітычнай эканоміі». Вось гэтая другая праца 23-гадовага дэндзі зрабіла вялікі ўплыў на Маркса, і той у 1859-м напіша свой твор, загаловак якога нагадвае загаловак Энгельсавага: «Да крытыкі палітычнай эканоміі». Так з’явілася аснова для Марксавага «Капіталу».

Энгельсу належыць і прыярытэт у фармуляванні пастулатаў камунізму.

У № 3/2020 «Нашай гісторыі» ў артыкуле «Марксізм заходні і марксізм усходні: Ленін і яго рэвалюцыя насуперак Марксу» мы адзначалі, што «з пункту гледжання артадаксальных марксістаў, ленінізм — гэта рэвізія марксізму і нават яго скажэнне. Са з’яўленнем ленінізму адбыўся падзел марксізму на заходні і ўсходні. Ленін — заснавальнік усходняга марксізму. З ленінізму выраслі сталінізм, мааізм, хаджаізм і іншыя таталітарныя плыні. Ленінізм вырас з *ранняга* марксізму і з расійскага народніцтва».

А вось Энгельс — фактычны ідэолаг позняга, заходняга марксізму, з якім шляхі ленінізму разышліся. Таму, хоць Маркс і Энгельс у Савецкім Саюзе мелі культ, параўнальны з ленінскім, ніяк нельга сказаць, што савецкае грамадства жыло і развівалася ў адпаведнасці з тымі высновамі, да якіх прыйшлі гэтыя мысляры.

Як Маркс, так і Энгельс цягам жыцця няспынна ідэйна развіваліся, і нярэдка бывала так, што яны карэктавалі ці ўвогуле мянялі свае погляды па

розных пытаннях пад уплывам новых фактаў і абставін. Іх паслядоўнікі з ліку заходніх марксістаў гэта ўлічвалі, а вось усходнія (Ленін і яго паплечнікі) нярэдка ігнаравалі, упарта несучы на сваіх шчытах пастулаты ранняга марксізму, ад якіх пазней адмовіліся самі іх стваральнікі. Ніжэй — разбор некаторых найбольш прынцыповых пытанняў, няўлік расійскімі бальшавікамі поглядаў па якіх позніх Маркса і Энгельса прывялі да фарміравання савецкага таталітарнага рэжыму і ўсяго таго, што з ім звязана.

**Як Маркс, так і Энгельс цягам жыцця няспынна ідэйна развіваліся і мянялі погляды**

### Камунізм і сацыялізм

Камунізм Маркс і Энгельс разглядалі як частку сацыялізму, а сам сацыялізм падзялялі на дэмакратычны (які робіць стаўку на мірныя, парламенцкія метады) і рэвалюцыйны. Таму не трэба здзіўляцца, што, пішучы ў 1888 годзе прадмову да англійскага выдання «Маніфеста Камуністычнай партыі», Энгельс назваў яго самым распаўсюджаным творам *сацыялістычнай* літаратуры. І ў той самай прадмове Энгельс тлумачыў, што сацыялізм у 1847–1848 гадах, калі пісаўся маніфест, «быў “рэспектабельны”, а камунізм — якраз наадварот», «сацыялізм быў буржуазным рухам, камунізм — рухам рабочага класа». Вось чаму аўтары назвалі свой твор «Маніфестам Камуністычнай партыі».

З цягам часу сацыялізм стаў ідэалогіяй рабочага руху. Камунізм жа як плынь у сацыялістычным руху паступова адыходзіў на ўзбочыну. І толькі ў Расіі ён стаў прыкметнай сілай і ў час Першай сусветнай вайны аформіўся як самастойная партыя.

### Развіццё поглядаў

У 1887 годзе рыхтавалася перавыданне напісанага ў 1845-м Энгельсавага «Становішча рабочага класа ў Англіі». У прадмове да кніжкі аўтар напісаў: «Я наўмысна не выкасаваў з тэксту многія прадказанні, у тым ліку прадказанне блізкасці сацыяльнай рэвалюцыі ў Англіі, на якое я адважыўся пад уплывам сваёй юнацкай гарачнасці».

Бадай, тое ж Энгельс мог сказаць пра многія свае ранейшыя сцверджанні, у тым ліку і пра некаторыя палажэнні Камуністычнага маніфесту. У прыватнасці, ён мог прызнаць, што разам з Марксам перабольшваў пасіянарнасць і згуртаванасць пралетарыяту, не ўлічваў яго падзел на прафесійныя, кваліфікацыйныя, этнічныя і рэлігійныя групы, псіхалогію гэтых груп.

Маладыя Энгельс і Маркс ігнаравалі магчымасць гуманізацыі капіталізму. У 1887 годзе позні Энгельс адзначаў: па меры развіцця капіталізму «ў фабрычнай вытворчасці, як відаць, усталёўваліся нейкія нормы маралі». Гуманізацыя, можна сцвярджаць, адбывалася не так з добрых намераў буржуазіі, як пад ціскам рабочага руху і ліберальных інтэлектуалаў, якія гэтаму руху спачувалі. Да таго ж развіццё капіталізму вяло да ўсеагульнай адукацыі.

**Пад канец XIX стагоддзя пралетарыяту, апісанага Марксам і Энгельсам у 1840-х, у развітых краінах ужо не было**

Кіроўныя колы заходніх краін лічылі за лепшае пайсці на саступкі рабочым раней, чым пачнуцца сацыяльныя хваляванні. Так, у Нямеччыне, каб не даць сацыялістам стаць самай уплывовай сілай, урад сам рэалізаваў важныя пункты сацыялістычнай праграмы: увёў страхаванне ад няшчасных выпадкаў, ад хваробаў, інваліднасці і пенсійнае страхаванне. У Вялікабрытаніі буржуазія дзялілася звышпрыбыткамі, атрыманымі ад эксплуатацыі калоній. Таму пад канец XIX стагоддзя пралетарыяту, апісанага Марксам і Энгельсам у 1840-х, у развітых краінах ужо не было.

### Камунізм — гэта рух

Энгельс, як паслядоўнік Гегеля, ведаў, што ўсё ёсць станаўленне і бесперапыннае развіццё. Таму ён задумаўся, ці магчымы такі стан грамадства, на якім далейшае яго развіццё, удасканаленне спыніцца. І ў 1888 годзе ў працы «Людвіг Феербах і канец класічнай нямецкай філасофіі» ён даў адказ: «Гісторыя... не можа ►

атрымаць канчатковае завяршэнне ў нейкім дасканалым, ідэальным стане чалавецтва». Дасканалае грамадства, пісаў ён, можа існаваць «толькі ў фантазіі».

А калі так, то якая тады канцавая мэта сацыялістаў? Аднойчы ў Энгельса так і запыталіся, на што ён адказаў: «У нас няма канцавой мэты. Мы прыхільнікі пастаяннага, бесперапыннага развіцця».

Праз некалькі гадоў Энгельсаў памочнік і душапрыказчык Эдуард Бернштайн напіша: «тое, што разумеюць... пад “канцавой мэтай сацыялізму”, мае для мяне... мала сэнсу і цікавасці: гэтая мэта, што б яна ні азначала, для мяне — нішто, рух — усё. І пад рухам я разумею як усеагульны рух грамадства, г. зн. сацыяльны прагрэс, так і палітычную і эканамічную агітацыю і арганізацыю для ўздзеяння на гэты прагрэс».

На Эдуарда Бернштайна накінуліся ўсе асноўныя тагачасныя марксісцкія ідэолагі, але, па сутнасці, яны палемізавалі з Энгельсам. І нават з Марксам, які яшчэ ў 1846 годзе разам з Энгельсам пісаў: «Камунізм для нас не стан, які павінен быць усталяваны, не ідэал, з якім павінна ўзгадняцца рэчаіснасць. Мы называем камунізмам рэальны рух, які знішчае цяперашні стан».

У гэтай цытаце з «Нямецкай ідэалогіі» слова «камунізм» лёгка памяняць на слова «сацыялізм». І наогул, можна сказаць, што сацыялізм — гэта канвенцыйная назва посткапіталістычнага грамадства.

Тое, што пісалі Маркс, Энгельс і Бернштайн, цяпер фармулюецца так: мы не ведаем канцавой мэты гісторыі, нашай задачай з'яўляецца штодзённая барацьба за сацыяльны прагрэс і за тое, што гэтаму прагрэсу спрые.

## Ад буржуазнага да сацыялістычнага

Маладыя Энгельс і Маркс сутнасць сацыялізму сфармулявалі ў Камуністычным маніфесце так: **асацыяцыя, якая прыходзіць на месца буржуазнага грамадства з яго класамі і класавымі супрацьлегласцямі і ў якой свабоднае развіццё кожнага з'яўляецца ўмовай свабоднага развіцця ўсіх.**

Праз 30 гадоў Энгельс у працы «Анты-Дзюрынг» пісаў пра сацыялізм: гэта скачок з царства неабходнасці ў царства свабоды, калі «людзі пачнуць зусім свядома самі тварыць сваю гісторыю», калі прыведзеныя імі ў рух грамадскія прычыны будуць у пераважнай і ўсё больш узрастаючай меры весці да тых наступстваў, якіх людзі жадаюць. Такім чынам, свабода — гэта ў значнай меры і свабода ад тых абмежаванняў, якія на чалавека накладаюць прырода і гісторыя.

І калі раннія Энгельс і Маркс сцвярджалі, што пераход да сацыялізму магчымы толькі праз гвалтоўнае звяржэнне тагачаснага ладу, то ў 1890 годзе адзін з лідараў нямецкіх сацыялістаў, Вільгельм Лібкнехт, агучыў тэзіс аб урастанні капіталістычнага грамадства ў сацыялістычнае. І што на гэта адказаў Энгельс? А Энгельс не асабліва запярэчыў: «Можна сабе ўявіць, што старое грамадства магло б мірна ўрасці ў новае ў такіх краінах, дзе народнае прадстаўніцтва засяроджвае ў сваіх руках усю ўладу, дзе канстытуцыйным шляхам можна зрабіць усё што заўгодна, калі толькі маеш за сабой большасць народа».

## А што з узброеным паўстаннем?

З 1878 года ў Нямеччыне сацыялісты былі пад забаронай. Спачатку ў Швейцарыі, а потым у Англіі яны выдавалі нелегальную газету «Сацыял-дэмакрат» (*Der Sozialdemokrat*). У 1890-м партыя легалізавалася, і патрэба выдаваць гэту газету адпала. У развітальным слове да чытачоў Энгельс пісаў, што сацыялістам цяпер трэба спрабаваць абыходзіцца толькі законнымі сродкамі барацьбы, бо такім чынам «дасягаюцца найбольшыя вынікі». Калі ўлада будзе дзейнічаць супрацьпраўнымі метадамі, то і сацыял-дэмакратыя вымушана будзе стаць на незаконны шлях. Далей ён апеляваў да брытанскага права, якое дапускае паўстанне ў тым разе, калі ўлада выходзіць за рамкі закона. Дык вось, калі ўлады Нямеччыны выйдуць за рамкі закона, ці будзе партыя будаваць барыкады, апеляваць да сілы зброі? «Такое задавальненне сваім ворагам яна пэўна не даставіць», — адказваў Энгельс.

Ва ўводзінах да Марксавай кнігі «Класавая барацьба ў Францыі...» (1895) Энгельс адзначаў, што паўстанне тыпу 1848 года ў значнай меры састарэла. Бо супраць паўстанцаў будзе пушчана войска, якое мае гарматы і добра забяспечаныя ды вывучаныя сапёрныя часткі. Да таго ж барыкады маюць больш маральнае, чым матэрыяльнае значэнне, пісаў Энгельс. Барацьба на барыкадах паспяховая, калі войска стомленае, кепска забяспечанае, калі жаўнеры адмаўляюцца страляць, а ў камандзіраў прапала рашучасць. Усе гэтыя моманты трэба ўлічваць, перш чым пачынаць паўстанне. З другога боку, яно можа быць выгаднае паноўным класам, якія іншы раз правакуюць народ, «хочуць завабіць нас неадменна туды, дзе страляе ружжо і сячэ шабля».




WIKIMEDIA COMMONS

**Назву ў гонар Фрыдрыха Энгельса з 1931 года і дагэтуль носіць даволі вялікі горад (насельніцтва каля 230 тысяч чалавек) каля расійскага Саратава.** Да гэтага ён называўся Пакроўск, а ў 1922–1941 гадах быў сталіцай спачатку Аўтаномнай вобласці, а пасля Аўтаномнай рэспублікі немцаў Паволжа. Рэспубліку пасля пачатку ў 1941 годзе вайны з Нямеччынай ліквідавалі і пасля ніколі не аднавілі, а вось назва горада так і засталася.
Сам Энгельс то, відаць, не быў бы ў захапленні ад называння ва ўласны гонар цэлага горада ў расійскай правінцыі, бо з'яўляўся перакананым праціўнікам узвялічвання асобных людзей, а тым больш сябе самога. У адной з прац ён пісаў: «І Маркс, і я, мы заўсёды былі супраць усялякіх публічных дэманстрацый у дачыненні асобных людзей, за выключэннем толькі тых выпадкаў, калі гэта мела якую-небудзь значную мэту; а больш за ўсё мы былі супраць такіх дэманстрацый, якія пры нашым жыцці тычыліся асабіста нас».

І яшчэ адна цытата: «Мы, “рэвалюцыянеры”, “звяргальнікі”, мы маем значна большыя поспехі з дапамогаю легальных сродкаў, чым з дапамогай нелегальных ці з дапамогай перавароту».

## Дыктатура пралетарыяту

Гэтае паняцце ўвёў у тэорыю сацыялізму Карл Маркс. Энгельс у працяг думкі «спецыфічнай формай для дыктатуры пралетарыяту» назваў дэмакратычную рэспубліку. Па іх разуменні, дыктатура пралетарыяту — гэта ўлада рабочага класа, але з умовай захавання дэмакратычных нормаў і працэдур, у тым ліку свабодных выбараў. Менавіта з гэтых пазіцый крытыкавалі бальшавікоў за іх гвалтоўную «дыктатуру пралетарыяту» еўрапейскія паслядоўнікі Маркса і Энгельса.

## Ці могуць сацыялісты быць нацыяналістамі?

Маладыя Энгельс і Маркс пісалі, што рабочыя не маюць айчыны. Яны лічылі, што ў будучыні пралетарыят, узяўшы ўладу, стане адным нацыянальным класам, і гэта паскорыць знікненне міжнацыянальных супярэчнасцяў. «У той меры, у якой будзе знішчана эксплуатацыя аднаго індывідуума другім, знішчана будзе і эксплуатацыя адной нацыі другою». Гэты тэзіс стаў для пэўнай часткі марксістаў догмаю.

Сталы Энгельс жыў у перыяд, калі завяршаўся падзел свету і наспявала барацьба за яго перадзел. Ён бачыў, што ў каланізацыі актыўны ўдзел бралі і сыны рабочага класа, што рабочыя Вялікабрытаніі, Францыі ды іншых краін мелі з каланізацыі выгады. Ён бачыў, што паміж працоўнымі метраполій і калоній, пануючых і прыгнечаных нацый не можа быць інтэрнацыяналізму. «Інтэрнацыянальны рух пралетарыяту, — пісаў ён, — наагул магчымы толькі ў асяроддзі самастойных нацый». Пішучы аб прыгнечаных Ірландыі і Польшчы, Энгельс заявіў, што гэтыя нацыі «не толькі маюць права, але і абавязаныя быць нацыянальнымі, перш чым яны стануць інтэрнацыянальнымі». Тое ж, пэўна, лагічна датычыла і Беларусі, і іншых «ускраін Расійскай імперыі».

Лагічна, што сталы Энгельс адмаўляў тэзіс ранняга марксізму пра тое, што сацыяльнае вызваленне павінна папярэднічаць нацыянальнаму. Ён пісаў: «Ліквідацыя нацыянальнага ўціску з’яўляецца асноўнай умовай усякага здаровага і свабоднага развіцця. Польскіх сацыялістаў, якія не ставяць вызваленне краіны на першае месца ў сваёй праграме, я параўнаў бы з нямецкімі сацыялістамі, якія б не жадалі патрабаваць у першую чаргу адмены закона супраць сацыялістаў, увядзення свабоды друку, саюзаў і сходаў. Для таго каб мець магчымасць змагацца, патрэбна спачатку глеба пад нагамі, паветра, святло і прастора. Інакш усё — балбатня».

## У чым ён памыляўся

Працяглы час ад савецкіх людзей хавалі працу Энгельса «Замежная палітыка расійскага царызму» (1890). У гэтай працы ▸

ён пісаў, што Расійская імперыя «з'яўляецца галоўным аплотам, рэзервовай пазіцыяй і разам з тым рэзервовай арміяй еўрапейскай рэакцыі», што «адно ўжо яе пасіўнае існаванне ўяўляе для нас пагрозу і небяспеку», што «сваім пастаянным умяшальніцтвам у справы Захаду гэтая імперыя затрымлівае і парушае нармальны ход нашага развіцця і робіць гэта з мэтаю заваявання для сябе такіх геаграфічных пазіцый, якія забяспечвалі б ёй панаванне над Еўропай і тым самым зрабілі б немагчымай перамогу еўрапейскага пралетарыяту».

Энгельс думаў, што пасля падзення царызму замежная палітыка Расіі памяняецца. Таму, пісаў ён, «Заходняя Еўропа наагул і заходнееўрапейская рабочая партыя асабліва зацікаўленыя, вельмі глыбока зацікаўленыя ў перамозе расійскай рэвалюцыйнай партыі». І якраз тут ён моцна памыліўся.

### Цэнзура выключаецца

Тыя, хто жыў у СССР, ведаюць, што такое партыйнасць навукі, літаратуры і мастацтва. Нават дысертацыю па матэматыцы нельга было абараніць без цытат з Маркса, Энгельса, Леніна, партыйных пастаноў і прамоў дзейнага генеральнага сакратара КПСС. Дык вось, практыка бальшавікоў цалкам разыходзілася з тым, як да навукі падыходзіў Энгельс.

У 1875 годзе ў нямецкім горадзе Гота, што ў Цюрынгіі, праходзіў аб'яднаўчы з'езд дзвюх нямецкіх рабочых партый. Маркс, прачытаўшы праект праграмы новай і адзінай партыі, напісаў даволі непрыемную для яе аўтараў крытыку, якую так і назвалі — «Крытыка Гоцкай праграмы». Кіраўнікі партый дзеля таго, каб працэс




**Выявы гэтай тройцы былі ў Савецкім Саюзе будзённасцю, а таму ў масавай свядомасці гэтыя тры дзеячы ўспрымаліся ледзь не як адзінае цэлае.** Але насамрэч ленінізм быў не непасрэдным працягам ідэяў Маркса і Энгельса, а хутчэй адхіленнем ад іх.

аб'яднання прайшоў паспяхова, схавалі Марксаў тэкст пад сукно. «Крытыку Гоцкай праграмы» апублікавалі толькі ў 1891-м, калі нямецкія сацыял-дэмакраты рыхтаваліся прыняць новую праграму партыі.

**Творчая спадчына Фрыдрыха Энгельса і яго паслядоўнікаў у значнай меры стала асновай для таго, што называюць заходнім марксізмам**

Публікацыя ў партыйным «Новым часопісе» (*Die Neue Zeit*) выклікала абурэнне партыйных правадыроў, пачуліся заклікі прыструніць рэдактара Карла Каўцкага. І на абарону свабоды слова ў партыйным жыцці выступіў Энгельс. Ён пісаў: «ніякая партыя той ці іншай краіны не можа прымусіць мяне маўчаць, калі я вырашыў гаварыць... Вам, партыі, *патрэбна* сацыялістычная навука, а яна не можа існаваць без свабоды развіцця. Тут ужо даводзіцца мірыцца з усякімі непрыемнасцямі, і лепш за ўсё рабіць гэта з годнасцю, без нервовасці». А ў лісце да Каўцкага ўдакладняў, што «ўсякая партыйная цэнзура выключаецца».

Творчая спадчына Фрыдрыха Энгельса і яго паслядоўнікаў у значнай меры стала асновай для таго, што называюць заходнім марксізмам, а заходні марксізм нароўні з іншымі філасофскімі, сацыялагічнымі, эканамічнымі і палітычнымі вучэннямі і цяпер уплывае на грамадскую думку заходніх краін. Пэўны ўплыў ён мае і на посткамуністычнай прасторы, у тым ліку беларускай. ◆

# «...пом...емуб...утра»

**Расійскія навукоўцы расшыфравалі загадкавы надпіс на цагліне XII стагоддзя з Гродна, піша археолаг Наталля Кізюкевіч.**


ФОТА НАТАЛЛІ КІЗЮКЕВІЧ

**Каму цікава прачытаць навуковую версію тэксту, пераходзьце па спасылцы:**



Археолагі час ад часу знаходзяць надпісы на разнастайных артэфактах з беларускіх гарадоў эпохі Сярэднявечча. Яны могуць быць нанесеныя на костку, керамічны посуд або проста на сцяну. Часцей за ўсё гэта нейкія асобныя літары або словы, скласці з якіх сэнсоўны тэкст амаль немагчыма.

Здавалася б, тое самае адбудзецца і з кавалкам цэглы, які мы адшукалі падчас раскопак на Старым замку ў Гродне. Цагліна была знойдзена ў парэштках печкі XIV стагоддзя, але гэта было яе другаснае выкарыстанне. Сама цагліна адносілася да тыпу так званай «плінфы» і паходзіла з нейкага будынка, узведзенага ў Гродне не пазней за канец XII стагоддзя і разбуранага пры невядомых абставінах у наступныя некалькі дзесяцігоддзяў.

На верхняй пасцелі гэтай плінфы яшчэ да абпальвання быў нанесены надпіс, ад якога ацалелі толькі частковыя словы: *«.../пом.../емуб.../–утра»*.

Цагліна яшчэ доўга магла б чакаць свайго даследчыка ў фондах музея, аднак дапамаглі сацыяльныя сеткі. Экспанат у іх убачылі расійскія навукоўцы Андрэй Вінаградаў і Аляксей Гіпіус, якія даволі хутка расчыталі надпіс і зрабілі зусім нечаканыя высновы. Аказалася, што на гродзенскай цагліне напісаны фрагмент аднаго з біблейскіх псалмоў, які па-беларуску гучыць: «Бог пасярод яго; ён не завагаецца: Бог дапаможа яму з самай раніцы».

І гэта не проста прыгожыя словы! Паводле старадаўніх аўтараў, гэтыя радкі візанційскі імператар Юстыніян загадваў на грэчаскай мове адбіваць спецыяльным штампам на некаторых цаглінах, якія ўкладаліся ў аркі сабора Святой Сафіі ў Канстанцінопалі. Словы з псалма павінны былі абараніць царкву ад разбурэння падчас землятрусу.

Да гродзенскай знаходкі на гісторыка-культурным абшары былой Кіеўскай Русі такі надпіс быў знойдзены толькі на мазаіцы сабора Святой Сафіі ў Кіеве. Але і ён таксама быў напісаны па-грэчаску. А тут аказалася, што гэтая традыцыя жыла ў далёкім паўночным горадзе за сотні кіламетраў ад Кіева і тысячы ад сталіцы Візантыі. Пры гэтым дойліды пісалі псалом не па-грэчаску, а па-славянску, добра разумеючы сэнс таго, што і для чаго пішуць.

Мова надпісу дала магчымасць не толькі зразумець яе змест, але і вызначыць час напісання: 1160–1200 гады. Гэтая дата добра кладзецца ў меркаваны час пабудовы большасці будынкаў з плінфы ў Гродне — так званага княжацкага церама, Ніжняй царквы і Барысаглебскай царквы на Каложы.

Такім чынам, аказалася, што ў Гродне XII стагоддзя не толькі будавалі праваслаўныя святыні, але і выкарыстоўвалі пры гэтым ранневізантыйскую традыцыю напісання «ахоўных» тэкстаў. Яны павінны былі абараніць храм ад землятрусаў. Якія, як вядома, адбываюцца на Гродзеншчыне вельмі рэдка. ◆

SHUTTERSTOCK.COM, BY SUNRISE HUNTER

# Любім, любец, любка

## Любіста ў кухні і аптэчцы

**Любіста настолькі пасуе для араматызацыі булёнаў, што яе нават называюць «зеллем *Maggi*». А вось у народнай традыцыі яе выкарыстоўвалі, каб закахаць у сябе абранніка ці абранніцу. Піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

Любіста ле́кавая, або аптэчная (*Levisticum officinale*) — здаўна вядомая ў культуры большасці еўрапейскіх народаў зёлка, галоўны кампанент розных «эліксіраў кахання». Беларусь таксама не абмінула гэтая міфалогія, хоць цяперашняе пакаленне амаль зусім страціла памяць пра яе.

### Немцы расліну «палюбілі»

Старажытнарымскі лекар Дыяскарыд назваў гэтую расліну *ligusticum*, лігурыйскай салерай. Пазней іншы старажытнарымскі лекар Гален памылкова змяніў назву на *levisticum*, якая і замацавалася ў афіцыйнай лаціне. У нямецкай мове лацінскае слова трансфармавалася ў *liebstock*. *Liebe* па-нямецку — каханне, і магчыма, што менавіта дзякуючы ланцугу фанетычных памылак і выпадковай сугучнасці і нарадзілася асацыяцыя расліны з мілоснымі чарамі, якая атрымала трывалую прапіску ў агульнаеўрапейскай культуры.

У многіх іншых еўрапейскіх мовах назва расліны таксама звязаная з каханнем: англійская *lovage*, дацкая *løvstikke*, чэшская *libeček*. Наўпрост з нямецкай мовы запазычаная руская (яна ж і ўкраінская) назва расліны *любисток* — хутчэй за ўсё, даволі позна, ужо ў пятроўскія часы ці нават пазней.

А ў Рэчы Паспалітай любіста з'явілася на некалькі стагоддзяў раней. Славуты польскі знаўца зёлак Шыман Сырэньскі пісаў у сваім выдадзеным у 1613 годзе ў Кракаве «Зельніку»: «Свойскі любчык, наш такі звычайны, добра знаёмы ўжо не толькі гарадскім, але і сельскім жыхарам, і ў самых занядбаных садах яго няцяжка знайсці. Бо корань яго не гіне ў зямлі да дванаццаці гадоў».

Польская назва «любчык» — адаптацыя нямецкай, дакладней, прыстасаванне пад назву канкрэтнай расліны слова, якое ў польскай мове азначае «стымул для кахання», «прываротнае зелле». Так даўней называлі і іншыя раслінныя (і не толькі) афрадызіякі. Дарэчы, у беларускіх дыялектах назва «любчык» таксама часта сустракаецца.

**Любіста** — высокая (да 2 м) шматгадовая травяністая расліна са светла-жоўтымі кветкамі. Яе моцны даўкі водар нагадвае водар сельдэрэю, сваячкай якога яна і з'яўляецца. Сушаная трава пахне падобна да булённых кубікаў *Maggi*, бо, здаецца, уваходзіць у іх склад. Таму яе часта жартоўна называюць «зеллем *Maggi*».
У лекавых і кулінарных мэтах выкарыстоўваюцца ўсе часткі любісты: зеляніна, карэнне, насенне. Ва ўсіх іх утрымліваецца шмат эфірных алеяў, адсюль такі моцны водар: востры, рэзкі, з лёгкімі лімоннымі ноткамі. На першым годзе жыцця расліна ўтварае вялікую разетку лістоў з доўгімі чаранкамі, падобнымі да лістоў сельдэрэю. У наступныя гады да іх дадаюцца сцёблы з кветкамі, на якіх лістоў амаль няма. Цвіце любіста амаль усё лета, з чэрвеня па жнівень. Прарадзімай любісты лічыцца сумежжа сучасных Ірана і Афганістана, хаця яшчэ ў Антычнасці яна распаўсюдзілася па ўсім Міжземнамор'і. А ў хрысціянскую эпоху апанавала ўсю Еўропу, ужо як культурная расліна.

Беларускае літаратурнае слова «любіста» вызначылася ў 1920-я ў працэсе кадыфікацыі нацыянальнай батанічнай тэрміналогіі з шэрагу іншых народных назваў, сярод якіх таксама любісцік, сардэчнік, любім, любец, любка і іншыя.

### Замест зерня кавы

Лічыцца, што найбольшую ролю ў распаўсюджванні любісты ў Еўропе адыгралі бенедыкцінцы, якія доўгі час былі галоўным, самым шматлікім з усіх манаскіх ордэнаў і любілі высаджваць расліну ў сваіх аптэкарскіх гародах. Яны быццам бы жавалі корань любісты, каб не заснуць падчас малітваў і чуванняў, як сёння некаторыя дзеля гэтага ж жуюць кававае зерне.

А святая Хільдэгарда Бінгенская, славутая нямецкая абатыса-бенедыкцінка XII стагоддзя, пакінула па сабе двухтомную медычную энцыклапедыю (*Liber subtilitatum diversarum naturarum creaturarum*, паміж 1150 і 1160), у якой не абышла ўвагай і любісту. Якую раіла як сродак, у прыватнасці, супраць кашлю, болю ў страўніку і хваробаў сэрца.

Асабліва папулярнай любіста зрабілася ва ўкраінскай культуры — і з-за сваіх гастранамічных, і з-за лекарскіх, і з-за магічных уласцівасцяў, тым больш што клімат Украіны пасуе для яе вырошчвання. Адпаведна, і на беларускім, памежным з Украінай, Палессі любісту лепш ведалі і часцей ужывалі, чым на поўначы Беларусі. Але, з іншага боку, на Віленшчыне яна таксама была адной з найбольш папулярных народных зёлак. Магчыма, гэта тлумачыцца блізкасцю сталіцы з яе ўніверсітэтам і шматлікімі кляштарамі, якія ў часы барока



WIKIMEDIA CAMMONS

**Любіста лекавая.** Малюнак з батанічнай кнігі «Медыцынскія расліны Кёлера», 1887 год.

## Найчасцей любісту ўжывалі на Палессі

сфарміравалі спецыфічную народна-каталіцкую культуру — сплаў сакральных і апакрыфічных хрысціянскіх ведаў і міфаў з народнымі вераваннямі.

### Зелле прываротнае

Спосабы выкарыстання любісты як прываротнага сродку па ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай былі больш-менш падобнымі. Нованароджанае немаўля — і хлопчыкаў таксама — лічылася карысным выкупаць у адвары любісты, каб у будучыні гарантаваць яму поспех у процілеглага полу. ▸

**Для фітатэрапіі**
асабліва каштоўны корань любісты. Яго збіраюць або ўвосень, калі лісце ўжо пажоўкла, або вельмі рана ўвесну, да пачатку вегетацыі. Ёсць павер'е, што перад пачаткам цвіцення корань робіцца атрутным.
Свежы корань любісты ўжываюць пры ацёках, цыстыце. Прэпараты з яго выкарыстоўваюць пры алергічных паражэннях скуры, экзэме, псарыязе, пры захворваннях печані, нырак, пры атлусценні, рэўматызме. Яны абуджаюць апетыт, здымаюць кішэчныя колікі, маюць ветрагоннае і антысептычнае дзеянне. Духмяная трава — выдатны сродак для падтрымання вастрыні зроку. Прэпараты з любісты таксама ўжываюць для лячэння гіпертаніі, нястраўнасці і нават раку. У народнай медыцыне раслінай таксама лечаць падагру, хваробы сэрца, нервовай сістэмы, мігрэні.

▶ Пры дасягненні паўналецця дзяўчаты пачыналі высаджваць у гародах любісту (як і руту, пра якую гл. артыкул у № 9/2020 «Нашай гісторыі»), прычым стараліся, каб яе немагчыма было абмінуць пры ўваходзе ў хату. Водар расліны мусіў схіліць госця — патэнцыйнага абранніка — да сардэчнай «хваробы». У параўнанні з рутай, якая сімвалізавала больш высокі, сімвалічны, адухоўлены кампанент кахання, любіста адказвала за груба-пачуццёвы, фізіялагічны яго бок. Упадабанаму юнаку можна было ўпотай дадаць адвар або сушаны парашок з любісты ў напой або ўкласці лісток у ягоную кішэню. Можна было самой вымыць твар і валасы ў адвары любісты або цішком насіць лісток пад пахай.

Асабліва магічныя ўласцівасці прыпісваліся любісце, скрадзенай з гародчыка шлюбнай пары, вядомай сваім шчаслівым сямейным жыццём. Калі будучы шлюб быў ужо вырашанай справай, не шкодзіла ўшыць любісту ў падол вясельнай сукенкі або ўплесці ў вянок — тады муж мусіў кахаць даўжэй і мацней. Нездарма ва Украіне расліну любоўна звалі таксама «кахай-мяне-не-пакінь». А калі муж надоўга з'язджаў з дому, варта было зашыць лісток або сцябло расліны ўжо ў ягоную вопратку або непрыкметна ўкласці ў боты.

## З ушытай любістай муж мусіў кахаць даўжэй і мацней

Зрэшты, апошняе маглі зрабіць і самі мужчыны: лічылася, што любіста прыносіць палёгку ўтомленым ад доўгай хады нагам.

### Каб хоць русалку не прывабіць

Увайшла любіста і ў каляндарныя абрады. Напрыклад, яе любілі ўплятаць у купальскія і траецкія вянкі, асабліва ва Украіне ды на Беларускім Палессі. А на русальным, восьмым па Вялікадні, тыдні, наадварот, строга сачылі, каб у абрадавыя вянкі любіста не трапіла. Верагодна, баяліся такім чынам прывабіць русалку, замест таго каб прагнаць яе, бо і русалка, і любіста ўспрымаліся як увасабленне цёмнага, жывёльнага і таму небяспечнага боку кахання.

Народна-каталіцкі каляндар таксама меў асаблівыя дні для ўшанавання магічных і гаючых уласцівасцяў зёлак, але, каб яны не зрабіліся інструментам цёмных сіл, іх абавязкова трэба было асвяціць. Каталікі гэта рабілі на заканчэнне Актавы Божага Цела (60-ы дзень па Вялікадні) і на свята Маці Божай Зельнай (15 жніўня). Праваслаўныя — на Спленне (28 жніўня). Разам з іншымі зёлкамі любіста была адной з найбольш папулярных у гэтыя дні. А вось вера ў тое, што выкапаная цалкам, разам з коранем і сцёбламі, а 6-й гадзіне раніцы 1 кастрычніка любіста спрыяе ўмацаванню шлюбу, залагоджванню канфліктаў у ім, — прыклад хутчэй цёмнага боку народных традыцый, які наўрад ці ўхваляўся цэрквамі.


SHUTTERSTOCK.COM, BY NEVEN KRCMAREK

### Масла з любістай

*Інгрэдыенты:*

- паўпачка масла пакаёвай тэмпературы
- 1,5 лыжкі гарачага малака
- 2 лыжкі свежай здробленай любісты
- зубчык працiснутага часнаку
- шчопаць солі

У гарачае малако дадаць соль, часнок і любісту. Перамяшаць, пасля дадаць масла і зноў добра вымешаць. Пры гэтым важна першымі ў малако дадаць менавіта прыправы, каб яны раўнамерна разышліся.

### Тэрпены і алкіяфталіды

Існуе тэорыя, што тэрпены і алкіяфталіды, якія ўтрымліваюцца ў любісце, могуць павялічваць прыток крыві да палавых органаў і што легенды пра чарадзейныя ўласцівасці расліны як афрадызіяку могуць тлумачыцца менавіта гэтым. Але эксперыментальнага пацвярджэння гэтай тэорыі пакуль няма.
Трохі больш абгрунтаваным лічыцца ўжыванне любісты для паляпшэння жаночай прывабнасці. Настой і выцяжка з яе кораня, дзякуючы эфірным алеям, умацоўваюць валасяныя цыбуліны, паляпшаюць структуру валасоў і надаюць ім асаблівы водар. А таксама чысцяць і танізуюць скуру, аптымізуюць менструальныя цыклы (але менавіта таму медыкі не рэкамендуюць выкарыстоўваць любісту цяжарным, бо яна можа стымуляваць скарачэнне маткі, аж да выкіду).

Любіста была (а можа, і дагэтуль застаецца) адной з найбольш традыцыйных «падвіленскіх» зёлак, якімі гандлявалі на віленскіх кірмашах: Казюках на дзень Святога Казіміра (4 сакавіка) і Юраўскім (існаваў у 1827–1914 як афіцыёзна-праваслаўная альтэрнатыва Казюкам).

**Бабулі на кірмашах гандлявалі любістай, у адрозненне ад іншых зёлак, з-пад крыса, шэптам і саромеючыся, быццам бы гэта быў нейкі тавар «для дарослых»**

Альфонс Высоцкі, міжваенны літаратар, які выкладаў нямецкую мову ў Смаргоні,




***Maggi* не проста так пахне любістай**: зёлка ўваходзіць у склад гэтай папулярнай прыправы.

пакінуў апісанні гэтых кірмашоў з 1930-х і здзіўляўся, што бабулі на іх гандлявалі любістай, у адрозненне ад іншых зёлак, з-пад крыса, шэптам і саромеючыся, быццам бы гэта быў нейкі тавар «для дарослых».

«Кветанька мая квітнеючая, любіста мая веснавая!» — пісаў будучы акадэмік Радзім Гарэцкі ў лісце жонцы Ларысе ў 1951 годзе, але гэта выключна інтымнае, не прызначанае чужым вачам прызнанне.

### Яе пах чуе толькі той, хто закаханы...

З агародаў запахла любіста.
— Любіста пахне, — сказала Манька.
— Што?
— Любіста. Расліна такая.
— Нешта я не чую.
— Не дзіва, яе пах чуе толькі той, хто закаханы.
Ён [Санька] шморгнуў колькі разоў носам.
— О, і я пачуў.
Дзяўчына засмяялася.
— А ты папрыгажэла! — пяшчотна прашаптаў ён.

*Уладзімір Гніламёдаў. «Ліхалецце».*

### І лёгкі грыбны водар

Сучасная беларуская кухня любісту ведае слаба. Польская ж, а асабліва ўкраінская, нямецкая дый іншыя еўрапейскія кухні выкарыстоўваюць розныя часткі расліны вельмі ахвотна.

У першую чаргу свежае або сушанае лісце ўжываецца для араматызацыі супоў і булёнаў. А таксама ў саленнях, марынадах, у салатах з гародніны і мясных стравах. Добра дадаваць яе ў стравы з макароны і бульбы, крупаў, а таксама з бабовых раслінаў. Соусы з ёй маюць больш падкрэслены, цікавейшы смак і водар. Насенне ўжываюць пры выпечцы хлеба і вырабе настоек і лікёраў.

Высушаныя карані маюць лёгкі грыбны водар. Іх дадаюць у стравы з дзічыны і птушкі, у рагу з гародніны. Даволі папулярнай прыправай любіста была і ў пэўнай ступені застаецца на Віленшчыне. З ёй гатуюць рагу з мяса і гародніны, дадаюць у масла або ў маслянку, гатуюць славутыя літоўскія калдуны. У раскручанай настойцы «999» адзін з 27 кампанентаў — насенне любісты.

Напрыканцы прапаную адзін з традыцыйных нашых рэцэптаў, дзе сваю партыю ў прыправах грае і любіста. ◆

### Калдуны з любістай

*Інгрэдыенты:*

- 250 г ялавічнай выразкі, найлепш паляндвіцы
- сталовая лыжка гусінага шмальцу
- зубчык часнаку
- сталовая лыжка здробненай травы любісты
- 75 мл булёну (напрыклад, з ялавічыны)
- 2 шклянкі мукі
- 3 жаўткі
- 3 сталовыя лыжкі алею
- соль, молаты перац
- масла

З прасеянай мукі, жаўткоў, алею і солі замясіце цеста (як на пельмені), яно не павінна быць занадта цвёрдым. Ялавічную выразку прапусціце праз мясасечку з дробнымі вочкамі, дадайце гусіны шмалец, любісту і часнок, перамяшайце. Праз хвілінку дадайце халодны булён і вымешвайце яшчэ 10 хвілін, запраўце соллю і шчодрай колькасцю перцу. З тонка раскачанага цеста выражце невялікія кружочкі, нафаршыруйце іх начыннем і склейце ў форме калдуноў (ці пельменяў). Варыце ў вадзе, якая ўжо закіпела, 3–4 хвіліны пасля ўсплывання. Падавайце калдуны з растопленым маслам. Смачна есці!

# «Калі перастану лятаць, адкрыю ў Ялце чабурэчную»

## Лётчык-ас Амет-Хан Султан — герой крымскіх татар



WIKIMEDIA COMMONS

**Яму было што губляць, калі ён адкрыта патрабаваў ад уладаў вярнуць свой народ на радзіму. Пра героя-лётчыка, які не даваў сябе паставіць на калені і ў мірным жыцці, піша Разалія Александровіч.**

16 мая 1944 года. Крым вызвалены ад немцаў, і ўжо знакаміты на той час лётчык Амет-Хан Султан атрымлівае дазвол паехаць у родную Алупку на тры дні, каб пабачыцца з бацькамі. З ім на трох машынах прыбылі калегі і камандзіры.

Насібэ і Султан, хоць чыталі пра свайго праслаўленага Амет-Хана ў газетах, не бачылі сына ўсю вайну. Кампанія следам за Аметам зайшла на квяцісты падворак і на некаторы час знерухомела, назіраючы кранальную сцэну: сын падняў на рукі ўсю ў слязах маці і панёс яе ў хату.

А праз два дні, 18 мая, пачалося прымусовае высяленне з Крыма карэннага мясцовага народа, да якога напалову, праз маці, належаў Амет-Хан Султан, — крымскіх татараў. Бацькоў лётчыка-аса пашкадавалі і пакінулі дажываць у роднай хаце. Вось толькі што гэта было за жыццё, калі не засталося нікога з тых, каго яны ведалі?

Страціў спакой і іх сын-герой.

### Ля схілу Ай-Петры

Бацька Амет-Хана, Султан Аметхан, прыехаў да падножжа Крымскіх гор з яшчэ больш гарыстага дагестанскага аула Цоўкра, дзе жыў такі народ лакцы. Ён прыехаў у Крым працаваць і тут пазнаёміўся з Насібэ Садла. Праз год, 25 кастрычніка 1920 года, у маладых бацькоў нарадзіўся хлопчык. Свайму першынцу яны далі імя ў гонар дзеда: па-лакску яно гучала Ахмад, а па-крымскататарску — Амет. Па дакументах яго імя павінна было гучаць так: Амет Султанавіч Аметхан, але варыянт, які ведае большасць, — Амет-Хан Султан.

Сям’я жыла ў белым доме, што прытуліўся да схілу гары Ай-Петры. Неўзабаве нарадзіўся яшчэ адзін сын Імран і дачушка, якой не стала ў чатыры гады.

### Таран Амет-Хана

Скончыўшы Сімферопальскае фабрычна-заводскае вучылішча, Амет-Хан працаваў слесарам у чыгуначным дэпо і займаўся ў аэраклубе. У 1940 годзе ў званні малодшага лейтэнанта ён скончыў 1-ю Качынскую авіяцыйную школу і пачаў службу ў 4-м знішчальным авіяцыйным палку, які базаваўся ў Беларусі. Хоць надоўга ў нашых краях Амет-Хан не затрымаўся, бо неўзабаве быў пераведзены пад Кішынёў.

А хутка пачалася вайна, якая прынесла Амет-Хану славу і званне двойчы Героя Савецкага Саюза. Ваюючы на англійскім знішчальніку «Харыкейн», ён знітаваўся з гэтай баявой машынай і змог напоўніцу паказаць сябе.

Самым яскравым стаў адзін паветраны бой. 31 мая 1942 года ▸

SHUTTERSTOCK.COM, BY OLEG SHISHKUNOV

Родныя мясціны Амет-Хана Султана — **гара Ай-Петры і яе ваколіцы.**

## Алупка і Ай-Петры

Да дэпартацыі крымскія татары жылі ў асноўным у сельскай мясцовасці. Традыцыйнымі раёнамі іх пражывання былі Паўднёвы бераг Крыма, Усходні Крым і, зразумела, Бахчысарай — былая сталіца Крымскага ханства.

Алупка, родны горад Амет-Хана Султана, знаходзіцца на самым поўдні паўвострава, за 17 кіламетраў ад Ялты. У XIX стагоддзі яна была не вельмі вялікай вёскай, насельніцтва якой складалася выключна з крымскіх татараў.

Але з пачатку XX стагоддзя паселішча стала вядомым курортам. Тут разбудоўвалася адпаведная інфраструктура, у выніку чаго ў ім сталі актыўна сяліцца прадстаўнікі іншых народаў. А сам горад імкліва рос. І ўжо ў часы дзяцінства Амет-Хана Султана, паводле перапісу 1926 года, з 2950 жыхароў Алупкі татарамі былі толькі 903, а большасць, 1445 чалавек, лічыліся рускімі. Акрамя іх, тут жылі ўкраінцы (222 чалавекі) і грэкі (148).

Непадалёк ад Алупкі ўзвышаецца вялікая гара Ай-Петры. Яе назва паходзіць з грэчаскай мовы, перакладаецца як «Святы Пятро».



PINTEREST.COM

**Амет-Хан Султан на парозе роднага дома з бацькамі і сынам Станіславам.** Пэўны час яго жонка Фаіна з сынам жылі ў Алупцы. 1947 год.

▶ на ўскраіне Яраслаўля на вышыні 7 300 м Амет-Хан сустрэў шэрую махіну — нямецкі бамбавоз Ю-88 («Юнкерс»). Кінуўся ў атаку, адкрыў агонь і знішчыў кулямётную кропку праціўніка. А калі пасля аднаго з развlibротаў злавіў «Юнкерс» у прыцэл і зноў націснуў на гашэтку — зразумеў, што скончыўся боезапас. Тады Амет-Хан левым крылом свайго «Харыкейна» на хуткасці разануў па фюзеляжы «Юнкерса». І... застраміўся ў корпусе бамбавоза.

Амет-Хан аказаўся наглуха зачыненым у кабіне, у той час як счэпленыя міжсобку самалёты ўжо гарэлі і падалі разам. Тады лётчык з усёй моцы — сваімі моцнымі рукамі! — адштурхнуўся ад варожай машыны і выскачыў з парашутам з палаючых абломкаў. Проста цуд!

І такім рашучым ён быў не толькі ў паветры, а і ў тых экстрэмальных сітуацыях, на якія яго жыццё не скупілася.

### На свае вочы

11 красавіка 1944 года пад самы вечар савецкія войскі вызвалілі горад Джанкой, 13 красавіка — Сімферопаль і Еўпаторыю. Наступным меўся быць Севастопаль. За яго змагалася і авіяцыя, у тым ліку шасцёрка знішчальнікаў 3-й эскадрыллі Амет-Хана.

Пасля аднаго з удалых баёў, калі Амет-Хан збіў «Фокер», ён накіраваў свой самалёт у бок Алупкі... Ужо на аэрадроме ён прызнаўся сябру, беларусу Паўлу Галавачову, таксама ў будучыні двойчы Герою Савецкага Саюза: «Не стрымаўся, Паша. Хацелася пераканацца хоць бы ў тым, ці цэлы бацькоўскі дом. Можа, днямі здолею іх наведаць, спадзяюся, што жывыя». І праўда, праз месяц наведаў — ды яшчэ захапіў з сабой тры машыны баявых таварышаў.

А на досвітку 18 мая пачалася спланаваная акцыя па дэпартацыі крымскіх татараў.

Амет-Хан, які яшчэ быў у звальненні і працягваў гасцяваць у бацькоў, прачнуўся ад шуму. Выскачыўшы ў двор, убачыў, што двое салдат унутраных войскаў цягнуць яго маці, а бацька спрабуе ім перашкодзіць. Малодшага ж брата ўжо арыштавалі: той пры немцах служыў у дапаможнай паліцыі. Султану пазней дазволяць убачыцца з ім у Кіеве падчас следства, але абодва будуць у такім прыгнечаным стане, што асабліва і не паразмаўляюць.



**Амет-Хан Султан (справа) і яго сябар на ўсё жыццё беларус Павел Галавачоў.** Пазнаёміліся яны ў 1942-м, у 9-м гвардзейскім знішчальным авіяпалку. 1945 год.



### Дэпартацыя «ворагаў народа»

Аперацыю прымусовага высялення крымскіх татар і іншых народаў Крыма здзяйснялі 10 дывізій пад кіраўніцтвам НКВД — 32 тысячы салдат і афіцэраў. За адну майскую ноч было захоплена 80 350 дамоў. Пад высяленне падпалі 193 865 татар. З іх 151 136 былі накіраваныя ва Узбекістан, 4 286 — у Казахстан, астатнія — у розныя рэгіёны РСФСР. Засяленне дамоў, з якіх татары не змаглі нічога ўзяць, акрамя самых простых рэчаў, перайменаванне населеных пунктаў, ліквідацыя Крымскай АССР ішлі следам за высяленнем. Крымскія татары, якія ваявалі ў Чырвонай арміі, пасля дэмабілізацыі таксама былі дэпартаваныя. Невялікую частку афіцэраў вызвалілі ад абавязку ехаць на спецпасяленне, але і жыць у Крыме ім таксама забаранілі. Усяго за 1945–1946 гады ў месцы дэпартацыі было адпраўлена 8 995 крымскіх татараў-ветэранаў вайны, многія з якіх мелі высокія ўрадавыя ўзнагароды. Былі дэпартаваныя і тыя крымскія татары-кіраўнікі (на чале з першым сакратаром, з партыі іх не выключалі), хто жыў падчас вайны ў эвакуацыі. Ім тлумачылі: на новым месцы патрэбныя правераныя кадры. Прысуд быў адзін для ўсіх: супрацоўніцтва з акупацыйнымі ўладамі. У разлік не ішлі ні 57 тысяч крымскіх татар, загінулых на вайне, у тым ліку і на фронце, ні 105 спаленых акупантамі татарскіх вёсак. Увесь народ быў прызнаны здраднікам. Перасяленне цягнула за сабой голад і хваробы — амаль палова крымскіх татараў загінула ў дарозе і ў спецпасяленнях.




**Дворык у Крыме** з традыцыйнымі татарскімі арнаментамі.

Пазней, выступаючы на пасяджэнні вайсковага трыбунала, Амет-Хан нагадаў прысутным, што менавіта савецкая прапаганда ўлёткамі, у якіх гаварылася пра яго подзвігі, паставіла сям'ю ў безвыходнае становішча. Гестапа збіралася забіць бацькоў савецкага героя, і толькі вымушанае супрацоўніцтва Імрана з акупацыйнымі ўладамі выратавала іх ад пагібелі. Гэтая прамова не ўратавала Амет-Хана-малодшага ад турмы, але старэйшы брат падтрымліваў яго і пасля.

Бацькоў Героя Савецкага Саюза ўрэшце пакінулі ў Крыме. Найхутчэй таму, што бацька быў лакцам. ▶

## Крымскататарскі нацыянальны рух

Крымскія татары не былі адзіным народам, пагалоўна дэпартаваным са сваёй радзімы ў 1943–1944 гадах. Тады ж у такое самае прымусовае выгнанне выправіліся таксама калмыкі, чачэнцы, інгушы, карачаеўцы, балкарцы, панційскія грэкі, туркі-месхецінцы. Пасля смерці Іосіфа Сталіна, у 1956 годзе, усе гэтыя народы былі рэабілітаваныя, а ў 1957–1958 гадах большасці з іх дазволілі вярнуцца на радзіму. Былі адноўленыя і іх аўтаномныя рэспублікі, калі такія дагэтуль існавалі.

Але крымскія татары разам з туркамі-месхецінцамі, высланымі з тэрыторыі Грузіі, сталі выключэннем. Хоць іх і рэабілітавалі, але вярнуцца дахаты не дазволілі. Месца татараў у Крыме да таго часу паспелі заняць выхадцы з іншых мясцовасцяў, і савецкае кіраўніцтва не хацела зноў займацца іх масавымі перасяленнямі. Да таго ж з-за стратэгічнага становішча паўвострава — у Севастопалі знаходзілася галоўная база Чарнаморскага флоту — хацелася мець там цалкам лаяльнае насельніцтва, а крымскія татары, да таго ж пасля перажытай дэпартацыі, як такія не ўспрымаліся.

Большасць крымскіх татараў пасля дэпартацыі апынулася ва Узбекскай ССР, і іх паспрабавалі моцна прывязаць да месца новага жыхарства праз інстытут прапіскі. У якасці перніка, пасля таго як сталінскія часы з іх стаўкай выключна на жорсткі гвалт мінулі, татарам прапаноўвалася выдзяленне зямельных участкаў і будаўнічых матэрыялаў, а таксама льготных пазыкаў на будаўніцтва. Але пераехаць у іншыя месцы вялікай краіны было складана. Асабліва табуяваным месцам быў родны Крым — прапісацца і атрымаць працу там для крымскага татарына было фактычна немагчыма.

Адказам на гэта быў моцны крымскататарскі нацыянальны рух, адзін з наймацнейшых у СССР. На яго штандарах заўсёды было адно галоўнае патрабаванне: дазвольце нам вярнуцца на зямлю продкаў! Гэты рух быў неад'емнай складовай часткай дысідэнцкага дэмакратычнага руху ўсяго СССР, патрабаванні крымскіх татараў актыўна падтрымлівалі сярод іншых такія вядомыя дысідэнты, як Андрэй Сахараў і Пятро Грыгарэнка. А з асяроддзя саміх крымскіх татараў таксама вылучаліся моцныя лідары, вядомыя далёка за межамі ўласнай супольнасці, — Мустафа Джэмілеў, Юрый Асманаў, Айшэ Сеітмуратава і іншыя. У беспрасветныя савецкія часы яны шмат гадоў правялі ў турмах і лагерах.

Дасягнуць сваёй вялікай мэты крымскататарскі народ здолеў толькі тады, калі савецкая імперыя аслабла настолькі, што яе кіраўнікі самі мусілі пайсці на дэмакратызацыю краіны. У 1989 годзе крымскім татарам нарэшце было афіцыйна дазволена вярнуцца на гістарычную радзіму, і адразу ж пасля таго пачалася масавая рэпатрыяцыя. Вяртацца татарам у асноўным давялося ўжо ў незалежную Украіну, грамадзянамі якой прадстаўнікі гэтага народа неўзабаве і сталі. Больш за тое, на тэрыторыі Крыма яны сталі сапраўднай апорай украінскай дзяржаўнасці.

Цяпер у Крыме жыве каля 250 тысяч крымскіх татар.

▶ Як бы то ні было, ад той пары Амет вырашыў цвёрда і назаўсёды: ва ўсіх сваіх дакументах ён будзе пісаць «крымскі татарын» — нацыянальнасць маці і назоў народа, сярод якога вырас.

### Прыцягальнае неба

Пасля вайны Амет-Хану прыйшлося нейкі час пабыць без працы. Выручылі былыя баявыя таварышы і камандзіры: паспрыялі, каб двойчы Героя ўзялі на працу лётчыкам-выпрабавальнікам у Жукоўскі лётна-даследчы інстытут пад Масквой.

Аднойчы, пасля надзвычай складаных выпрабаванняў самалётаў-снарадаў, Амет-Хана павінны былі прадставіць да трэцяй зоркі Героя. Перашкаджала адно — ягонае нацыянальнае паходжанне, якога той да таго ж не хаваў. Яго выклікаў маршал Клімент Варашылаў і прапанаваў змяніць нацыянальнасць, пісаць бацькаву — лакец. Амет-Хан Султан наадрэз адмовіўся, а таму ў лютым 1953 года атрымаў усяго толькі ордэн Чырвонага Сцяга.

Некаторыя ўчынкі ў адносінах да сябе Амет-Хан навучыўся ўспрымаць з гумарам. Напрыклад, неяк праводзілі выпрабаванні ў Крыме: усе паляцелі на сваіх самалётах, а яго павезлі на пасажырскім. «Напэўна, баяліся, што ў Турцыю палячу ці што Крыма не знайду?» — пракаментаваў ён бязглуздую сітуацыю.

Славуты авіятар выпрабаваў сотні лятальных апаратаў і прылад, у тым ліку першыя рэактыўныя самалёты і крылатыя ракеты, налятаў тысячы гадзін, кожная з якіх магла стаць апошняй.

1 лютага 1971 года так і сталася. Ён загінуў праз тры месяцы пасля таго, як адсвяткаваў 50-гадовы юбілей, выпрабоўваючы новы рэактыўны рухавік для самалёта маркі «Ту».

### «Мой помнік — адзіны крымскі татарын»

Ягоным бацькам не давялося перажываць заўчаснай страты сына. Султан і Насібэ, застаўшыся ў фактычнай адзіноце ў Алупцы, паступова страцілі надзею на аднаўленне справядлівасці і вяртанне сына Імрана, сваякоў, сяброў ды суседзяў. Аметханы-старэйшыя пайшлі з жыцця адно за адным, у 1957 годзе.

Калі Насібэ памерла, то пахаваць яе згодна з

### Татары крымскія і татары беларускія

Супольнасць беларускіх татараў (гл. пра яе артыкул Сяргея Богдана і Анжалікі Пабеданосцавай Кая ў № 5/2018 «Нашай гісторыі») паўстала са шматлікіх і разнародных плыняў імігрантаў. Імігранты былі прадстаўнікамі розных усходніх народаў і плямён, збольшага цюркскіх. Сярод іх значную, калі не пераважную долю складалі акурат тыя татары, якіх мы сёння завём крымскімі.

Але за 600 гадоў жыцця асобна ад іншых суплеменнікаў, у іншым атачэнні беларускія татары сталі значна розніцца ад крымскіх. У нашых куды спакайнейшы тэмперамент, ежа — на падставе мясцовых прадуктаў, хоць і з захаваннем забаронаў на пэўныя яе віды. Але аднолькавая вера, мусульманства, робіць іх усё ж падобнымі ў рытуалах, традыцыях.

Дарэчы, сярод беларускіх татар, не раўнуючы як у тых габрэяў пра «зямлю абяцаную», доўгі час захоўвалася мара пра некалішняе вяртанне ў Крым. Нават на памяці аўтаркі гэтага артыкула была няўдалая спроба перасялення туды татарына Янака Абрагімовіча з вёскі Іванава каля Клецка. Да гэтага яго падштурхоўвала і родная маці.

Жывуць у Беларусі і адносна нядаўнія перасяленцы паходжаннем з крымскіх татараў. Аўтарка артыкула асабіста ведала траіх: Ісмаіла Меметава (Ісмаіла-ага), які ўдзельнічаў у вызваленні Беларусі і пасля тут служыў, Чангара Умерава, запрошанага ў Мінск у якасці спецыяліста ў галіне метрабудаўніцтва, а таксама Юнуса Сетарава. Цікавы лёс апошняга. Ягоная мама была вывезена з крымскай Еўпаторыі ва ўзбекскі Самарканд. Юнус аж чатыры разы паступаў у Ташкенцкую акадэмію грамадзянскай авіяцыі, але яго не прымалі, бо быў негалосны загад, каб крымскім татарам перашкаджаць атрымліваць вышэйшую адукацыю. Але ў Мінску сумленныя людзі заплюшчылі на гэта вочы.

Дарэчы, падчас перапісу 2019 года татары пры жаданні маглі ўдакладніць сваю нацыянальнасць: беларускія яны, крымскія ці якія іншыя. Такім чынам, упершыню быў афіцыйна зацверджаны этнонім «беларускія татары».



### Фільм «Хайтарма»

Украінская ваенная драма 2013 года. Фільм заснаваны на рэальных гістарычных фактах і біяграфіі лётчыка-аса Амет-Хана Султана, які браў удзел у вызваленні Крыма, атрымаў адпачынак і адправіўся разам з сябрамі ў родную Алупку праведаць бацькоў. Землякі для свайго героя выканалі танец «Хайтарма» («Вяртанне»).



MK.RU

## Чабурэчная Амет-Хана

Юрый Асманаў, адзін з лідараў крымскататарскага нацыянальнага руху, які дажыў да вяртання свайго народа ў Крым, але быў па-зверску забіты палітычнымі праціўнікамі ў 1993 годзе ў Сімферопалі, меў непасрэднае дачыненне да нашага



народа: ягоная маці была беларускай. Ён пакінуў успаміны пра сустрэчы з Амет-Ханам Султанам:

«— Хто твая маці? — раптоўна перапыніўшы размову, якую нібыта выпадкова мае спадарожнікі час ад часу перакладалі на рускую мову, спытаў Амет-Хан і растлумачыў па-татарску: “Гэты хлопец не ведае нашай мовы”.

Я патлумачыў па-татарску, што мама ў мяне беларуска, але родную мову я разумею, хоць і гавару з цяжкасцю. “Не, правільна, — горача запярэчыў Амет-Хан, — дзіця павінна ведаць мову сваёй маці. Мой Арслан таксама гаворыць па-руску: дзіця павінна ведаць мову сваёй маці”. Амет-Хан дастаў картку сына ў вайсковай форме. “Другі год служыць”, — з гонарам сказаў ён.

— Ведаеце, што мне яшчэ хочацца? — раптам засмяяўся Амет-Хан. — Калі прыйдзецца ў адстаўку, вырашыцца да таго часу пытанне ці не — хачу адкрыць у Ялце чабурэчную. Няхай лопаюцца ад злосці: “Чабурэчная Амет-Хана!” Сам буду рабіць чабурэкі. Для сяброў — асобна, для іх і куток асобны будзе.

Мы прыйшлі ў захапленне ад гэтай ідэі. На жаль, ёй не суджана было збыцца. Прыгожыя, добрыя мары моцных, мужных і сумленных людзей, як рэдка вы збываецеся! Але не мары майго мужнага народа?!»



Крымскія чабурэкі.

мусульманскай традыцыяй не было каму. Амет-Хан праз пэўны час расказваў: «Я маму сваю, — сам, адзін пахаваў... па ўсіх нашых законах. Прыляцеў — побач нікога, нікога з сяброў або знаёмых. Ні адной татаркі. Я сам абмываў яе! Вы ўяўляеце, што гэта такое, мыць цела маці!?»

А на некалькі год раней, у пачатку 1950-х, на радзіме двойчы Героя Савецкага Саюза меліся ўсталяваць яго бронзавы бюст. Лётчык па запрашэнні ўладаў прыбыў у Алупку напярэдадні ўрачыстага адкрыцця. Аднак на наступную раніцу манумент знік. А калі знайшоўся, то аказалася, што яго ўсталявалі ў невялікім пасёлку на Кубані, а мясцовае начальства два разы дасылала лётчыку-асу запрашэнне прыехаць на ўрачыстасці.

Амет-Хан не паехаў. Тады бюст перанеслі ў Дагестан, на радзіму яго бацькі. Але лётчык праігнараваў і гэтае запрашэнне — як і запрашэнні з гарадоў яго баявой славы: Яраслаўля, Каспійска, Сталінграда.

Яго сябры жартавалі: бюст Амет-Хана аказаўся самым дарагім сярод іншых, бо доўга падарожнічаў па розных месцах. У выніку помнік усё ж паўстаў пад вяршыняй Ай-Петры. Амет-Хан іранічна заўважыў: «У Крыме мой помнік — адзіны крымскі татарын...»

Лёс яго народа Амет-Хану бясспрэчна балеў. Ён рабіў што мог, каб аднавіць гістарычную справядлівасць. Быў партыйным, але не пабаяўся ў 1965 годзе адкрыта звярнуцца да партыі з патрабаваннем: «Вярніце мой народ у родны дом — Крым». Яго подпіс стаяў пад усімі адкрытымі лістамі, што тычыліся вяртання крымскіх татар, ён не баяўся кантактаваць з дысідэнтамі ад свайго народа. І планы на адстаўку ў яго таксама былі звязаныя з грамадскай дзейнасцю на карысць суайчыннікаў.

Магчыма, з-за гэтага паралельна з афіцыйнай прычынай смерці жыве і канспіралагічная: нібы героя проста прыбралі з вачэй за яго пазіцыю. Хоць вялікай патрэбы ў гэтым, вядома, не было. Сярод крымскіх татар хапала і іншых дзеячаў, якія ўпэўнена і настойліва вялі свой народ на радзіму. ◆

# Паляўнічы за скарбамі фараонаў

## Міхал Тышкевіч




**Фотаздымак мюнхенскай студыі Брукман.** Музей Крэцінгі, Літва.

**Яго імя выбіта залатымі літарамі ў адной з ратондаў парыжскага Луўра як значнага мецэната гэтага музея. Ён атрымаў унікальны дазвол на раскопкі ў Егіпце, калі адтуль прагналі еўрапейскіх археолагаў. Ён лічыўся адным з самых сур'ёзных калекцыянераў рымскай антычнасці ў Еўропе. Але ў нашай краіне імя Міхала Тышкевіча сёння амаль забытае. Піша кандыдат сацыялагічных навук Аляксей Ластоўскі.**

### Радавыя традыцыі

Граф Міхал Тышкевіч паходзіў са слыннага арыстакратычнага роду, які даў нашай зямлі некалькі вядомых дзяржаўных дзеячаў і навукоўцаў.

Гэты род меў дзве асноўныя галіны. Пераважна ў нас ведаюць лагойскіх Тышкевічаў, самыя славутыя з якіх — браты-навукоўцы Яўстах і Канстанцін, якія жылі і працавалі ў XIX стагоддзі. Але здаўна існавала і іншая галіна роду Тышкевічаў, якая традыцыйна валодала землямі на тэрыторыі сучаснай Літвы — ад радзівілаўскіх Біржаў да курортнай Палангі.

Адзін з прадстаўнікоў гэтай галіны, Юзаф Ігнат Тышкевіч, напрыканцы XVIII стагоддзя набыў беларускае мястэчка Валожын і пабудаваў там велічны палац ды каменны касцёл (абодва будынкі захаваліся да нашага часу). Ён так палюбіў гэта мястэчка, што зрабіў яго сваёй асноўнай рэзідэнцыяй. Працягвалі там жыць і ягоныя нашчадкі. Сын Юзафа Ігната Міхал, дзед нашага героя, набраў за свае грошы полк і ўзначаліў яго ў напалеонаўскай кампаніі. Бацьку ж нашага героя назвалі па сямейнай традыцыі Юзафам. Асаблівымі заслугамі ён не адзначыўся, хоць быў маршалкам шляхты Ашмянскага павета.

У сям'і Юзафа Тышкевіча ў Валожыне ў 1828 годзе і нарадзіўся Міхал, найстарэйшы сын у сям'і. На фарміраванне яго светапогляду яўна зрабіў уплыў прыклад вышэйзгаданых братоў Яўстаха і Канстанціна Тышкевічаў, якія былі сваякамі, хоць і з іншай галіны роду. І з імі падтрымліваліся кантакты.

Пакуль Міхал вучыўся ў Віленскай гімназіі, лагойскія Тышкевічы пачынаюць арганізоўваць першыя археалагічныя раскопкі на Барысаўшчыне і ствараць свае першыя музейныя калекцыі. Міхал таксама падтрымліваў гэтыя пачынанні, а ў 1856 годзе стаў адным з заснавальнікаў Віленскага археалагічнага таварыства. Ягоная цікавасць да гэтай навукі і нават ужо пэўныя поспехі ў ёй пацвярджаюцца прыняццем у якасці ганаровага члена ў Імператарскае археалагічнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу ў наступным годзе.

## Два хобі

Назапашаныя продкамі сямейныя багацці дазвалялі Міхалу Тышкевічу мець хобі, якія вымагалі ўкладання немалых сродкаў. У сваім маёнтку ў Гарадку (цяпер Астрашыцкі Гарадок непадалёк ад Мінска) ён у 1855 годзе пабудаваў мураваны неагатычны палац на беразе возера. Для аздаблення палаца граф Міхал набыў у Кёнігсбергу набор мэблі, якая раней належала каралю Рэчы Паспалітай Аўгусту II (гл. пра яго артыкул Кірыла Карлюка ў № 5/2020 «Нашай гісторыі»).

У гэтым самым палацы Тышкевіч сабраў сваю першую важную калекцыю польскіх манет. Праўда, гэты нумізматычны збор неўзабаве быў прададзены яшчэ аднаму слыннаму калекцыянеру з нашых земляў Эмерыку Чапскаму. У Лондане Тышкевіч набыў і шмат рэчаў для закладзенай ім у палацы карціннай галерэі, дзе сярод іншых, калі верыць апісанням, знаходзіліся творы такіх славутых мастакоў, як Рафаэль, Ганс Гальбейн і Франсуа Бушэ.

Іншай жарсцю Міхала Тышкевіча было паляванне. Ёй адпавядала і ягоная ганаровая пасада лоўчага Вялікага Княства Літоўскага. У 1860 годзе Міхал выправіўся аж у афрыканскі Алжыр, каб папаляваць там на львоў. Але гэтая вандроўка не вельмі задалася, і зацяты паляўнічы на наступны год накіроўваецца ўжо ў Егіпет, прыхапіўшы з сабой адмысловыя стрэльбы і паляўнічых сабак. Тады гэтая краіна ўспрымалася як рай для паляўнічых. Тут наш граф, напрыклад, сустрэў англійскага арыстакрата лорда Дэвіда Лонсбара, які прыцягнуў з сабою дзівосны кулямёт, з якога адным залпам можна было забіць цэлы тузін гусей.

Але галоўным вынікам выправы на паляванне ў экзатычную краіну стала зусім іншае. Гэтае падарожжа яшчэ больш уцягнула Міхала Тышкевіча ў захапленне яго маладосці і дало магчымасць рэалізаваць амбіцыі археолага.


WIKIMEDIA COMMONS

**Альберт Жамэт. Інтэр’ер палаца ў Астрашыцкім Гарадку.** 1872 год. Нацыянальны мастацкі музей імя Чурлёніса ў Каўнасе (Літва).

## Па Егіпце з фірманам

Арыстакрата з не надта вядомых там земляў у Егіпце прынялі надзвычай прыязна, бо акурат у той час распрацоўваўся праект Суэцкага канала. Хітрыя егіпцяне разлічвалі на тое, што таямнічы заможны госць можа шчодра падтрымаць гэтую ініцыятыву. Толькі гэтым можна патлумачыць той дзівосны факт, што падчас асабістай аўдыенцыі егіпецкі віцэ-кароль Мухамед Саід-паша зрабіў свайму суразмоўцу незвычайны падарунак — фірман (дазвол) на ажыццяўленне раскопак на тэрыторыі ўсяго Егіпта.

**Егіпецкі віцэ-кароль даў Тышкевічу дазвол рабіць раскопкі на тэрыторыі ўсяго Егіпта**

Падарунак быў шчодрым таму, што да таго часу егіпцяне ўжо зразумелі, што еўрапейскія археолагі незваротна вывозяць з іх краіны старажытныя гістарычныя каштоўнасці, таму ўвялі строгую забарону на раскопкі. Адзіным манапалістам у гэтай справе быў французскі археолаг Агюст Марыет, якому была даручаная адказная місія стварэння Егіпецкага музея. Свае музейныя зборы Марыет, дарэчы, паказваў і Тышкевічу. А з атрыманнем фірмана той таксама займеў магчымасць збіраць артэфакты для ўжо ўласнага музея. ▸

▶ Асаблівае ўражанне на графа зрабіў прыём у расійскага пасла (памятаем, што на той момант ён быў падданым Расійскай імперыі), дзе праходзіла ўрачыстая цырымонія разгортвання трох старажытных мумій (раскопкі ў Егіпце былі забароненыя, але чорны рынак ніхто не адмяняў). На адной з мумій Тышкевіч асабіста знайшоў залатога жука-скарабея, на іншай — драўляны лук. Гэтыя «знаходкі» расійскі пасол яму і прэзентаваў, бо багаты арыстакрат паўсюль карыстаўся вялікай павагай.

Пасля Міхал Тышкевіч па Ніле на караблі з егіпецкай сталіцы Каіра выправіўся на поўдзень краіны, дзе паляваў на львоў і наведваў руіны храмаў. Непадалёк ад храма бога Амона ў горадзе Карнак наваспечаны археолаг паставіў намёт, наняў каманду капачоў і старанна занатоўваў усе свае знаходкі. А яны былі багатыя. Работнікі



LOUVRE.FR

Статуэтка з егіпецкай калекцыі Міхала Тышкевіча: **багіня Ізіда распраўляе крылы над богам Азірысам.** Захоўваецца ў Луўры.



CYFROWE.MNW.ART.PL

**Табурэт, знойдзены Міхалам Тышкевічам у раскапаным склепе егіпецкага арыстакрата часоў XVIII дынастыі.** Захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

графа адразу ж знайшлі скарб ахвярных артэфактаў, сярод якіх была і залатая фігурка Амона.

На другім беразе Ніла даследчыкаў вабіў легендарны некропаль Фіваў, але Тышкевіча туды не пускалі нават з ягоным фірманам. Давялося падкупляць мясцовых ахоўнікаў і капаць уначы. Як было занатавана ў дзённіку графа, «сумленне мяне мучыць, але антыкварная жылка перамагла, ужо мару пра муміі і саркафагі». Сапраўды, гэтыя патаемныя і нелегальныя раскопкі аказаліся вельмі прадуктыўнымі: неўзабаве былі знойдзеныя дзве муміі XXI і XXII дынастый, адна з якіх была ўпрыгожаная залатымі пектаралямі і бранзалетамі.

Крыху пазней ён адкрыў арыстакратычны склеп-пахавальню XVIII дынастыі, да якога нейкім цудам раней не дабраліся рабаўнікі. У ім знаходзіліся чатыры саркафагі, табурэт — а на ім фаянсавая місачка, дэкараваная лотасамі, на якой захаваліся рэшткі ежы. Калі Міхал Тышкевіч разгарнуў адну з мумій, то знайшоў папірус «Кнігі мёртвых» (так зваўся зборнік егіпецкіх гімнаў і рэлігійных тэкстаў, які клаўся ў грабніцу нябожчыка), прызначаны для нянькі абагоўленай егіпецкай каралевы Ахмес Нефертары, маці фараона Аменхатэпа I, з наборам прылад для пісьма на папірусе.

Не грэбаваў граф і набыццём старажытных артэфактаў у мясцовых арабаў, якія спраўна рабавалі спадчыну фараонаў. Але тут не абыходзілася і без праколаў: як пазней высветлілі навукоўцы, некалькі мумій, прададзеных Тышкевічу, былі сфабрыкаваныя прадаўцамі адмыслова для продажу наіўным еўрапейцам.

## Знаходкі — у Луўр

Пасля вяртання з Егіпта значную частку сваіх знаходак граф перадаў у падарунак парыжскаму Луўру. Гэты ўчынак не быў добра ўспрыняты на ягонай радзіме, бо віленскія аматары археалогіі яўна разлічвалі, што егіпецкія знаходкі трапяць у тутэйшы музей. Таму адносна Міхала Тышкевіча і ягонага недастатковага патрыятызму пайшлі гуляць розныя непрыемныя чуткі.

Але сапраўдную матывацыю падарунка егіпецкіх знаходак не землякам, а слыннаму французскаму музею выклаў у асабістым лісце да Канстанціна Тышкевіча сам Міхал. Яна была прагматычная: «Так шмат захадаў і працы я раблю не дзеля забавы, а дзеля навукі. Калі гэтыя знаходкі прывезці ў Літву, дзе іерогліфаў ніхто чытаць не ўмее, то яны стануць незвычайнымі цікавосткамі, а калі патрапяць у рукі сучасных французскіх Шампальёнаў*, то гэта будзе паслуга навуцы».

Зрэшты, пра радзіму археолаг зусім не забыўся: Віленскі

* **Жан-Франсуа Шампальён** (1790–1832) — французскі археолаг, які ў 1822 годзе адкрыў таямніцу егіпецкіх іерогліфаў і навучыўся іх чытаць.

музей старажытнасцяў усё ж атрымаў больш за 250 знаходак з Егіпта. Астатнюю частку прыдбаных егіпецкіх артэфактаў Міхал Тышкевіч раздарыў сваім сваякам, прадстаўнікам шматлікага і багатага роду. Зразумела, што ў першую чаргу ён паклапаціўся пра лагойскі палац, дзе намаганнямі братоў-навукоўцаў быў створаны ўнікальны музей. Туды патрапіў, напрыклад, і вышэйзгаданы папірус з «Кнігі мёртвых».

**Тышкевіч перадаваў найкаштоўнейшыя егіпецкія скарбы ў Луўр, што сустрэла крытыку на радзіме**

Варта таксама ўлічваць, што палітычна тыя часы былі складаныя, і сабраным на тэрыторыі літоўска-беларускага краю зборам пагражала


LOUVRE.FR

небяспека. Крыху пазней, пасля паўстання 1863–1864 гадоў, Віленскі музей старажытнасцяў будзе царскімі ўладамі знішчаны, а многія прыватныя калекцыі канфіскаваныя, і след некаторых з іх пасля загінуў.

### У цэнтры антычнага свету

Пасля вяртання з Егіпта высветлілася, што пасля смерці свайго дзядзькі Міхал Тышкевіч успадкаваў і біржанскую радавую ардынацыю. Гэта яшчэ больш павялічыла і так велізарныя сямейныя маёнткі, што дазволіла Міхалу напоўніцу аддацца археалогіі і калекцыянаванню. З гэтай мэтай ён з'ехаў у Італію — цэнтр антычнага свету.

Эміграцыі паспрыяла і напружанасць на асабістым фронце: граф якраз закахаўся ў маладую францужанку і фактычна кінуў сваю жонку, Марыю з родаў бярдзічаўскіх Радзівілаў, якая нарадзіла яму чатырох дзяцей. У тутэйшым грамадстве такіх учынкаў не даравалі, таму лепш было знаходзіцца ад яго на дыстанцыі.

У 1863 годзе археолаг набыў пад Неапалем раскошную вілу

**«Статуя Тышкевіча», Луўр.** Фігура святара пакрытая магічнымі формуламі, у руках ён трымае стэлу «Гор на кракадзілах». Статую старажытныя егіпцяне выкарыстоўвалі ў магічных рытуалах лекавання, трэба было паліць яе вадою і пасля тую ваду выпіць ужо як сродак ад укусаў змеяў ці скарпіёнаў. Гэтую статую Міхал Тышкевіч набыў незадоўга да сваёй смерці, і Луўр выкупіў яе на аўкцыёне. Яна атрымала нефармальную назву ў гонар знакамітага калекцыянера, які вельмі ўзбагаціў зборы французскага музея.


WIKIMEDIA COMMONS

**Партрэт Міхала Тышкевіча** аўтарства Арэста Картаца.

Лючыя, якая раней належала неапалітанскаму каралю. Хоць Тышкевіч, відавочна, купіўся не столькі на гісторыю вілы, колькі на яе месцазнаходжанне побач са старажытнымі, засыпанымі ў старажытнарымскую пару вулканічным попелам Везувія Пампеямі, дзе ў той час якраз ішлі гучныя на ўвесь свет раскопкі. Але падступіцца да Пампеяў Тышкевічу не далі, хоць ён прапаноўваў прафінансаваць за свой кошт раскопкі цэлага квартала. Згодна з ягонымі пазнейшымі ўспамінамі, і тут панавала паўсюдная італьянская мафія.

Даследаванні іншых неапалітанскіх ваколіц асаблівага плёну не далі, і расчараваны граф пасля таго перабраўся ў Рым, дзе правёў рэшту свайго жыцця. Тут ён атрымаў дазвол на раскопкі і некалькі гадоў даследаваў славутую Апіеву дарогу, пракладзеную ў IV стагоддзі да нашай эры, пакуль італьянская дзяржава не ўзяла даследаванне гэтага аб'екта пад свой кантроль. ▶

**▸ Калекцыя, роўная музею**

Паколькі археалагічная кар’ера перастала складвацца, граф цалкам пераключыўся на ролю калекцыянера антычных старажытнасцяў. Ягоная кватэра ў Рыме стала знакамітай на ўсю Еўропу. Першы кіраўнік італьянскага дырэктарата антычнасцяў і мастацтваў Фелічэ Бэрнабеі неаднаразова яе наведваў, а пасля пісаў: «Гэта быў свайго роду музей... дзе амаль кожны дзень пасля абеду сустракаліся найбольш кампетэнтныя ў справе антычнасцяў асобы, каб падзівіцца на ўжо экспанаваныя каштоўныя прадметы ці найноўшыя набыткі, якія граф дэманстраваў здзіўленым прыяцелям».




**Кратар з мастацкага музея Бостана.** На гэтай вазе адлюстраваныя сутычкі Траянскай вайны. З гэтага боку вазы паказана, як натхнёны Афінай Ахілес (злева) перамагае эфіопскага цара, саюзніка траянцаў Мемнана, які падае ў рукі сваёй маці Эас, багіні світанку. Аўтара гэтай вазы назвалі «мастаком Тышкевіча», іншыя распісаныя ім вазы раскіданыя па музеях свету.

## Невядомы мастак грэчаскіх вазаў, што тварыў у V стагоддзі да нашай эры, цяпер называецца «мастаком Тышкевіча»

Экспанаты ў калекцыі Тышкевіча былі апрацаваныя па тагачасных навуковых стандартах і знаходзіліся ў адмысловых вітрынах, якія пасля смерці графа былі закупленыя італьянскай дзяржавай для музея рымскіх тэрмаў (лазняў). Таксама калекцыянер вёў дэталізаваны каталог сваіх набыткаў, якому па дакладнасці могуць пазайздросціць і многія сучасныя музеі.

Ядром калекцыі Тышкевіча быў на той момант адзін з найлепшых у свеце збор антычных **гемаў** — круглых ці авальных ювелірных камянёў з выразанымі выявамі. Сваю калекцыю мармуровых скульптур граф прадаў дацкаму піўному магнату Карлу Якабсэну, і яна стала асновай знакамітай гліптатэкі (збору антычнай скульптуры і разьбы) у Капенгагене.

Збіраў Тышкевіч і антычныя вазы. Ягоныя заслугі на гэтым полі адзначаныя, сярод іншага, тым, што невядомы мастак грэчаскіх вазаў, што тварыў у V стагоддзі да нашай эры, зараз называецца «мастаком Тышкевіча». Стала так таму, што менавіта ў зборах графа знаходзіўся кратар (старажытнагрэцкі сасуд для змешвання віна з вадой) з адлюстраваннем падзей Траянскай вайны работы гэтага мастака. Зараз гэты кратар — адзін з найбольш каштоўных экспанатаў музея выяўленчых мастацтваў у амерыканскім Бостане.

У 1870 годзе Тышкевіч дабіўся ад расійскага імператара дазволу на развод з жонкай, пасля чаго адразу ж адмовіўся ад біржанскай ардынацыі на карысць свайго старэйшага сына Юзафа. Сын мусіў за тое выплачваць бацьку

штогадовую рэнту, але жыў Міхал Тышкевіч не толькі з таго. Значную частку даходаў яму даваў перапродаж археалагічных каштоўнасцяў.

Граф пастаянна імкнуўся ўдасканальваць свае зборы і ахвотна перапрадаваў тыя рэчы, якімі ўжо не гарэла ягоная душа. Сярод пастаянных кліентаў калекцыянера былі французскі імператар Напалеон III (які свае набыткі звычайна перадаваў у Луўр) і ягоная стрыечная сястра, гаспадыня парыжскага свецкага салона Мацільда Банапарт.

### Лёс калекцый

Пасля смерці Міхала Тышкевіча ў 1897 годзе ягоная рымская калекцыя была распрададзеная. «Калі б яго зборы не былі расцярушаныя, то ніводзін калекцыянер-знаўца не мог бы з ім параўнацца: ні рымскія кардыналы XVI стагоддзя, ні мільянеры стагоддзя нашага», — пісаў Вільгельм Фронер, захавальнік Луўра і асабісты дарадца Напалеона III.

Дзе ж можна знайсці сляды колішніх багатых калекцый Міхала Тышкевіча сёння?



LIMIS.LT

**Партрэт Міхала Тышкевіча аўтарства Франсуа Адзібрана.** Нацыянальны мастацкі музей Літвы.

Палац у Астрашыцкім Гарадку — зараз на яго месцы, дарэчы, знаходзіцца адна з прэзідэнцкіх рэзідэнцый, — успадкаваў сын Міхала, Альфрэд Тышкевіч. Многія каштоўнасці адтуль ён перавёз у віленскі палац. Некаторыя з гэтых збораў пасля патрапілі ў каўнаскі мастацкі музей імя Чурлёніса.

Падараваная Луўру калекцыя збольшага захавалася, хоць частка статуэтак з яе знікла падчас Другой сусветнай вайны. Знаходкі, якія патрапілі ў Віленскі музей старажытнасцяў, былі вывезеныя ў Маскву, і іх след прапаў. Магчыма, яны знаходзяцца цяпер у расійскім Дзяржаўным гістарычным музеі. Лагойская калекцыя, самая шматлікая па колькасці экспанатаў, трапіла збольшага ў Варшаву і зараз складае частку збораў мясцовага Нацыянальнага музея.

Раскіданыя па палацах Тышкевічаў падарункі трапілі ў літоўскія музеі. У 1992 годзе быў знойдзены егіпецкі дзённік Міхала, але, на жаль, падрыхтаваны ім альбом знаходак з замалёўкамі знік у Познані падчас Другой сусветнай вайны і дагэтуль шукаецца навукоўцамі.

Калі ж казаць пра калекцыі антычнасцяў Тышкевіча італьянскага перыяду, то яны разышліся па музеях усяго свету. Гэта і Луўр, і Брытанскі музей, і амерыканскія зборы. Адно гэта дае ўяўленне, якім слынным на ўвесь свет навукоўцам і калекцыянерам у свой час быў наш зямляк. ◆



**Лава падсудных.** Нацыстаў сцерагуць амерыканцы ў белых касках і белых пальчатках.

WIKIMEDIA COMMONS

# Нюрнбергскі працэс

**У маі 1945 года Германія пад ціскам войскаў саюзнікаў капітулявала. Другая сусветная вайна ў Еўропе скончылася, але заставаўся адзін апошні, важны крок. Ім стаў Міжнародны ваенны трыбунал у Нюрнбергу, на якім асудзілі і пакаралі нацысцкіх злачынцаў. Як ён праходзіў, піша Андрэй Акушка.**

Другая сусветная была нетыповай вайной. Яна стала сутыкненнем ідэалогій. Узровень жорсткасці ў гэтым супрацьстаянні быў страшны. Масавыя смерці палонных, жахлівае абыходжанне з грамадзянскім насельніцтвам, дзясяткі мільёнаў загінулых выклікалі лагічнае рашэнне асудзіць тых, хто вінаваты ў гэтых злачынствах. Але спецыяльнага органа, які б за гэта адказваў, тады не было, таму яго прыйшлося ствараць з нуля.

### Ці быць трыбуналу?

Першыя прапановы наконт арганізацыі трыбунала ўзніклі ў 1942 годзе, калі ў заходніх СМІ пачалі з’яўляцца артыкулы пра надзвычайную жорсткасць нацыстаў. Хутка гэтае пытанне пачалі ставіць і на найвышэйшым узроўні. У лістападзе 1943-га на Маскоўскай сустрэчы

прадстаўнікі Вялікабрытаніі, ЗША і СССР падпісалі дэкларацыю, у якой папярэдзілі гітлераўцаў аб адказнасці за злачынствы.

Далей з'явілася праблема: не ўсе лідары хацелі арганізацыі суда. Брытанскі прэм'ер Уінстан Чэрчыль, які не любіў камуністаў, нечакана для сябе заўважыў, што апынуўся на адным баку з Іосіфам Сталіным. Чэрчыль не жадаў трыбунала, бо баяўся, што нацысты выкарыстаюць працэс для прапаганды. А Сталін баяўся, што на судзе ўсплывуць злачынствы СССР накшталт нападу на Фінляндыю ці расстрэлаў у Катыні.

Пасля доўгіх перамоў, у якіх не апошнюю ролю адыграла пазіцыя ЗША, бакі дамовіліся, што суд усё ж будзе. Яго схему распрацоўвалі доўга з-за рознагалоссяў паміж краінамі. Напрыклад, навастворaная Камісія аб'яднаных нацый па міжнародных злачынствах не магла эфектыўна працаваць, бо СССР патрабаваў там сем месцаў — для сваіх рэспублік, што пацярпелі ад нацыстаў, у тым ліку БССР. Вялікабрытанія і ЗША былі супраць уключэння фіктыўных дзяржаў, і таму перамовы зайшлі ў тупік.

Праз нейкі час усё ж дамовіліся, у тым ліку пра тое, што найбольш адыёзныя фігуры атрымаюць максімальна суровае пакаранне — смерць.

У лютым 1945-га на Ялцінскай канферэнцыі (гл. пра яе артыкул у № 8/2019 «Нашай гісторыі») паўстала ідэя правесці трыбунал максімальна публічна, пад пільнымі поглядамі журналістаў і фатографаў. Каб увесь свет убачыў, як асуджаюць галоўных злачынцаў XX стагоддзя.

Галоўны дакумент Міжнароднага ваеннага трыбунала — «Хартыя» — быў падпісаны 8 жніўня 1945-га. Пасля прыйшлося ўзгадняць спіс абвінавачаных, бо кожная краіна прапаноўвала свае кандыдатуры. Напрыклад, СССР дамогся, каб туды дадалі двух чалавек — адмірала Эрыха Рэдэра і прапагандыста Ганса Фрычэ. Але былі і тыя, каго са спісу выкраслілі, як прамыслоўца Густава Крупа (з-за пагаршэння ягонага псіхічнага і фізічнага здароўя).

Канчатковы спіс асоб, арганізацый і злачынстваў быў гатовы 6 кастрычніка. Пачатак трыбунала прызначылі на 20 лістапада 1945-га ў Нюрнбергу. Месца было абранае нездарма: ▸

## А раней судзілі?

Да падрыхтоўкі трыбунала прыцягнулі нават гісторыкаў права, якія шукалі прэцэдэнты ў мінулым. Адным з іх стала сітуацыя з французскім імператарам Напалеонам Банапартам, якога ў 1815-м пасля ўцёкаў з вострава Эльба абвясцілі міжнародным злачынцам. Але Банапарта ўрэшце пакаралі толькі выгнаннем на богам забыты востраў Святой Алены і не абвінавачвалі ў свядомых забойствах мірных грамадзян.

Спроба стварыць міжнародны трыбунал за злачынствы супраць палонных і грамадзян была і пасля Першай сусветнай вайны. У Версальскай мірнай дамове нават меліся пункты, якія прадугледжвалі стварэнне спецыяльнай арганізацыі. Яна павінна была асудзіць германскага імператара Вільгельма II, чыноўнікаў і генералаў «за парушэнне маралі і міжнародных дамоў», а таксама «за парушэнне законаў і звычаяў вайны». Аднак Нідэрланды, куды збег былы манарх, у 1920-м адмовіліся яго выдаць. А германскі ўрад заявіў, што спробы судзіць усіх астатніх без самога Вільгельма II прывядуць да бунтаў. Праўда, немцы паабяцалі пакараць 45 галоўных злачынцаў, але да судоў дайшлі толькі 12 з іх. Прытым палову апраўдалі, а яшчэ адзін адразу выйшаў на волю. У выніку кароткія турэмныя тэрміны атрымалі толькі пяцёра, што Антанта назвала «здзекам з правасуддзя».



SHUTTERSTOCK.COM, BY CHRISDORNEY

**Судовая зала №600 Нюрнбергскага палаца юстыцыі.** Менавіта тут слухалі галоўных злачынцаў XX стагоддзя.

▶ у гэтым горадзе ў часы Трэцяга рэйха праходзілі з'езды кіраўнічай Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі (НСДАП). Было сімвалічна асудзіць нацызм у адным з яго цэнтраў.

### Суды

На час трыбунала Нюрнберг стаў самым бяспечным горадам на планеце. Дзяржавы-пераможцы баяліся, што на волі засталіся актыўныя нацысты, якія паспрабуюць адбіць аднапартыйцаў. Таму вуліцы патрулявалі не толькі вайскоўцы, але нават і танкі! Сам трыбунал складаўся з галоўных суддзяў, іх намеснікаў і абвінаваўцаў. Старшынёй стаў англійскі лорд юстыцыі Джэфры Лоўрэнс. Кіраўніком савецкай дэлегацыі прызначылі генерал-маёра юстыцыі Іону Нікітчанку, амерыканскай — былога генеральнага пракурора Фрэнсіса Бідла, а французскай — прафесара права Анры Данед'е дэ Вабра.

Кожны дзень суддзі, іх памочнікі, абвінавачаныя, журналісты, сведкі і іншыя збіраліся ў будынку трыбунала. Сам працэс не быў судзілішчам, усё ішло па законе. Кожны з нацыстаў атрымаў адваката, і яны сапраўды спрабавалі абараніць сваіх кліентаў. Пасяджэнні вяліся на чатырох мовах: англійскай, рускай, французскай і нямецкай. Каб ўсе маглі іх зразумець, працавалі і людзі, і сістэма сінхроннага перакладу ад знакамітай кампаніі *IBM*. Гэтая ж кампанія забяспечыла прысутных мікрафонамі і навушнікамі. Уся тэхніка была найлепшай якасці — трыбунал стаў галоўнай падзеяй у свеце, за якой сачылі ў розных кутках Зямлі. Не забыліся і пра стыль — амерыканскія ахоўнікі ў белых касках і белых пальчатках надоўга сталі сімвалам працэсу.

**Дакументальны фільм пра нацысцкія канцэнтрацыйныя лагеры**, падрыхтаваны амерыканскай арміяй для Нюрнбергскага працэсу ў якасці сведчання злачынстваў. **Не глядзіце, калі вы ўражлівы чалавек.**



### Бясконцы працэс

Міжнародны ваенны трыбунал у Нюрнбергу засядаў амаль год: з 20 лістапада 1945-га па 1 кастрычніка 1946-га. За гэты час прайшло 403 пасяджэнні. Суддзям і іх памочнікам прыйшлося прагледзець 300 тысяч пісьмовых паказанняў і больш за 3 тысяч дакументаў. Сярод іх знаходзіліся таксама доказы ў форме фатаграфій і кінаматэрыялаў — хронік, якія здымалі немцы і саюзнікі.

І нават пасля кастрычніка 1946-га працэс не скончыўся: да 1949 года ў Нюрнбергу прайшлі яшчэ 12 працэсаў, на якіх разглядаліся справы амаль двухсот нацыстаў. Дзясяткі тысяч гітлераўцаў судзілі і ў іншых месцах Еўропы. ААН прызнала іх паводзіны злачынствамі, якія не маюць тэрміну даўніны, таму нацыстаў часам караюць нават у XXI стагоддзі, нягледзячы на іх надта паважны ўзрост.

Поўны збор дакументаў працэсу складаецца з 42 тамоў. На жаль, СССР не выканаў рашэнне трыбунала і не апублікаваў большую частку дакументаў. Найбольш поўнае выданне па-руску з'явілася толькі ў 1987–1999 гадах і складае ўсяго 8 тамоў. Мабыць, таму, што на працэсе было шмат фактаў, якія не ўкладаліся ў савецкую канцэпцыю гісторыі Другой сусветнай вайны.

У некаторыя моманты суддзям у Нюрнбергу даводзілася нялёгка. Многія абвінавачаныя актыўна выступалі ў сваю абарону, іх падтрымлівалі і адвакаты. Знайшлося нямала тэм, якія саюзнікі жадалі замесці пад дыван. Скажам, калі ішло абмеркаванне злачынстваў супраць міру, немцы патрабавалі разгледзець усе аналагічныя прыклады. У тым ліку напад СССР на Фінляндыю, удзел Чырвонай арміі ў падзеле Польшчы і планы Вялікабрытаніі і Францыі захапіць Нарвегію, каб не аддаць яе Германіі. У выніку саюзнікі дамовіліся ўвогуле не слухаць апраўданні накшталт «вы таксама гэта рабілі».

## Нюрнбергскі працэс не быў судзілішчам, усё на ім ішло па законе

Лягчэй стала, калі дайшло да ваенных злачынстваў. Суддзі пабачылі тысячы доказаў таго, што тварылі нацысты на акупаваных тэрыторыях. Гітлераўцы забівалі жыхароў, вывозілі іх у Трэці рэйх, бралі закладнікаў, расстрэльвалі палонных, знішчалі населеныя пункты і вялі палітыку германізацыі. Хапала сведак і па тэме злачынства супраць чалавецтва (Халакосту і іншых). Было лёгка даказаць, што нацысты каралі сваіх праціўнікаў, катавалі і прыніжалі сотні тысяч чалавек, забівалі ў канцлагерах яўрэяў,

славян, прадстаўнікоў іншых нацый. Нарэшце, чацвёртым (у храналагічным парадку першым) абвінавачваннем сталі планы НСДАП па падрыхтоўцы агрэсіі супраць усяго свету. Тут таксама ўсё было лёгка даказаць з дапамогай дакументаў, у першую чаргу нямецкіх.

### Галоўныя героі

Пераказваць увесь ход працэсу не будзем. Галоўнае, што кожнаму абвінавачанаму далі шанец апраўдацца. На заслухоўванне доказаў абвінавачвання былі патрачаныя толькі 74 дні, тады як на контраргументы — 133. Гэта не дапамагло амаль нікому. Трыбунал апраўдаў толькі трох чалавек. Імі сталі дыпламат і палітык Франц фон Папэн, прапагандыст Ганс Фрычэ і эканаміст Ялмар Шахт. Трохі пазней усе яны былі асуджаныя камісіямі па дэнацыфікацыі Германіі.

Нямецкі падводнік (і апошні кіраўнік Трэцяга рэйха, які быў ім толькі некалькі тыдняў пасля самазабойства Адольфа Гітлера) Карл Дзёніц атрымаў невялікі тэрмін — 10 гадоў зняволення. Частка суддзяў прапаноўвала яго павесіць, аднак на абарону Дзёніца сталі маракі ЗША. Да іх звярнуўся адвакат Дзёніца, і сумленны амерыканскі адмірал Чэстэр Німіц мусіў прызнаць, што ягоныя ўласныя падначаленыя ў барацьбе з японцамі дзейнічалі не лепш, чым нямецкія капітаны субмарын.

Акрамя Дзёніца ў турму адправілі яшчэ шасцярых нацыстаў, а 12 прысудзілі да павешання. У рэальнасці ж пакаралі толькі дзесяцярых. Начальнік партыйнай канцылярыі НСДАП і асабісты сакратар Гітлера Марцін Борман не трапіў на шыбеніцу, бо яго судзілі завочна (толькі праз шмат гадоў стала вядома, што ▶





**На лаве падсудных у Нюрнбергу была і жанчына. Гэта лекарка Герта Оберхойзер, якая ўдзельнічала ў бесчалавечных эксперыментах на людзях у Асвенцыме.** Ёй прысудзілі 20 гадоў турмы, але прабыла яна ў няволі толькі 5, пасля чаго была адпушчаная за добрыя паводзіны. Цікава, што пасля турмы Герта нават уладкавалася працаваць тэрапеўтам, але адзін з пацыентаў яе пазнаў. Падняўся скандал, і былую эксперыментатарку пазбавілі права на медычную прафесію. Герта Оберхойзер пражыла 67 год і памерла ў 1978 годзе.

### 12 вышэйшых нацысцкіх функцыянераў, якім у Нюрнбергу быў вынесены смяротны прысуд

1. Віцэ-канцлер Германіі, рэйхсміністр авіяцыі і старшыня рэйхстага Герман Герынг.
2. Начальнік партыйнай канцылярыі НСДАП і асабісты сакратар Гітлера Марцін Борман.
3. Начальнік Галоўнага ўпраўлення імперскай бяспекі СС Эрнст Кальтэнбрунэр.
4. Міністр замежных спраў Трэцяга рэйха Іахім фон Рыбентроп.
5. Начальнік штаба Вярхоўнага камандавання вермахта Вільгельм Кейтэль.
6. Адзін з галоўных ідэолагаў НСДАП, начальнік яго Замежнапалітычнага ўпраўлення, рэйхсміністр усходніх акупаваных тэрыторый Альфрэд Розенберг.
7. Генерал-губернатар акупаванай Польшчы (т. зв. Генерал-губернатарства) Ганс Франк.
8. Рэйхсміністр унутраных спраў Германіі ў 1933–1943 гадах, рэйхспратэктар Багеміі і Маравіі ў 1943–1945-м Вільгельм Фрык.
9. Ідэолаг расізму, галоўны рэдактар антысеміцкай газеты *Der Stürmer* («Штурмавік») Юліус Штрэйхер.
10. Генеральны ўпаўнаважаны па выкарыстанні працоўнай сілы Фрыц Заўкель.
11. Рэйхскамісар Нідэрландаў, былы лідар аўстрыйскіх нацыстаў Артур Зэйс-Інкварт.
12. Начальнік штаба аператыўнага кіравання Вярхоўнага камандавання вермахта Альфрэд Ёдль.

▶ ён загінуў яшчэ ў маі 1945-га). А Герман Герынг пазбег кары, бо скончыў жыццё самагубствам.

Трыбунал разглядаў справы не толькі людзей, але і арганізацый, што таксама адрознівала яго ад іншых судоў. Нацысцкая партыя (НСДАП), СС, Гестапа і Служба бяспекі (СД) былі прызнаныя злачыннымі структурамі. Караць іх удзельнікаў збіраліся ў залежнасці ад месца ў іерархіі. Напрыклад, большасць эсэсаўцаў вырашылі аддаць пад суд, акрамя навабранцаў, якія не паспелі штосьці нарабіць. А вось шараговых чальцоў НСДАП, калі яны нічога дрэннага фармальна не рабілі, пераследаваць не збіраліся. Супрацоўнікаў Генеральнага штаба і многіх палкаводцаў увогуле апраўдалі, за выключэннем найвышэйшага кіраўніцтва. Тым не менш усе гэтыя арганізацыі (разам са штурмавымі атрадамі (СА), урадам Трэцяга рэйха і вярхоўным камандаваннем вермахта) былі забароненыя ў межах дэнацыфікацыі і дэмілітарызацыі.

## Наступствы для чалавецтва

У шматлікіх артыкулах і кнігах працэс у Нюрнбергу пазней называлі «гіганцкім крокам наперад у правах чалавека». Аспрэчыць гэта немагчыма. На працягу стагоддзяў і тысячагоддзяў войны заставаліся неад'емным атрыбутам існавання *homo sapiens*. Побач з імі заўжды ішла жорсткасць, часам неверагодная. Як гэта было ў сярэдзіне XVII стагоддзя, калі беларускія землі страцілі да паловы насельніцтва пасля нападу на Рэч Паспалітую Маскоўскай дзяржавы. Але вельмі доўга вайскоўцаў ніхто не прымушаў адказваць за свае паводзіны.



**Бадзёры былы кіраўнік люфтвафэ Герман Герынг** падчас судовага апытання.

WIKIMEDIA COMMONS

## Зорны час Германа Герынга

Напрыканцы вайны вядомы нацыст Герман Герынг захварэў на дэпрэсію. Адзінае, што радавала кіраўніка люфтвафэ (так звалася нямецкая авіяцыя) і нямецкай прамысловасці — наркотыкі. Схільным да іх Герынг стаў пасля таго, як лячыўся ад ранення, атрыманага падчас «піўнога путчу» ў 1923-м.

Але ў Нюрнбергу Герынг, якога ў турме пазбавілі наркотыкаў і пасадзілі на дыету, кардынальна змяніўся. Ён схуднеў на 27 кілаграмаў, а пасля ломкі зноў стаў актыўным. На працэсе ён часта браў ініцыятыву ў свае рукі, бо нарэшце дамогся галоўнага статусу ў жыцці — стаў «нацы нумар 1». Яго не турбавала, што гэтая «перамога» вядзе да эшафота. Герынг усміхаўся для фатаграфій, спрачаўся з юрыстамі і сведкамі, адмаўляў свой удзел у забойствах мірных грамадзян. Ён нават сцвярджаў, што выступаў супраць агрэсіі і быццам бы спрабаваў пераканаць Гітлера не пачынаць вайну! Даказаць гэта былы паветраны ас не здолеў: усе дакументы сведчылі супраць яго.

Аднак Герынг зрабіў іншае — збег ад правасуддзя, як і ягоны былы кумір. Збег на той свет, бо яму таемна перадалі атруту, якую тытулаваны нацыст і прыняў за некалькі гадзін да ўзыходжання на шыбеніцу. Хто дапамог у гэтым, застаецца загадкай да сённяшняга дня.

Суд над нацыстамі змяніў гэтую практыку назаўжды. Адным з галоўных яго вынікаў стала з'яўленне тэрміна «злачынны загад». Раней генералы, афіцэры ці жаўнеры маглі схавацца за плячыма вышэйшага кіраўніцтва. Нюрнбергскі трыбунал пастанавіў інакш: «Выкананне загада ўрада ці кіраўніка не вызваляе ад адказнасці, калі фактычна быў магчымы свядомы выбар».

З тых часоў гэтая канцэпцыя засталася амаль нязменнай. Канечне, вайскоўцаў пазбаўляюць адказнасці, калі яны не маглі ведаць, што загад злачынны. Аднак гэта не датычыць актаў генацыду, да якіх зараз адносіцца многае, у тым ліку масавыя згвалтаванні жанчын. Тэрмін «злачынны загад» ёсць

і ў беларускім заканадаўстве — яму прысвечаны артыкул 40 Крымінальнага кодэкса.

Таксама ў міжнародным заканадаўстве з'явіўся тэрмін «ваенныя злачынствы», за якія трэба жорстка караць. Для кожнага выпадку прапанавалі ствараць асобныя арганізацыі, адной з іх стаў у 1993-м Гаагскі міжнародны трыбунал па былой Югаславіі. Ён асудзіў дзясяткі сербаў, харватаў, косаўскіх албанцаў і баснійцаў, што парушалі правы чалавека. Сваю працу трыбунал скончыў толькі ў 2017-м, папрацаваўшы амаль чвэрць стагоддзя.

## Ахвяра сумлення?

Адной з нявырашаных загадак трыбунала стала гісторыя **Мікалая Зоры** (1907–1946). Гэты савецкі юрыст быў вядомы сваёй сумленнасцю. Яшчэ ў канцы 1930-х ён зрабіў выснову, што многія грамадзяне ў СССР былі рэпрэсаваныя незаконна. У гады Другой сусветнай Мікалай Зора быў ваенным пракурорам, а 28 снежня 1945-га стаў памочнікам галоўнага абвінаваўцы ад СССР — Рамана Рудэнкі.
На гэтай пасадзе ён прабыў менш за пяць месяцаў: 22 мая Зору знайшлі мёртвым. Чыніць самагубства савецкі юрыст не збіраўся, таму ёсць версія, што яго забілі. Магчыма, ён даведаўся пра ўдзел СССР у Катынскай справе ці прачытаў нешта крамольнае пра сакрэтныя пратаколы да «Пакта Молатава — Рыбентропа». Як сумленны чалавек, Зора мог паспрабаваць пераканаць кіраўніцтва раскрыць усю праўду свету, нават калі праўда будзе нявыгаднай Савецкаму Саюзу. Спроба гэта зрабіць магла напужаць Рудэнку і іншых, і яны паведамілі пра свавольнага юрыста ў Маскву. А там вырашылі праблему вядомым спосабам: «Няма чалавека — няма праблемы». Але гэта толькі версія. На жаль, дакументы па справе Зоры (калі яны захаваліся) дагэтуль ляжаць дзесьці ў сакрэтных архівах.

**«Выкананне загада ўрада ці кіраўніка не вызваляе ад адказнасці, калі фактычна быў магчымы свядомы выбар»**

Міжнародныя працэсы супраць тых, хто катуе, гвалтуе ці забівае людзей, не засталіся ў мінулым. Канечне, канстытуцыі многіх краін прызнаюць вяршэнства правоў чалавека. Напрыклад, у другім артыкуле Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь сказана: «Чалавек, яго правы, свабоды і гарантыі іх рэалізацыі з'яўляюцца найвышэйшай каштоўнасцю і мэтай грамадства і дзяржавы». Вось толькі далёка не заўсёды словы падмацоўваюцца справамі. Парушэнні правоў здараюцца не толькі падчас знешніх, але і ўнутраных канфліктаў. І тады сусветнай супольнасці прыходзіцца казаць сваё важкае слова.

Тыповым прыкладам гэтага стаў Міжнародны суд па С'ера-Леонэ (ёсць такая дзяржава на захадзе Афрыкі), які пакараў удзельнікаў грамадзянскай вайны за забойствы, катаванні, выкраданне людзей і іншыя парушэнні гуманітарнага права.

## Стоп-фэйк!

У апошні час у Сеціве можна сустрэць сцверджанні, быццам у Нюрнбергу судзілі не толькі германскія арганізацыі, але і беларусаў ды ўкраінцаў, якія з імі супрацоўнічалі. Але на самай справе такога не было. Працэс быў арганізаваны, каб асудзіць нямецкі нацызм і яго прадстаўнікоў. А калабарантамі-злачынцамі, якія дапамагалі немцам, займаліся суды тых краін, у якіх іх арыштоўвалі.

Праўда, у частцы дакументаў працэсу згадвалася імя лідара ўкраінскіх нацыяналістаў Сцяпана Бандэры і яго паплечнікаў. Але савецкія прадстаўнікі не здолелі пераканаць калег у тым, што трэба выдаць Маскве ўкраінскіх нацыяналістаў. Падстаў для гэтага не было таму, што амаль усю вайну сам Бандэра правёў у нямецкім канцлагеры. І нават калі адтуль выйшаў, адмовіўся супрацоўнічаць з Гітлерам, пакуль той не прызнае незалежнасць Украіны.

Іншы навамодны фэйк сцвярджае, што трыбунал нібыта забараніў бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоню» як «фашысцкія». Але гэтая ідэя не магла нават прыйсці ў галаву суддзям, бо нацыянальная сімволіка розных народаў пры немцах выкарыстоўвалася ва ўсіх акупаваных краінах. Ніхто не рызыкнуў бы прапанаваць, напрыклад, французам ці венграм адмовіцца ад сваіх нацыянальных сцягоў. І бездзяржаўныя на той момант народы не былі ніякім выключэннем.

Ён працаваў з 2002 па 2013 год і прысудзіў да турэмных тэрмінаў 10 чалавек. Сярод іх былі палітыкі, вайскоўцы і нават прэзідэнт суседняй Ліберыі, які прадаваў зброю грамадзянам С'ера-Леонэ. І гэты суд наўрад ці стане апошнім такім у гісторыі... ◆

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## Эксгумуюць Катынь

Проста напярэдадні нашай Ночы расстраляных паэтаў, якая традыцыйна праводзіцца 29 кастрычніка, расійскія СМІ паведамілі пра вынікі чарговай пошукавай экспедыцыі ў Катынскім лесе пад Смаленскам — на тэрыторыі расійска-польскага мемарыяла «Катынь».

Там раскапалі 14 расстрэльных ям і выявілі парэшткі больш чым 540 чалавек, забітых ад кулі ў патыліцу.

Гэта не магілы афіцэраў польскай арміі — сярод якіх былі беларусы з Заходняй Беларусі, — расстраляных тут у 1940 годзе, з чым мы прывыклі асацыяваць «Катынь» (пра гэта пісаў Сяргей Кузняцоў у № 3/2020 «Нашай гісторыі»). У Катынскім лесе ў канцы 1930-х расстрэльвалі і савецкіх грамадзян, а ў раскапаных ямах ляжалі якраз яны. Гэта лёгка вызначалася не толькі па фрагментах вопраткі ды абутку, але і па дзяржаўных узнагародах царскага часу — відаць, сярод ахвяр былі былыя афіцэры.



**Мікалай Нікалаеў, загадчык аддзела рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі** (знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу), а па сумяшчальніцтве даследчык гісторыі беларускага кнігадрукавання, часта знаёміць падпісчыкаў сваёй старонкі з цікавымі старадрукамі.
На гэты раз ад яго — гаваркое фота, наколькі разнастайнымі ў фарматах былі беларускія кнігі XV–XVI стагоддзяў. Найбольшая тут — Берасцейская Біблія 1563 года, а самая малая — магілёўскі малітваслоў 1695-га. Паміж імі — Віленскае Евангелле з сігнатурамі 1600-га. Усе кнігі захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі.



64

БЕЛОРУССКАЯ ССР

1-я категория

1. АЖГИРЕЙ (ВОЛЬНЫЙ) Анатолий Устинович
2. АРОНОВ Наум Моисеевич
3. АФАНАСЬЕВ Игнатий Ильич
4. БАБКОВ Семен Дмитриевич
5. БЕЙЛИН Соломон Хаимович
6. БЕЛОЦЕРКОВСКИЙ Абрам Давыдович
7. БОРЗУНОВ Георгий Федорович
8. БУРДЕЙКО Иван Семенович
9. ВАРШАВСКИЙ Станислав Мельхиорович
10. ВАСИЛЬЕВ-ВАШИЛИН Григорий Никитич
11. ГАБАЕВ Мовша-Нохим Израилевич
12. ГАВРУСЕВ Афанасий Степанович
13. ГЕЙШТЕР Антон Михайлович
14. ГИНЗБУРГ Яков Ефимович
15. ГОСИН Абрам Менделевич
16. ГУРЕВИЧ Нохман Гиршевич
17. ГУРСКИЙ Константин Иосифович
18. ДАЙЛИДОВИЧ-ДУДАРЬ Александр Александрович
19. ДМИТРОВ Николай Андреевич
20. ДРАКОХРУСТ Абрам Генрихович
21. ДЬЯКОВ Ананий Иванович
22. ЕЛЕНСОН Гирш Борухович
23. ЕРМАКОВ Николай Павлович
24. ЖИВИЦКИЙ Иван Степанович
25. ЗАМАЛИН Наум Михайлович
26. ЗЕНКОВИЧ Александр Савонович
27. ИВАНОВ Александр Васильевич
28. ИСПРАВНИКОВ Прохор Иванович

**Словазлучэнне «расстрэльныя спісы» ў дачыненні да рэпрэсаваных прадстаўнікоў інтэлігенцыі мы чуем даволі часта. А як гэтыя спісы выглядаюць, нагадаў Зміцер Кузьменка.** Яго каментар да размешчаных у фэйсбуку копій спіса: «Бяздушны энкавэдысцкі машынапіс. Прозвішчы, імёны, імёны па бацьку. Гэта адзін з соцень сталінскіх расстрэльных спісаў. Першы цалкам беларускі. Падпісаны асабіста Сталіным і Молатавым 15 верасня 1937 года. І ў ім — імёны нашых пісьменнікаў і паэтаў. Маладых і бязмежна таленавітых. Міхася Чарота. Міхася Зарэцкага. Алеся Дудара. Тодара Кляшторнага. Анатоля Вольнага. Валера Маракова. Юлія Таўбіна. Юркі Лявоннага... Ад моманту, калі быў пастаўлены страшны сталінскі подпіс, да чорнай даты ў гісторыі беларускай літаратуры прайшло 44 дні».




Да таго ж шукальнікі знайшлі знакі адрознення супрацоўнікаў НКВД і суаднеслі іх з двума расстралянымі ў 1938 годзе чэкістамі. Дарэчы, лішняе сведчанне, што гэта зусім не літаратурны, прыдуманы Васілём Быкавым у апавяданні «Жоўты пясочак» прыём, а рэальная практыка, калі ўслед за «ворагамі народа» ў яму клаліся і самі выканаўцы.

Парэшткі пакуль даследуюць, а пасля перапахаваюць ужо ў персаніфікаваных калектыўных магілах.

Расійска-польскі мемарыяльны комплекс «Катынь» існуе з 2000 года, ён створаны на месцы масавых расстрэлаў, якія праводзіліся карнымі органамі СССР. Польскія афіцэры (у іх ліку беларусы) перапахаваныя на асобных вайсковых могілках, там ляжыць амаль 4,5 тысячы расстраляных. Савецкія ж грамадзяне ляжаць у гэтак званай «Даліне смерці», якая ўяўляе сабой шэраг асобных расстрэльных ям. Раскопкі гэтых ям, якія вядуцца ад 2018 года, і эксгумацыя парэшткаў дазваляюць выявіць дакладную колькасць ахвяр і суаднесці парэшткі з канкрэтнымі імёнамі рэпрэсаваных.

У Курапатах такое дагэтуль не зроблена.

## Егіпет ізноў актуальны

Прамінае другі месяц, як у Егіпце непадалёк ад Каіра праводзяцца раскопкі старажытнага некропаля Сакара. І другі месяц галоўныя навіны гістарычных выданняў свету распавядаюць пра адметныя знаходкі егіпецкіх археолагаў.

Напрыклад, месяц таму пісалі пра адкрыццё пахавальні, што знаходзілася на глыбіні 11 м і ўтрымлівала 13 закрытых (адносна егіпецкіх рэалій гэта трэба чытаць як «неразрабаваных») драўляных трун, узрост якіх — больш за 2,5 тысячы гадоў.

Гэты месяц быў яшчэ больш шчодры, прычым на знаходкі ў вельмі добрым стане, што адметна. Бо пасля той першай шахты вучоныя адкрылі яшчэ дзве — 10 і 12 метраў глыбінёй, якія вялі да прасторных, багата дэкараваных насценным жывапісам і скульптурамі памяшканняў для трун. Драўляныя саркафагі ў некаторых нішах ляжалі проста адзін на адным, але пры гэтым добра захаваліся.

Усе гэтыя саркафагі, якіх на сёння ўжо 59, па егіпецкай традыцыі маюць форму чалавечага цела і пакрытыя роспісам — на ім нават колер асабліва не змяніўся. У трунах ляжаць муміі святароў, чыноўнікаў і іншай эліты XXVI дынастыі фараонаў.

Разам з саркафагамі ў пахавальнях знаходзяць упрыгожанні, амулеты і бронзавыя, часам інкруставаныя каштоўнымі камянямі пахавальныя статуэткі егіпецкіх багоў.

Усе знаходкі пасля лабараторнага даследавання пяройдуць у Вялікі егіпецкі музей. Самі раскопкі, да якіх яўна неабыякавы быў бы адзін з герояў гэтага нашага нумара Міхал Тышкевіч, яшчэ будуць працягвацца, бо навукоўцам відавочна, што знайшлі яны далёка не ўсё. ◆




**Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў сваіх сацсетках змясціў выяву Мікалая Цудатворцы** з рэестра прыбыткаў і выдаткаў Мікалаеўскай царквы ў Магілёве. Выява, несумненна, арыгінальная, нават вядомы аўтар — Андрэй Грум. Але больш прыцягвае характарыстыка, якую далі архівісты праваслаўнаму святому: «Мікалай Цудатворац — самы папулярны святы на беларускіх землях Вялікага Княства Літоўскага. У яго гонар была асвечана найбольшая колькасць праваслаўных і ўніяцкіх храмаў у XVI–XVIII стагоддзях. Святы Мікалай традыцыйна лічыцца апекуном усіх вандроўнікаў, нявінна асуджаных і лжыва абгавораных».

